# ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

25 сакавіка 1994 г. № 12 (3734) Кошт 50 руб.


СЁННЯ — ДЗЕНЬ ВОЛІ

## НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ — ГЭТА...

***Эсэ «Незалежнасць — гэта...» Уладзімір АРЛОЎ напісаў у лютым 1990 года. Здавалася б, гэтаму твору, як увогуле злабадзённай публіцыстыцы, наканаваны кароткі век. Але прайшло чатыры гады, а чытаецца эсэ як напісанае сёння. Бо такую маем палітычную рэчаіснасць. Таму і ёсць сэнс сёння, на 76-я ўгодкі абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, нагадаць аб тым, што ёсць Незалежнасць.***

Незалежнасць — гэта калі ты з'явішся на свет у радзільні, дзе няма самых стэрыльных на зямлі савецкіх прусакоў, затое ёсць аднаразовыя шпрыцы й пялюшкі.

Незалежнасць — гэта калі твой бацька пойдзе ў ЗАГС, каб атрымаць дакумент, што ты сапраўды нарадзіўся і што цябе назвалі ў гонар дзеда Рыгорам, і кабета, якая сядзіць там, спакойна выпіша яму гэты дакумент, а не выцягне са стала «Справочник личных имен народов СССР» і не будзе, размахваючы ім, істэрычна тлумачыць твайму бацьку, што ён можа без праблем назваць сына Файзулой ці нават Мамаем, а вось Рыгорам — не можа, бо такога імя проста не існуе ў прыродзе /а существует нормальное человеческое имя Григорий/.

Незалежнасць — гэта калі ты пойдзеш у школу і цябе будуць вучыць на тваёй мове /а дзяўчынку Гражынку, якая табе падабалася ў дзіцячым садзе, — на яе мове, а твайго суседа хлопчыка Мішу, тату якога завуць Ісакам, — на ягонай, а другога твайго суседа хлопчыка Алёшу, бацькі якога прыехалі сюды, бо ў іхнім горадзе на Волзе, каб купіць малому малака, трэба займаць чаргу а пятай гадзіне раніцы, — на ягонай/. Цябе будуць вучыць на тваёй мове, і дзеля гэтага тваім тату й маме не трэба будзе ўсё лета збіраць па кватэрах заявы бацькоў, якія не тое каб не хацелі вучыць сваіх дзяцей так, як твае тата і мама, а проста ніколі пра гэта не думалі, бо выраслі пры інтэрнацыяналізме. І гэтыя заявы не трэба будзе губляць тры разы дырэктару і два — сакратарцы, і ў першы вераснёвы дзень ты не пачуеш на ўрачыстай лінейцы, што «год от года хорошеет материально-техническая база нашей школы», а прыйшоўшы ў свой клас, не даведаешся, што, дзякуючы няўхільнаму клопату партыі і ўрада, у вас на ўвесь клас толькі адзін лемантар і дзве «матэматыкі» на роднай мове.

Незалежнасць — гэта калі твая дружына не будзе змагацца за права насіць імя Паўліка Марозава ці Аляксандра Мяснікова, бо ўсе вы цудоўна ведаеце, як любіў свайго татку Паўлік і як любіў беларусаў Мяснікоў.

Незалежнасць — гэта калі ты будзеш студэнтам і на лекцыі па вышэйшай матэматыцы твой смуглявы раўналетак з Мадагаскара, які вучыцца за грошы сваёй, а не тваёй краіны, нахінецца да цябе і запытае, што значыць слова «імавернасць», і ты па-французску растлумачыш яму.

Незалежнасць — гэта калі ты будзеш служыць у войску не далей за памежныя горад ці вёску твае зямлі, затое табе ніколі не загадаюць фарбаваць траву і прыбіраць тэрыторыю «вот отсюда и до обеда». У нядзелю ты зможаш прыехаць да бацькоў ці да свае дзяўчыны, затое ніхто не назаве цябе «бульбашом», а твайго сябра — «черножопым» за тое, што вы думаеце і гаворыце ў сне па-свойму, і выдатнікі баявой і палітычнай падрыхтоўкі не будуць у працэсе гэтай падрыхтоўкі рабіць табе «велосипед», і табе ніколі не загадаюць вастрыць сапёрную рыдлёўку, каб акапацца ў Баку ці ў Тбілісі.

Незалежнасць — гэта калі твая дзяўчына кажа, што хоча на выхадныя ў Вену, і ты з чыстым сумленнем абяцаеш ёй, што ў суботу вы вып'еце кавы насупраць палаца Шонбрун, і ведаеш, што перад вашаю вандроўкаю ніхто не будзе высвятляць у цябе, ці быў ты ў дзяцінстве габрэем, а таксама, ці быў ты раней за мяжою і калі вярнуўся адтуль, дык з якой мэтай.

Незалежнасць — гэта калі на Дзяды, у Дзень памяці продкаў, ты ідзеш на могілкі і ведаеш, што паставіш там свечку й пакладзеш кветкі, а не станеш удзельнікам выпрабавання балончыкаў з нервова-паралітычным газам ці новае мадэлі гумовага дручка.

Незалежнасць — гэта калі твой сын прынёс са школы пяцёрку па гісторыі і ты хваліш яго за гэтую пяцёрку, бо ведаеш, што ён атрымаў яе не па тым прадмеце, дзе вучаць пра Лядовае пабоішча і перамогу калектывізацыі,

(Працяг на стар. 2 )



## ПАКЛОН ВАМ, СТАРЭЙШЫНЫ!

Пад небам веснім — высокім і стылым,
На скразняках падзей і часоў
Вы стаіце, акцёры, ўзняўшы крылы,
Нябачныя, як цені вашых слоў.

Хай будучыні цёмнае прадонне
Вам пагражае хуткім забыццём —
Што вам да будучыні?.. Сёння
Вы ахвяруеце душою і жыццём.

Ў кароне папяровай, несапраўднай,
З драўлянымі тарчою і мячом,
Вы за Дабро, за Ісціну, за Праўду
На сцэне стаіце: к плячу — плячо.

І вашы постаці
скрозь святасцю працяты,
І вечнасці рака праз вас цячэ...
Няхай жыве Майстэрства!
Ваша свята —
Сівых галоў і маладых вачэй!

**Генадзь ДАВЫДЗЬКА,**
**акцёр Нацыянальнага тэатра**
**імя Янкі Купалы**



*18 - 20 сакавіка адбыўся фестываль майстроў сцэнічнага мастацтва «Маладзечанская сакавіца-94». Пра гэтую незвычайную падзею — на стар. 4*

# У ЧЫХ ІНТАРЭСАХ?

## З НАГОДЫ АДНОЙ АКЦЫІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА

У людзей з учарашнім мысленнем і светаадчуваннем сярод рэалій посткамуністычнага грамадства найбольшую непрыязь выклікае, бадай, адмена цэнзуры, сяк-так усталяваная свабода сродкаў масавай інфармацыі. Свабода хоць бы ў тым сэнсе, што рэдактару зараз не трэба з трывогай пазіраць на тэлефон у чаканні званка «зверху» з чарговымі «каштоўнымі ўказаннямі», а то і з суровай «накачкай» за дапушчаныя «праграшэнні», за тое, што газета дрэнна выконвае ролю «прапагандыста і агітатара».

Але — стоп! Падчас разбіральніцтва ў Вярхоўным Савеце з «Народнай газетай» мне падалося, што час не тое што спыніўся, а нават пачаў адкатвацца назад. Бо некаторыя прамоўцы, прадстаўляючыя пракамуністычную большасць парламента, абвінавачваючы газету ва ўсіх смяротных грахах, адным з гэтых «грахоў» і палічылі страту рэдакцыяй «НГ» функцыі «прапагандыста і агітатара». Трэба меркаваць, прапагандыста здабыткаў парламента /дзякуй богу, што ўжо не ўсемагутнага камуністычнага вучэння, хоць, прызнацца, мяне не вельмі здзівіла б, каб нехта з гэтых прамоўцаў загаварыў аб абавязку газеты быць «падручным», «прывадным пасам» партыі... даруйце, парламента/.

Тут, у Вярхоўным Савеце, у нейкі момант мне ўспомніўся вельмі далёкі па часе эпізод, таксама звязаны са «слуханнем» газеты ў высокай па тым часе інстанцыі з наступнымі «аргвыводамі». Было гэта ў канцы пяцідзесятых гадоў з рэдакцыяй райгазеты, дзе я працаваў. А ўспомнілася таму, што лаянка некаторых народных дэпутатаў па адрасе «Народнай газеты» вельмі блізка нагадала тую «размову» з рэдакцыяй на бюро райкома партыі.

Гэтае «слуханне» рэдакцыі «Народнай газеты» ў Вярхоўным Савеце — акцыя, па маім разуменні, беспрэцэдэнтная, бо цяжка ўявіць нешта падобнае ў цывілізаванай, дэмакратычнай краіне, дзе б парламентарыі, кінуўшы ўсе надзённыя справы, ад вырашэння якіх залежыць лёс дзяржавы, два дні высвятлялі б адносіны з газетай, зводзілі б рахункі з журналістамі, якія ім, ці бачыце, не падабаюцца.

Я далёкі, вядома, ад думкі ідэалізаваць «Народную газету», сталым падпісчыкам якой з'яўляюся. Многае ў ёй мне не падабаецца. Але ж ці можа гэта адвечнае «падабаецца — не падабаецца» быць падставай для таго, каб нешта забараніць, тым больш, калі гэта тычыцца свабоды слова? Дарэчы, слова, якое ў дадзеным выпадку не супрацьстаяла закону.

Канешне, дзейнасці і развіццю свабоднай прэсы ў нашай дзяржаве вельмі замінае адсутнасць дэмакратычнага Закона аб друку. Але чаму ж Вярхоўны Савет дагэтуль не паруліўся аб тым, каб яго мець? І ці не тлумачыцца гэтая маруднасць захадамі пэўных уплывовых палітычных сіл, якім такі закон непатрэбны, бо без яго зручней спавядаць вядомы, як свет, прынцып: «Хто плаціць, той і заказвае музыку»?

Пры разбіральніцтве з «Народнай газетай» у Вярхоўным Савеце галасы «за» і «супраць» раздзяліліся амаль пароўну. Так што кропку ва ўсёй гэтай гісторыі ставіць рана. Але чым бы яна ні скончылася б, відавочна адно — лаўраў гэтым беларускі парламент сабе не прыдбае.

**М. ЗАМСКІ**

Выставы

# ЗА НАШУ СВАБОДУ Ў ПОЗНАНІ І БУДАПЕШЦЕ...

У нацыянальным музеі Беларусі трэці тыдзень працуе фотадакументальная выстава «Познань — Будапешт-56». На ўрачыстым адкрыцці выступілі амбасадар Польшчы Эльжбета Смулэк і амбасадар Венгрыі Акаш Энгельмаер. У іхніх прамовах адзначалася, што гэтая культурніцкая акцыя мае мэтай не выстаўленне рахункаў за мінулыя крыўды, а прымірэнне. Бо савецкія вайскоўцы, якія па загадзе Масквы падаўлялі супрацькамуністычнае паўстанне ў Будапешце, былі ў пэўным сэнсе такімі ж ахвярамі таталітарызму, як і тыя, супраць каго скарыстоўвалі зброю.

Спадару А. Энгельмаеру ў 1956 годзе было васемнаццаць, ён браў непасрэдны ўдзел у тых трагічных падзеях, быў сведкам гібелі сваіх сяброў-паўстанцаў. Ён аўтар многіх фотаздымкаў, што прадстаўлены ў экспазіцыі. Цяпер ягоныя аматарскія кадры сталі дакументам гісторыі.

Палітычны страйк у Познані ў 1956 годзе вядомы свету менш. Гэта была падзея лакальнага характару. Але і яна выразна сведчыць, што ва ўсім тагачасным «сацыялістычным лагеры» выспявала абурэнне антынароднай палітыкай камуністычных урадаў.

Сваю сённяшнюю свабоду венгры аплацілі крывёю 38 год назад. Не трэба думаць, што нам, беларусам, свабода дастанецца задарма. Хай не крывёю, але плаціць усё роўна давядзецца.

**П. В.**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*



Памяркуем

# КАБ СЯБРАВАЛІ ВЫГАДА З КАРЫСЦЮ...

Пачынаючы кнігавыдавец неяк дзяліўся сваімі поглядамі на выдавецкую дзейнасць:

— Грошы, прыбыль, выгада — усё гэта само сабой. Але ж і карысць хочацца прынесці...

Гэтыя словы ўспомніліся мне на нядаўняй выставе «Беларуская кніга-93», дзе была прадстаўлена кніжная прадукцыя рэспублікі мінулага года.

Ідэйна-эстэтычную цноту на сённяшні дзень не ўсім удалося захаваць нават з дзяржаўных выдавецтваў, аднак факт датацый абавязвае іх усё ж сеяць «разумнае, добрае, вечнае». Ну, а калі сярод іншага «Ураджай» выдасць астралагічныя прагнозы, а «Вышэйшая школа» — рэцэпты пірагоў і булачак, то мы іх зразумеем. /Хаця ў названых выдавецтвах, а таксама ў «Полымі» і «Беларусі» завялікі працэнт рускамоўнай літаратуры/.

Цяжэй зразумець і апраўдаць накірунак прыватнай выдавецкай дзейнасці — фірмаў, малых прадпрыемстваў і да т. п. /іх у Беларусі 719/. Назвы іх дзіўным чынам перагукваюцца з назвамі камерцыйных вулічных кіёскаў, і невыпадкова. Адны прадаюць «шырспажыў» для цела, другія — «шырспажыў» для душы, прытым і тыя, і іншыя арыентаваны на тавар замежны.

Я не супраць замежнай літаратуры. Ахвотна набыла б Пруста і Музіля, Лема і Зілазні. Замест іх масаваму чытачу масавымі тыражамі прапануецца штосьці іншае: «В Лос-Анжелесе стоял прекрасный летний день...»

«Белфакс» палюбіў як родных Колінза, Макдональда і Чэйза. «Стары свет. Прынт» — жахі і фантастыку. «Крок уперад» /таксама цікавае найменне/ з усяго кніжнага багацця свету найбольш цэніць Дзюмабацьку. На паліцах «Весніка», «Поліпрынта», «Сэр. Віта» — усё тыя ж тоўстыя, бліскучыя — на адзін твар — таміны.

Магутная выдавецка-паліграфічная кампанія «Эрыдан» адмовілася ад удзелу ў выставе, каб не мець лішніх выдаткаў. За славай не гоняцца...

Крыху разбавілі спецыфічную тэматыку «Арт-дызайн» і «Кавалер-ООО», звярнуўшыся да выпуску дзіцячай літаратуры, а «Аракул», да яго гонару, выдаў дзве беларускія народныя казкі і аповесць М. Лынькова «Міколка-паравоз». Гэта значыць, што недахоп літаратуры для дзяцей, асабліва беларускай, ужо заўважылі адчувальныя да кан'юнктуры прыватныя выдаўцы. Праўда, яны асвойваюць новы мацярык няўпэўнена і асцярожна — за выключэннем выдавецтва гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра, «Хаты» ды, можа, «Ітэкса».

Два малыя прадпрыемствы спецыялізуюцца на літаратуры рэлігійнага зместу — «Пікарп» і «Леракс». Яны шмат што выдаюць на замежных мовах, у тым ліку на венгерскай і ўкраінскай. Пра існаванне беларускай «інтэрнацыяналістам» не паведамілі...

Да слова кажучы, і патрыятызм бывае своеасаблівы. «Беларусь», напрыклад, каб засведчыць сваю ўвагу да нацыянальнага, разнастаіла шэраг імён у кнізе «Женщины-легенды» /Складальнік В. Фядосік/. Паміж Месаліны, Клеапатры, маці Нерона, англійскіх і французскіх каралеў сціпла ўклінілі... Ефрасінню Полацкую — святую! Жагнаецца, нябось, бедная, ад такой ганаровай кампаніі...

Але вернемся да «малых» прадпрыемстваў, што спяць і бачаць вялікія грошы. Усе названыя і неназваныя — па размаху, прыбытках, ахопу рынку і безгустоўнасці пераплюнуў «Дайджэст». Яго рэкламны дэвіз — «литература без границ» — трэба разумець не столькі як шырокую геаграфію /ад Калінінграда да.../, колькі як бязмежнасць амаральнасці. Тут пануе самая звычайная парнаграфія. Голыя задкі красуюцца нават на дэтэктывах. /Таварны знак?/ Адзін з колішніх апекуноў «Дайджэста» калісьці апраўдваўся, выступаючы на пісьменніцкім пасяджэнні: «Дык у іх уся прадукцыя на Расію ідзе, няхай разбэшчваюць...» Дарма ён так: і нашым хопіць /не сумнявайцеся!/, і тых шкада — таксама людзі.

І справа не толькі ў попыце і густах /наплыў такога роду літаратуры сам стварае і попыт, і густы/, — тут прымешваюцца фактары эканамічны і крымінальны. Не сакрэт, што папера для многіх «бестселераў» не так самастойна закупляецца ў Расіі ці яшчэ дзе, як перацякае ў прыватны сектар з дзяржаўнага. Тыя з дзяржвыдаўцоў, што да перабудовы хадзілі ў перадавіках і казыралі паказчыкамі, зараз апусцілі рукі і дэманструюць поўнае бяссілле. Падазронае пры іх дзелавітасці. Усё, што на сёння робіцца ў некаторых выдавецтвах і друкарнях, — прадмет зусім не для журналісцкага расследавання...

Цікава атрымліваецца з тыражамі. Дзяржаўныя выдавецтвы выдалі 35 млн. асобнікаў за мінулы год, недзяржаўныя — 60 млн. Як вам падабаецца прапорцыя?

У дачыненні да беларускай кнігі адказныя ўстановы наогул хітруюць: паведамляюць назвы /іх паболела/ і маўчаць наконт тыражоў.

Мабыць, несур'ёзна апеляваць да сумленнасці і патрыятызму прадпрымальнікаў: у бізнеса свае законы і свае паняцці. У прававой дзяржаве менавіта дзяржаўныя структуры павінны сачыць за парушэннямі, а найперш стварыць такія ўмовы для камерцыі, каб асабістая выгада з грамадскай карысцю крочылі разам, а не ўступалі ў канфлікт. Ці дачакаемся мы такой дзяржавы?

**Г. К.**

горача і так пераканаўча гаварылася, што трэба як хутчэй уводзіць у дзяржаве сваю нацыянальную валюту, што без сваёй уласнай валюты — дзяржава проста не дзяржава. Чаму не прыслухаліся да гэтых галасоў? Таму, што яны не з тых вуснаў гучалі, не тыя дэпутаты гаварылі. Аказваецца, праўда, ісціна — не аб'ектыўная катэгорыя, а залежыць ад таго, хто яе гаворыць. Загарэўся дом, чалавек крычыць «пажар», — а ў адказ чуем: не можа быць, не той чалавек б'е трывогу.

Дазвольце цяпер перанесці гэту метафару і на пытанне, якое мы абмяркоўваем. Па-мойму, ніякая іншая грамадска-палітычная газета ў Беларусі з такою сілай і нястомнасцю не б'е трывогу, не заклікае схамянуцца, працерці вочы, каб убачыць увесь рэальны стан рэчаў, як гэта робіць «Народная газета». Не сумняваюся, што менавіта гэта адчулі сотні тысяч яе падпісчыкаў, бо чуйнасць народа да голасу праўды, справядлівасці — надзвычайная, і зусім дарэмныя намаганні даказаць народу нешта іншае. Людзі толькі іранічна ўсміхаюцца ў адказ, тым больш, што наіўных чытачоў робіцца ўсе менш і менш.

Зразумела, у кожнага з нас сваё разуменне праўды, сваё бачанне ісціны — і адсюль — свае прэтэнзіі да друку і свае сімпатыі або антыпатыі да пэўнага перыядычнага выдання, газеты або часопіса. Калі чалавек дзень і ноч думае аб тым, як ліквідаваць суверэнную, незалежную дзяржаву — Рэспубліку Беларусь, як спыніць працэс нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі, — то хіба яму можа падабацца «Народная газета»? Ні ў якім разе, вядома! Такому таварышу будуць даспадобы іншыя газеты, з процілеглымі пазіцыямі, а яны ў нас ёсць, нават сярод афіцыйных урадавых, што ўжо зусім не ўкладваецца ў галаве. Уяўляеце, можаце ўявіць у Францыі ўрадавую газету, якая праводзіць ідэю ліквідацыі дзяржавы Рэспублікі Францыі? Не ўяўляеце, канешне. Я таксама не магу ўявіць такое. А ў нас гэта можна.

Скажаце: дык што — вас «Народная газета» цалкам задавальняе? Не, далёка не цалкам. І я лічу, што яна яшчэ не ў поўным сэнсе народная. Сапраўды народнай у нас за ўсю гісторыю беларускага друку была адна газета — «Наша Ніва», якая выходзіла на пачатку стагоддзя. Вось гэта была трыбуна народа і люстэрка яго жыцця! Але — за што крытыкуецца «Народная газета»? Папракаюць яе, напрыклад, за падтрымку г. зв. «беларускага нацыяналізму». А я вычытваў у ёй і зусім адваротнае — іранічнае насміханне над змагарамі за беларускую мову, прычым — у артыкулах супрацоўнікаў рэдакцыі газеты. І думаў: вось спаткаю т. Сярэдзіча і скажу: буду ставіць пытанне аб вызваленні вас з пасады рэдактара. І не толькі за гэта. Яшчэ і за тое, што ў некаторых нумарах толькі лічаныя матэрыялы ідуць на дзяржаўнай мове. Як бачыце, у мяне прэтэнзіі ёсць таксама — і не толькі названыя. Але ж, відаць, трэба кіравацца ў ацэнках тым, якая агульная, магістральная лінія газеты, а яна, думаю, правільная, у тым сэнсе, што «Народная газета» хоча стаць сапраўды народнай — папулярнай і любімай газетай, скажу па-старому, шырокіх працоўных мас.

Гучалі абвінавачванні ў тым, што «Народная газета» распальвае нацыянальную варажнечу, ці ва ўсякім разе — пэўнымі публікацыямі садзейнічае абвастрэнню міжнацыянальных адносін. Асабіста я лічыў і лічу, што да нацыянальнага пытання ў друку трэба ставіцца вельмі абачліва, вельмі асцярожна. Гэтак жа трэба ставіцца да асвятлення гісторыі народа. Факты ў гісторыі былі розныя — і драматычныя, і трагічныя. Асвятляць іх трэба аб'ектыўна. Але каментарыі павінны быць разумнымі, мудрымі, такімі, каб не абражаць нацыянальныя пачуцці народа, людзей, якія ў тых драмах і трагедыях невінаваты. Нельга паддавацца пачуццям, якія могуць выбухнуць страшным злом, калі іх не ўціхамірыць. Іншая справа, што многія бачаць нацыяналізм там, дзе яго няма і ў паміне.

Другая праблема — культура і этыка нашай прэсы. Прэса ў значнай меры, выбачайце, распаразалася — пад шырмай дэмакратызацыі, права на галоснасць і г. д. Зняважыць, нахаміць у друку — сёння для многіх аўтараў нічога не каштуе. Не ведаю, каму тут належыць пальма першынства — дэмакратам і рэвалюцыянерам, ці кансерватарам і рэакцыянерам? Баюся, што, як то кажуць, абое рабое. Культурны ўзровень многіх публікацый у многіх выданнях — ніжэй усякай прыстойнасці. Калі ўся сіла публіцыстычнага слова, уся дасціпнасць, увесь бляск стылю трымаецца на абыгрыванні, на перакрыўлянні імені ці прозвішча — то я адмаўляюся прымаць такую публіцыстыку. Гэта можа мець месца за сталом на кухні ці ў пакоі для курэння, але не ў грамадскім друку. Калі газета заваёўвае папулярнасць выдумкамі, плёткамі, пошлымі анекдотамі, таннымі сенсацыямі, — то я рашуча не прымаю такую папулярнасць. Але, па-мойму, сказанае не характэрна для агульнага ўзроўню і стылю «Народнай газеты».

Наўрад ці можна пагадзіцца з выказаным тут абвінавачваннем, што газета зарыентавана на парламенцкую меншасць. Яе платформа вельмі шырокая. А галоўнае — у яе звыш 600 тысяч падпісчыкаў — якая ж гэта меншасць? Гэта, вядома, не значыць, што раз многа падпісчыкаў, дык ужо выдадзена індульгенцыя на непагрэшнасць. Ні ў якім разе. Але і ігнараваць гэтага нельга! Нам патрэбен новы Закон аб друку, перш за ўсё! Калі мы будуем прававую дзяржаву, хочам, каб наша дзяржава была прававой — павінен быць Закон аб друку, якім і належыць кіравацца.

Хачу спадзявацца, што «Народная газета» будзе набываць яшчэ большы аўтарытэт у народзе. І што сённяшняе абмеркаванне дапаможа ёй у гэтым.

## СПАЧАТКУ — ПЕРШАКРЫНІЦА



На «Песню пра зубра» Міколы Гусоўскага замахнуўся Рэспубліканскі тэатр юнага гледача /прэм'ера адбылася 4 лютага/. П'еса Аляксея Дударава перад усімі вылучае колькі дзейных ліній, толькі заяўленых паэтам: з'явіўшыся-заявіўшыся, яны абрываюцца на самай, здаецца, інтрыгуючай ноце — прынамсі, да гісторыі ўяўнай Ведзьмы /дзяўчыны, абвінавачанай у вядзьмарстве/ і яе каханага ні драматург, ні рэжысёр /сваімі даступнымі сродкамі/ больш не вяртаюцца. Суладдзе і, адначасна, супрацьстаянне Вітаўта ды Ягайлы гэтаксама толькі вонкавае, знянацку паспявае крануць слых ды зрок; прысутнасць Блазна ўвогуле неабавязковая, — па тым, як пададзены ён у спектаклі. Праўда, акцёры, нават у масоўцы /дарэчы, яе пераўвасабленні ў вогнішча, зубра і да т. п. — не пераконваюць у слушнасці рэжысёрскага вырашэння/, працуюць самааддана: К. Курловіч, М. Пятроў, Ю. Вута, К. Макеева, А. Байкоў, В. Лебедзеў, У. Макараў... Мастацкае вырашэнне відовішча нароўні ажыццяўлялі рэжысёр, мастацкі кіраўнік тэатра Мадэст Абрамаў, балетмайстар Галіна Шылянкова-Воранава ды кампазітар Уладзімір Кандрусевіч. Сцэнаграфію і касцюмы прапанаваў мастак Яўген Іваноў /Масква/.

Насмельваюся настойваць на думцы, што перш як спрычыніцца да сцэнічных падзей, школьнікам /а менавіта іх вызначаны ўзрост мелі на ўвазе творцы спектакля/ варта як мага лепш пазнаёміцца з першакрыніцаю і скласці пра яе пэўнае ўяўленне.

**Ж. Л.**

*На здымку: сцэна са спектакля.*

*Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ*

## У МАСТАЦТВЕ МЕСЦА НЕ АГАРОДЖАНА...



Яны абвясцілі найлепшае. Ісціну — тое, што было да нас і застанецца пасля нас. Можна працаваць так, нібыта ўсё было. Можна, нібыта ўсё наперадзе. Можна, нібыта нічога ўжо няма. Але нельга так, нібыта нічога не было. Яны заклікалі на «хросны шлях» вяртання да вобраза.

Яны — гэта адзінаццаць маладых мастакоў з Творчых акадэмічных майстэрань, што выставілі свае работы ў Нацыянальным мастацкім музеі.

Ідэя выставы — хрысціянства ў чалавечых абразах; тэхніка ад жывапісу да барэльефа; стыль — ад класічнага рэалізму да вольных кампазіцый. Згадайце, як радасна было яшчэ зусім, здаецца, нядаўна знаходзіць у працах мастакоў Боскі вобраз, бачыць вяртанне да адвечнай хрысціянскай тэматыкі. Бо яна — адкрыццё для кожнага, калі душа спявае ва унісон. А калі маўчыць? Калі раптам асабістае становіцца модай, стылізацыяй, магчымасцю зрабіць усё — ад аўтарытэту да матэрыяльнага спакою? Ці не папярэджанне — фетышы былых дзесяцігоддзяў, новай рэлігіі «новага чалавека»?

Месца ў мастацтве не агароджана, тут можа існаваць кожны, але ці доўга? Новыя тэмы з'яўляюцца з павевамі чарговай ідэалогіі, ізноў нараджаюцца ідалы. Будучае адбярэ таленавітае, сапраўднае, незалежнае. А сённяшні дзень сцерпіць усё. У гэтым, відаць «хросны шлях» нашага мастацтва.

**Н. Ш.**

*На фотаздымку: В. Янушкевіч «Хросны шлях»*

# СТОПРАЦЭНТНА ТЭАТРАЛЬНАЕ РЭЧЫВА

## НАЎЗДАГОН ФЕСТЫВАЛЮ «МАЛАДЗЕЧАНСКАЯ САКАВІЦА-94»

На пытанне, як узнікла ідэя свята майстроў беларускай сцэны, старшыня Саюза тэатральных дзеячаў Аляксей Дудараў адказаў: «Аднойчы мне патэлефанаваў Генадзь Карпенка і сказаў, што закаханы ў Стэфанію Станюту...»

Мэр Маладзечна Генадзь Карпенка на гэтае ж пытанне адказаў так: «Аднойчы я патэлефанаваў Аляксею Дудараву і сказаў, што закаханы ў Стэфанію Станюту...»

Такім чынам, фестываль майстроў тэатральнага мастацтва «Маладзечанская сакавіца», як і належыць усяму добраму, прыгожаму і жыццяздольнаму, нарадзіўся з кахання. А ўжо гэтае пачуццё склікала на сваё свята не менш высакародныя натхненне, талент, дабрыню, веру, надзею, спагаду, — каб скласці чароўны букет і супрацьпаставіць яго самоце, роспачы, скрусе. Каб насуперак усім нягодам сказаць: «Мы — прыгожыя і таленавітыя, толькі не заўсёды помнім пра тое і верым у свае талент і прыгажосць». Альбо — услед за Стэфаніяй Міхайлаўнай Станютай паўтарыць: «Жыццё — гэта цуд, паверце мне!»

Здаецца, што «Маладзечанскую сакавіцу» варта было прыдумаць, апроч іншага, яшчэ і дзеля таго, каб наш тэатральны бамонд пераканаўся, што ён і сапраўды бамонд. Вядома, паводле свайго дабрабыту наша творчая інтэлігенцыя не хутка ўзаб'ецца на смокінгі і строі ад Кардэна. Будзем шчырыя, у артыстычных колах не без горычы ўспрымаецца цяперашняя адарванасць ад культурных мек, — як ад звыклых на Ўсходзе, так і па-ранейшаму недасяжных на Захадзе. А творчым людзям проста неабходна адчуваць сябе ў цэнтры ўвагі, — каб не нажыць комплекс непатрэбнасці, каб не зняверыцца ў сэнсе ўласных прафесій, якія ўсё ж не проста рамяство, бо ў аснове маюць боскую іскру.

Вось чаму грамадства, якое хоча займець годнае месца ў свеце, не мае іншага выйсця, як паважаць і цаніць свае таленты, што ствараюць духоўныя каштоўнасці і самі з'яўляюцца найвялікшымі каштоўнасцямі нацыі. Без такое дзейнай павагі ўсе нашы адраджэнскія размовы застануцца пустым гукам.

Ідэя маладзечанскага тэатральнага свята была шчаслівай, а таму бяспройгрышнай. Фестывальную афішу складалі спектаклі, якія не з'яўляюцца рэпертуарнымі навінкамі. Іх каштоўнасць заключана менавіта ў кожным новым паказе, а сэнс — у тым, каб жыццё кожнага такога твора доўжылася і доўжылася.

На маладзечанскія падмосткі адзін за адным узыходзілі Станюта /«Гаральд і Мод»/, Клімава і Янкоўскі /«На залатым возеры»/, Браварская і Лебедзеў /«Гульня ў джын»/, Аляксеева /«Добрай ночы, мама!..»/, Петрачкова, Шыпіла, Кокштыс /«Вечар»/. Зоркі. Высакародныя каралеўны і верныя рыцары нашага тэатра. Людзі, якія ўвасабляюць тэатр і на ўсе сто працэнтаў складаюцца з тэатральнага рэчыва.

**А. ГАНЧАРОЎ**



*Момант спектакля «Камедыя» Маладзечанскага драматычнага тэатра.*



*Расціслаў Янкоўскі /Норман/ і Аляксандра Клімава /Этэль/ у спектаклі «На залатым возеры».*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

# НАСТУПНЫ ПРЫПЫНАК — МАЛАДЗЁЖНЫ ТЭАТР

Не мінула й дзесяці гадоў, а Дзяржаўны маладзёжны тэатр Беларусі ўжо адчыняе дзверы ўласнага тэатральнага памяшкання... І гэтае славутае дзеянне /улазіны? адкрыццё сезона?/ прыпадае на 25 сакавіка. Вядома, аматарам тэатральнага мастацтва, а таксама спагадлівым людзям без пэўных тэатральных прыхільнасцяў, застаецца толькі шчыра ўзрадавацца ды наведаць... мерапрыемства. Каб хоць даведацца, што, напрыклад, спектакль «Вільгельм Тэль» паводле Ф. Шылера быў неаднаразова паказаны ў Мангейме ды Боне з нязменным поспехам, каб згадаць, што «Неверагодны ілюзіён Эрні» А. Эйкбарна хутка-хутка неяк застаўся без пракату, хоць неверагодна падабаўся мінскай дзятве...

Можна згадаць і самую раннюю, першапачатковую, так бы мовіць, гісторыю тэатра: «Гэтых незразумелых старых людзей» С. Алексіевіч або «Рамонт» В. Рошчына ды якісьці там «Чырвоны куток», што зазнаў колькі паказаў на сцэне Дома літаратара. Можна было тады, узіраючыся ў сцэнічныя дзеянні акцёраў ды рэжысёрскія намаганні, меркаваць, што тэатр — з будучыняй, што трупа ягоная — таленавітая, але, на маю думку, няма нічога лепшага, як упэўніцца ў гэтым рашэнні без падказак крытыкі ды журналістаў. Спадзяюся, канчаткова пераканаюць у гэтым і монаспектакль паводле дзённікаў Сальвадора Далі /у ролі апошняга мы ўбачым Сяргея Жураўля/, і драма Жана-Поля Сартра «Пры зачыненых дзвярах», дзе возьмуць удзел А. Унукава, А. Акулёнак, І. Фільчанкоў, В. Моўчан. Рэжысёр спектакляў Віталь Катавіцкі, мастацкі кіраўнік калектыву. Мастак — Зіновій Марголін.



*Сцэна са спектакля «Вільгельм Тэль» Ф. Шылера*

А напрыканцы — адметная падрабязнасць: «Наступны прыпынак — Маладзёжны тэатр», — абвяшчаюць цяпер у трамваях, якія кіруюцца да Камсамольскага возера з боку Скарынавага праспекта.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

***Многія госці сталіцы, упершыню ўбачыўшы ў цэнтры горада на праспекце Скарыны пампезную, з калонамі будыніну ў стылі «сталінскага ампіра», пачынаюць цікавіцца ў прахожых, які тут месціцца тэатр. На гэта грамадзяне, асабліва сталага ўзросту, з апасеннем зірнуўшы на цёмныя, сляпыя вокны дома, нягучна тлумачаць, што гэта не што іншае, як Камітэт дзяржбяспекі рэспублікі.***

# КДБ: ЗМЕНА ВАРТЫ. ШТО ДАЛЕЙ?

Помню, у мае студэнцкія гады перад фасадам гэтага «тэатра» ўдзень і ўначы дэфіліравалі ўзброеныя салдаты-кадэбісты, якія, заўважыўшы, што нехта з прахожых запавольвае ў гэтым месцы крок, адразу падыходзілі да «парушальніка» і нягучна, але рашуча «рэкамендавалі»: «Праходзьце!»

Гэтае «Праходзьце» днямі зноў пачулася мне, хоць уголас і не было вымаўлена, а, наадварот, сказана ў самай далікатнай форме. А было так: я пазваніў у КДБ, каб даведацца, як «выйсці» на толькі што зацверджанага Вярхоўным Саветам новага старшыню Камітэта дзяржбяспекі рэспублікі Генадзя Міхайлавіча Лавіцкага, каб узяць у яго інтэрв'ю. Супрацоўнік аддзялення грамадскіх сувязей камітэта Пётр Васільевіч Снапок, якому я выклаў сваю просьбу, быў сама ветлівасць і добразычлівасць, але адразу мяне папярэдзіў, што нічога з майго намеру не атрымаецца, бо новы шэф КДБ інтэрв'ю нікому не дае.

Неўзабаве я прачытаю ў «Звяздзе» невялічкую нататачку яе карэспандэнта, якому, як я зразумеў, удалося падысці да Г. Лавіцкага ў Вярхоўным Савеце адразу пасля зацвярджэння яго на новай пасадзе і задаць яму два-тры пытанні, адказы на якія нават для кіраўніка сакрэтнай службы былі надзвычай агульнымі і расплывістымі. Праўда, адно меркаванне ў яго вуснах прагучала больш-менш пэўна. Паводле слоў новага шэфа КДБ, ён «перакананы ў тым, што спецслужбы, іх прадстаўнікі не павінны захапляцца інтэрв'ю, артыкуламі пра сябе...»

Што ж, у гэтым сваім «перакананні» Г. Лавіцкі не такі ўжо і арыгінальны. Не прыпомню ніводнага з яго папярэднікаў, хто б пажадаў хоць крыху развеяць туман таямнічасці, які ахутваў органы дзяржаўнай бяспекі за ўвесь час іх існавання, пад якой бы абрэвіятурай яны ні хаваліся: ЧК, АДПУ, НКУС, МДБ ці КДБ...

Цяперашняя мая няўдалая спроба ўзяць інтэрв'ю ў першай асобы Камітэта дзяржбяспекі — не першая. З такім жа вынікам яна скончылася ў верасні 1991 года, неўзабаве пасля жнівеньскіх падзей у Маскве, калі я хацеў дамовіцца аб сустрэчы з тагачасным старшынёй камітэта Э. Шыркоўскім. Атрымаўшы «от ворот поворот», я звярнуўся да яго праз «ЛіМ» з адкрытым лістом, дзе выклаў пытанні, якія збіраўся задаць Эдуарду Іванавічу. Тады ў Камітэце дзяржбяспекі зрабілі выгляд, што публікацыі гэтай не заўважылі, хоць ведаю, — ніводзін матэрыял у сродках масавай інфармацыі, дзе згадваецца КДБ, яго ўвагі не мінае і бярэцца на «заметку».

Помню, у палоне эйфарыі, якая ахапіла большасць з нас пасля паражэння ГКЧП, я прыняў блізка да сэрца адмову Э. Шыркоўскага сустрэцца. У Маскве ў тыя дні дзесяткі тысяч грамадзян запрудзілі Лубянку, якая ў свядомасці не аднаго пакалення асацыіравалася з крывавым камуністычным тэрорам. А калі, зачапіўшы тросам за шыю «жалезнага Фелікса», кран сцягнуў яго з пастамента, падумалася — няўжо з усім гэтым скончана назаўжды?

Кабінет былога старшыні КДБ СССР, аднаго з арганізатараў ГКЧП У. Кручкова тады заняў чалавек дэмакратычных поглядаў В. Бакацін, які пачаў прымаць пэўныя захады, каб надаць спецслужбам хоць трошкі прыстойнае аблічча. Былі скасаваны самыя адыёзныя, найбольш характэрныя для таталітарнага рэжыму службы — палітычнага вышуку з яго інстытутам «стукачоў» і так званай ідэалагічнай контрразведкі, якая здабыла сабе нямала «лаўраў» у барацьбе з дысідэнтвам.

Ну, а што адбывалася ў тыя векапомныя дні і тыдні за сценамі «будынка з калонамі» ў цэнтры Мінска? Мы, радавыя грамадзяне, пра гэта так і не ўведалі. Падобна на тое, што беларускія чэкісты ніякіх страт тады не панеслі.

Для мяне і сёння з'яўляецца загадкай тая лаяльнасць, з якой наша дэмакратычная грамадскасць паставілася тады да «ўзброенага атрада КПСС» — органаў дзяржбяспекі. Асабліва пашанцавала старшыні КДБ рэспублікі генералу Э. Шыркоўскаму, якому ў некаторых сродках масавай інфармацыі пачалі спяваць «алілую», даводзячы, што ў дні крамлёўскага путчу ён і ў галаве не трымаў, каб нейк падтрымаць ГКЧП. На чым грунтавалася гэтая ўпэўненасць і хто яе натхняў, як кажуць, аднаму Богу вядома. Ва ўсякім разе, помню, як у сваім выступленні ў тыя дні ў Вярхоўным Савеце тагачасны пракурор рэспублікі Тарнаўскі расказваў, што падчас путчу кіраўніцтва КДБ нацiскала на яго з намерам прымусіць прыняць меры да мясцовых прыхільнікаў ГКЧП. Чэкісты, відома, маглі і самі пахапаць «смуцьянаў», але час быў такі, што хацелася надаць гэтаму нейкі прававы грунт.

Як пісалася ў цэнтральнай прэсе ў пасляпутчавыя дні, амаль ва ўсіх саюзных рэспубліках кіраўнікі КДБ былі зняты са сваіх пасад, зняты як людзі Кручкова. Не здарылася гэтага толькі ў Беларусі. Дарэчы, не так даўно ў «Народнай газеце» яе маскоўскі карэспандэнт, апавядаючы пра суд над гэкачэпістамі, спасляўся на паказанні У. Кручкова, які паведаміў, што ў час путчу старшыня беларускага КДБ выконваў усе яго распараджэнні. Праўда, праз некалькі дзён тая ж «Народная газета» змясціла заяву КДБ, дзе паведамлене маскоўскага карэспандэнта газеты абвяргалася. Ды і сама «НГ» папрасіла ў чытачоў прабачэння за публікацыю «неправеранай інфармацыі».



*Фота В.СТРАЛКОЎСКАГА*

Мне неаднойчы даводзілася чуць, што Э. Шыркоўскі мае прываблівы імідж дзякуючы той акалічнасці, што нарадзіўся і вырас на Беларусі, а не нейкі там прыблуда, прысланы сюды на працу з Масквы. Але ж гэтыя якасці, пагадзіцеся, аніяк не перашкаджалі ні Малафееву, ні іншым «мясцовай гадоўлі» кіраўнікам КПБ быць такімі, якімі яны былі.

Але справа, у рэшце рэшт, не ў адным Шыркоўскім. Справа ў тым, што за два з нечым гады існавання суверэннай дзяржавы Рэспублікі Беларусь органы дзяржаўнай бяспекі ў грамадскай свядомасці засталіся тымі ж, што і раней. Невыпадкова нарадзіліся ў народзе немудрагелістыя з пэтычнага боку, але поўныя горкай іроніі радкі: «Товарищ, знай, пройдет она: и демократия, и гласность, придут иные времена, и вот тогда госбезопасность припомнит наши имена».

Мяркуючы па нядаўнім артыкуле палітычнага аглядальніка «Народнай газеты» П. Якубовіча, у якім ён прыводзіць канкрэтныя факты «работы» тайных «інфарматараў» КДБ, і па тым, што факты гэтыя нашымі спецслужбамі абвергнуты не былі, палітычны вышук у нашай дзяржаве жыве і квітнее.

У кантэксце ўсяго сказанага, прызнацца, не разумею, чаму адпраўка Вярхоўным Саветам на пенсію старшыні Камітэта дзяржбяспекі Беларусі Э. Шыркоўскага была так хваравіта ўспрынята парламенцкай апазіцыяй БНФ, якая, як гэта ні дзіўна, запісала шэфа КДБ у свае саюзнікі. Асабліва гэта пачало кідацца ў вочы пасля вядомага ліста, напісанага Э. Шыркоўскім у сааўтарстве з міністрам унутраных спраў генералам Ягоравым і адрасаваным старшыні ўрада В. Кебічу, дзе яны выкрывалі /не без падстаў/ саўмінаўскага дзяржсакратара па пытаннях грамадскай бяспекі і абароны Г. Данілава. Ліст гэты, на мой погляд, быў прадыктаваны проста чыноўніцкай разборкай і насіў у многім амбіцыйны характар. Так што падтрымку нашымі парламенцкімі дэмакратамі гэтых двух генералаў можна вытлумачыць хіба што прынцыпам: «Ворагі нашых ворагаў — нашы сябры». Даволі, на маю думку, хісткі прынцып.

Сёння Камітэт дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь мае новага старшыню. У згаданым вышэй міні-інтэрв'ю, якое ён даў карэспандэнту «Звязды», шэф КДБ лічыць «асноўнымі задачамі і функцыянальнымі накірункамі свайго ведамства — разведку і контрразведку, забеспячэнне органаў улады і кіравання інфармацыяй, неабходнай для прыняцця дзяржаўных рашэнняў. У першую чаргу планую прывесці структуру спецслужбы ў поўную адпаведнасць з патрабаваннямі часу». Але ж Эдуард Іванавіч Шыркоўскі, намеснікам якога на працягу многіх гадоў з'яўляўся Генадзь Міхайлавіч Лавіцкі, хіба не сцвярджаў тое самае?

І ўсё гэта ў той час, калі Прэзідэнт Расіі Б. Ельцын, у выказванні непавагі да якога, дарэчы, спаборнічаюць паміж сабой пракамуністычная большасць і дэмакратычная меншасць парламента, указам ад 21 снежня мінулага года наогул скасаваў сістэму органаў дзяржаўнай бяспекі, тым самым прызнаўшы, што яна не паддаецца рэфармаванню. Як адзначалася ва ўказе, захады па рэарганізацыі мелі ў асноўным вонкавы, касметычны характар і што сістэма палітычнага вышуку законсервавана і лёгка можа быць адноўлена.

Згаданы артыкул П. Якубовіча ў «Народнай газеце» называўся: «КДБ адкрывае новую старонку сваёй гісторыі. Якой яна будзе?». На маю думку, калі КДБ адкрые «новую старонку сваёй гісторыі», гэта будзе ўжо не КДБ, а нешта якасна іншае.

Так, у службы дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь адбылася змена варты. Што далей?

**Міхась ЗАМСКІ**

Пошта

# ПРЫЧЫНА — У БРАКУ АСОБ?

У жніўні 1991 года нам, можна сказаць, была даравана магчымасць стварыць /хоць і ў абкарнаным у параўнанні з БНР выглядзе/ самастойную рэспубліку. Даравана з пажаданнем: далей рабіце ўсё самі, шукайце лепшыя формы сумеснага жыцця, ваш лёс у вашых руках. Але народ выявіў непадрыхтаванасць да такое працы. Ён не знайшоў спосабу пазбаўлення ад спадчыны бальшавізму. Ён не шукаў у сваёй масе тых асоб, якія б бачылі далёка, мелі неабходныя ідэі і валодалі якасцямі, дзякуючы якім можна павесці за сабой людзей.

Не лепшым чынам павяла сябе і тая частка народа, што клічуць інтэлігенцыяй. Выхаваная, па большасці, у членстве ў КПСС, яна хутка прыстасавалася да «новай сітуацыі»: заняўшы кіроўчыя пасады ва ўрадзе, адміністрацыі, у сферы друку, культуры і адукацыі, яна займаецца /хоць і па-новаму/ па сутнасці тым жа, чым жыла і раней, — здабыццём «ільгот», а не сеяннем «разумнага, добрага, вечнага».

Толькі адзін прыклад: настаўнікі пагражалі забастоўкай дзеля падвышэння такім чынам заробку. Ніхто з іх не сказаў, у каго адняць тыя грошы: ці ў прыбіральшчыц, што атрымліваюць у тры-чатыры разы менш, ці ў сялян, якія атрымліваюць яшчэ меней, хоць працуюць болей, ці ў працаўнікоў медыцыны... Некаторыя настаўнікі сваю пагрозу запісалі нават у дзённікі вучняў.

Распальваюцца спажывецкія інстынкты ў самай ганебнай форме. У выніку пануе «свабода» без усялякай адказнасці перад грамадствам, штучна павышаецца зарплата на прадпрыемствах, урадавых структурах і ў розных фірмах з «абмежаванай адказнасцю»... Адбываецца бессаромны грабеж безабароннага насельніцтва, цэны ўздымаюцца хаатычна і значна хутчэй за дзяржбюджэтныя зарплаты. Асноўная маса спажыўцоў прыціснута бясконцай інфляцыяй. Усюды гучыць «патрабуем, патрабуем, патрабуем!..» Хоць якая ўпэўненасць на будучыню ў большасці людзей страчана.

Газеты нашы дзеля грашовых падачак прыслугоўваюць урадавым структурам ці іншым карыслівым гаспадарам. З-за нізкай культуры адпаведнай часткі журналістаў газеты і часопісы ў значнай меры займаюцца звягамі /у духу «Не пугайте меня своей мафией...» — «Народная газета» ад 11.01.1994/. Дык куды мы коцімся?

Тым часам, пакуль дзяржава наша знаходзіцца ў такім «разгубленым» стане, у людзей знікае павага да саміх сябе, разрастаецца алкагалізм, пашыраюцца розныя іншыя хваробы...

Урадавая большасць бачыць уратаванне Беларусі ў саюзе з Расіяй, быццам не бачна, што ў Расіі падзенне духоўнасці і норавў яшчэ большае, чым у нас. Прыкра ўсё гэта ўсведамляць, прыкра бачыць, што паляпшэнне нашага жыцця — справа не скорая. Ды іншага выйсця, як выяўленне асоб, здольных рэалізаваць беларускую ідэю, і запрашэнне іх да кіраўніцтва рэспублікай, — не відаць. А далей трэба ствараць такую палітычную сістэму, пры якой кожны грамадзянін будзе мець магчымасць уплываць на справы рэспублікі, выяўляць сваю пазіцыю па важнейшых пытаннях яе развіцця...

**А. САЛАМОНАЎ,**
**прафесар Беларускага тэхналагічнага інстытута**

сеіства, палітыканства і цынізму!..

Дык што будзе з паэзіяй сёння? Заўтра? Не ведаю. Ізноў гартаю часопісы, рэдкія цяпер паэтычныя зборнікі, лімаўскія падборкі:

**Хто там золатам бразгоча?**
**Хто патокі лье маны?**
**Хто ярмо надзець зноў хоча,**
**закаваць у кайданы?**

Гэта пытанне нязломных.

**Сёння мо хадзіў бы ў патрыётах,**
**Геніяльных бардах-адраджэнцах**
**І ніякі б не знаў турботаў,**
**І ніякай арытміі сэрца.**

Гэта крыўда аксакалаў.

**А мне — цяпер — не потым —**
**Ад вашых пірагоў**
**Кавалак адзіноты**
**Адрэжце — і ўсяго...**

Гэта жаданне сталых.

**О, Божа, як мне адчыніць**
**Зямной любові памяшканне**
**Не дзеля радасці вяртання, —**
**Як цела з небам прымірыць?**

Гэта памкненне маладзейшых.

А потым натрапіў на заўсёды нечаканага, заўсёды нетрадыцыйнага, на вечнага шукальніка Алеся Разанава:

**Сцежка сама ведае, як ёй ісці,**
**як ёй весціся, яна хісткая і гнуткая, і сцелецца пад ногі, быццам нітка чароўнага клубка.**

А, можа, і сапраўды сцежка сама ведае, як ёй ісці? Вось і адказ.

Вечная сцежка паэзіі... То праз былльнёг і балота, то праз бліскучы бальшак, то праз халоднае поле і цёплы сад, праз вячысты бор і асушаную душу сцелецца ты пад ногі, «быццам нітка чароўнага клубка».

Можа, паверым паэту, што яна «цягнецца датуль, дакуль здольны дацягвацца чалавечыя памкненні: яна ўсцяж прашывае сабою абсягі жыцця...»

Хай ісці сцежка...

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

*г. Наваполацк*

---

...Ігналя чамусьці пачаў усё больш брацьнезразумелы страх. Гэты Салавейчык, яго агідныя абвіслыя вусы, шырокі чырвоны твар і вадзяністыя прыпухлыя вочы — усё дыхала ад яго страхам. Ён выкрыкваў тое, над чым мучыўся і думаў Ігналь з ночы ў ноч да прыходу чалавека, які ўцёк з-пад расстрэлу...» Кароткі ўрывак з апавядання «Нетрывалы грунт», а як ёмка паказаны псіхалагічны стан чалавека!

Вызначаюцца глыбокім псіхалагізмам, пільнай прыглядкай да ўнутранага свету чалавека і «вясковыя» апавяданні. Прырода, людзі на прыродзе — як жа яно ўсё ўзаемазвязана! Як уплывае адно на адно і жывіць адно другое!.. Чытаеш немудрагелістыя радкі і быццам адчуваеш пахі ніў, прыдняпроўскіх лугоў, чуеш галасы звяроў і птушак. Магічная сіла мастацкага слова!..

«А ноч плыве як заўсёды, як праплылі сотні начэй, праведзеных на Дняпры ў адзіноце. Тамаш нават адчувае, як яна праплывае. Адчувае па тым, як мяняецца паветра — з духмяна-цёплага робіцца ўсё больш халаднейшым, як ускрыкваюць дзеркачы — іх галасы чуюцца ўсё радзей і радзей і робяцца чамусьці празрзлівейшымі, як бы нервовымі; па ўсплёсках Дняпра — ён таксама на нейкі час заціхае; па шораху крылаў сваі, што вылецела на паляванне. І ён ведае, што туманы цяпер усё больш асядаюць, атуляючы зямлю і травы, і што пры Дняпры праз ачышчанае ад туманаў паветра выразней свецяцца агні бакенаў, і што хутка пройдзе параход як заўсёды».

Вось і пачакалі мы з табою, шаноўны чытач, з ласкі пісьменніка Міколы Лупсякова на ўзбярэжжы Дняпра, прачытаўшы ўрывак з апавядання «Торба з салам».

Без перабольшвання можна сказаць: вясковыя апавяданні Лупсякова спрыяюць светламу настрою чытача, бо гучаць яны як узнёслы гімн прыродзе і чалавеку-працаўніку.

А мова пісьменніка? Народная — выразная, вобразная. Учытаешся ў яе, услухаешся — і быццам пабыў у тым жа Папаратным ці ў Лугавой Вірні.

Дарэчы, у многіх творах Мікалая Радзівонавіча рэальна прысутнічае Жлобіншчына. Прыгадаць хаця б апавяданні «Дняпроўская чайка», «Грабскі хутар», «Чырвоны бераг»...

Рана пайшоў з жыцця шчыры руплівец на літаратурнай ніве. Не было яму і пяцідзесяці трох гадоў. Далёка не ўсё ён сказаў людзям, што мог яшчэ сказаць шчырым, праўдзівым мастацкім словам.

... Цёплым майскім днём я быў у старажытным Стрэшыне, што раскінуўся над Дняпром. Гарадскі пасёлак меў светлы вясенні выгляд. Буяў бэз у палісадніках пад вокнамі хат, за платамі белай кіпенню пеніліся сады. Я прайшоў з канца ў канец па вуліцы, якая носіць імя Міколы Лупсякова. Потым выйшаў да Дняпра, спыніўся на стромым беразе. Сонца зыркім святлом залівала абшар. За ракой у стракатых пахкіх красках рассцілаўся луг. А над ім луналі чайкі. Дняпроўскія чайкі...

**Аляксандр КАПУСЦІН**

---

Часопісы ў лютым

# КРЫНІЦАЙ ПРАБІВАЕЦЦА ПРАЎДА...

Надзіва змястоўным атрымаўся другі нумар «Маладосці». Па традыцыі часопіс прадставіў як маладых, так і сталых аўтараў. Сярод пачаткоўцаў нямала таленавітых і паэтаў, і празаікаў. Што да мэтраў, дык яны, часам, маглі б сабе і палёгку зрабіць. Аднак і гэтым разам мастакоўская планка Р. Барадуліным узнята вельмі высока.

Безумоўна, ім пішацца чарговая кніга і творы, якія неўзабаве знойдуць месца на яе старонках, праходзяць своеасаблівае выпрабаванне ў часопісах. Працяг роздуму аб вечным у іх:

**Дзе карані твае,**
**Адкуль твой род пачаўся,**
**Ці з прыцемку быцця,**
**Ці з цемры забыцця, —**
**Пытанні ўе і ўе,**
**Няўцямныя па часе,**
**Гадоў верацяно,**
**Няўцешнае яно.**

І той жа працяг разумення самога сябе. І ў сабе, і ў хуткаплыннасці часу:

**Відаць, не без падстаў**
**У радасці й журбе**
**Ранейшага сябе**
**Я забывацца стаў.**
**Ці проста горшы стаў,**
**Ці лепшы, як сказаць.**
**Я ўзеляneў, як стаў,**
**Зарос, як сенажаць.**

І тут жа лірычны герой, які ўжо не столькі сам паэт, колькі ўсе тыя, хто ў розны час адарваўся ад роднай зямлі, стала прыпісаўся ў горад, у тужлівым, скрушлівым душэўным адзіноцтве вымушаны канстатаваць:

**Забыў, як спіць агонь,**
**Як трызніць цень труной,**
**Як сохне свежы гной,**
**Як пахне потны конь.**

Пачынаецца кніжка прысвячэннем «Васілю Быкаву ў светлы дзень» ды і ўся знітавана з вершаў, чытаць якія адна асалода.

У суседстве з Майстрам не згубіліся і маладзейшыя аўтары. Н. Гальпяровіч, хоць у адрозненне ад многіх і рэдка друкуецца, але, як правіла, не дазваляе сабе вершаў прахадных, такіх, якія пра ўсё і разам з тым — пра нішто. У маладосцеўскай падборцы ён паўстае паэтам неабыякавым да паўсядзённых рэалій і адначасова здатным па-свойму зразумець сцяласнасць быцця.

У гэткім жа спалучэнні традыцыйнасці з уменнем захаваць уласны голас і прываблівасць вершаў У. Мазго. А вось М. Канановіч і В. Барысевіч на старонках «Маладосці» — дэбютанты. У В. Барысевіча лірычны герой пераасэнсоўвае перажытае, і, як бачна, запынае ўвагу на тых момантах, якія і праз гады адгукнуцца болем:

«Ні тлуму, ні трывог цяпер.// ... І ні хвіліны шчасця».

Проза «Маладосці» — заканчэнне рамана У. Рубанава «Не аднойчы забіты», які засведчыў аб мастакоўскім росце аўтара, яго здатнасці мысліць «раманна», апавяданне Г. Пчалаводавай «Міраж» і дакументальна-мастацкая аповесць А. Капусціна «Памёр, каб жыць».

А. Капусцін гэтым разам расказвае пра свайго земляка, юнага героя вайны Антона Губарава. Ідучы ад канкрэтнага лёсу, пісьменнік пераканаўча паказвае, наколькі ў дзеяннях, учынках Губарава праяўляліся лепшыя рысы даваеннай беларускай моладзі. Узнаўляючы даўнія падзеі, аўтар піша з думкай аб тым, што гісторыю трэба падаваць такой, якой яна была. У гэтым таксама прывабнасць аповесці.

У раздзеле «Старонкі ўспамінаў» — мемуарныя запісы М. Дубоўкі «Мае санаторыі і курорты». З'яўленне гэтага матэрыялу нельга не вітаць. І вось чаму. Вядома, любое сведчанне пра тое, што рабілася ў гады сталінізму, заслугоўвае ўвагі, як дакумент самога часу. Але ж, будзем справядлівымі, мы часта забываем, што ахвярамі станавіліся не толькі тыя, хто трапляў у турмы, ішоў этапамі. У незайздросным становішчы апыналіся і блізкія ім людзі. Чамусьці пра іх амаль не гаворыцца, а калі нешта і згадваецца, дык па сутнасці мімаходзь. Вось што піша аўтар уступнага артыкула да згаданага матэрыялу Я. Кісялёва: «Разам з ім /У. Дубоўкам. — **М. А.**/ зазнала гора і яго жонка Марыя Пятроўна Дубоўка. Яна, нібы спадарожніцы дзекабрыстаў, усюды крочыла за мужам — спачатку з маленькім сынам на руках, страціўшы яго — адна. Ні на хвіліну яна не сумнявалася ў тым, што трэба рабіць. Яна была з ім у самыя цяжкія моманты жыцця. Разам з першым арыштам Уладзіміра Мікалаевіча пачалося іх вымушаныя вандроўкі па краіне...» З гэтых вандровак і мемуары «Мае санаторыі і курорты». Сведчанне відавочцы тагачасных падзей, споведзь, напісаная болем душы! Не проста яе чытаць трэба, а перачытваць...

Нельга не сказаць і яшчэ пра некаторыя маладосцеўскія матэрыялы: штрыхі да творчага /і жыццёвага таксама!/ партрэта К. Цвіркі «Каб араллёю пахлі аблокі...», напісаныя Р. Барадуліным; інтэрв'ю Ю. Станкевіча са старшынёй камісіі па культуры БНФ «Адраджэнне» М. Купавам «Святая, памятная дата...» /найперш пра падрыхтоўку да 200-годдзя паўстання 1794 года; а калі шырэй — пра вяртанне нацыянальнай гістарычнай памяці/; і, безумоўна, працяг «Гісторыі Беларусі ў ілюстрацыях» М. Чарняўскага...

Наша гісторыя, праўда, нядаўняя, паўстае і са старонак артыкула А. Ліса «Цяжкая дарога свабоды» /у «Полымі» змешчаны пачатак/. У цэнтры ўвагі аўтара — воблік аднаго з самых выдатных беларускіх адраджэнцаў, першага прафесара геаграфіі, а да ўсяго выдатнага дзяржаўнага дзеяча Аркадзя Смоліча. Ледзьве аўтаматычна не напісаў «вядомага дзеяча». Што А. Смоліч заслугоўвае падобнай ацэнкі, сумнення быць не можа. Але імя яго толькі пачынае вяртацца з небыцця. У тым ліку і дзякуючы намаганням А. Ліса. У сваёй гаворцы пра час, у якім жыў А. Смоліч, і пра яго самога, аўтар выкарыстоўвае нямала архіўных матэрыялаў, сярод якіх шмат тых, што ўводзяцца на ўжытак упершыню, ці малавядомых. А гэта надае публікацыі пераканаўчасць, аб'ектыўнасць.

Вяртанне гістарычнай памяці як лейтматыў праходзіць у вершах В. Іпатавай. Як у гэтым — «Да дня 25 сакавіка». Невялікі твор, а сказана шмат. І пра наш нацыянальны нігілізм, і пра неабходнасць памятаць: мінуўшчына не церпіць карэкцыроўкі:

**Веру я: крыніцаю праб'еца**
**Праўда аб народзе і зямлі,**
**І у кожнае увойдуць сэрца**
**Нашы ваяры і каралі.**

**Нашыя прадвеснікі святыя...**
**... Тыя, хто праз зло і недавер**
**Быццам горы перайшоў крутыя —**
**Абвясціў калісьці БНР...**

Пераасэнсаванне колішняга і ў вершах В. Шніпа. У сваім жаданні дайсці да праўды, знайсці духоўнае апірышча лірычны герой паэта такі, як і ўсе мы. Адбываецца набыццё веры і адначасова вяртанне да веры, што жыла ў душах людзей калісь: «І мы ідзём на споведзь да царквы,// Ідзём на Суд да дзедаўскіх магіл».

З новымі вершамі ў «Полымі» выступаюць М. Аўрамчык, А. Бадак, А. Кавалюк. У М. Аўрамчыка — гэта за рэдкім выключэннем /«Галашэнне па Анатолю Грачанікаву»/ — прысвячэнні блізкім яму людзям, найперш калегам па пяры. Аднак асабістае ў іх як бы адступае на другі план, а навідавоку — самі лёсы, раскрытыя праз штрыхі, праз тую лаканічнасць думкі, калі ёй светла, прасторна. І ўсцішна, паколькі гаворка ідзе пра тых, хто табе імпануе.

Змешчаны заканчэнне рамана М. Кусянкова «Явар з калінаю», апавяданне А. Варановіча «Там, дзе нашы сляды», «Пісьменніцкія былі і небыліцы» А. Гардзіцкага, а таксама завяршэнне эсэ А. Станюты «Стэфанія». Першапачатковае ўражанне ад рамане М. Кусянкова знайшло сваё далейшае падмацаванне. Вобраз «практыка» Гаркушы — галоўнага героя твора — несумненная аўтарская ўдача. А аўтарскі «Р. S.» у нейкай ступені і «падказка» крытыкам, якія захочуць і пра раман паразважаць шырэй, і, безумоўна, пра самога Гаркушу: «Як не быў, так і не быць яму героем... Кожны час выбірае сабе ў герої таго, хто найбольш яму дагаджае, такіх ён узнімае на п'едэстал і ўзносіць да нябёс, таму калі той, нядаўні мінулы час не прызнаваў і адрынуў Гаркушу; дык, можа, яго прызнае сваім героем час цяперашні?.. Наўрад... Канечне, гэта праўда, што адбыліся вялікія перамены, але, па маіх назіраннях, ніхто і сёння пакуль што не хапіўся «практыка» Гаркушы».

А яшчэ ў «Полымі» — штрыхі да творчага партрэта І. Чыгрынава «Адкрытая кніга жыцця», напісаныя У. Юрэвічам, і гэткія ж штрыхі да творчага /і жыццёвага!/ вобліку С. Грахоўскага «Прапаведзь дабра», пададзеныя Л. Гарэлік. Акрамя таго, А. Каўрус /«З роднай гаворкі»/ знаёміць са словамі, спалучэннямі, устойлівымі выразамі, запісанымі ад жыхароў вёскі Брусы Мядзельскага раёна.

Як бачым, нават у двух часопісах пачытаць ёсць што. А ёсць жа яшчэ лютаўскія нумары «Беларусі» і «Нёмана» — таксама, як заўсёды, змястоўныя...

**М. АНДРЭЕНКА**

---

Што чытаюць

# БУДЗЬЦЕ ШЧЫРЫМІ!

«Дзесяць спосабаў, як змяніць чалавека, не наносячы яму крыўды». Гэта рэкамендацыі з кнігі, якая ў свой час ксеракапіравалася і перадавалася з рук у рукі нароўні з дысідэнцкай і іншай забароненай літаратурай. Прадпрымальнік Д. Карнегі шчодра дзяліўся сваімі ведамі наконт таго, як схіліць чалавека /чытай — партнёра/ на свой бок, як быць мілым і прыемным ва ўсіх адносінах, як жыць без «нэрваў» і канфліктаў. Ягоныя парады я колісь перадрукавала і павесіла ў кватэры на бачным месцы — як кіраўніцтва да дзеяння.

Ды, аказваецца, існуе і супрацьлеглы погляд на тое, як сябе паводзіць у разнастайных варунках з акаляючымі людзьмі. Даходліва і не без досціпаў гэтыя погляды выкладзены ў не менш славутай кнізе «**Анты-Карнегі, або Чалавек-маніпулятар**», выдадзенай пазалетась «Паліфактам».

Аўтар, славуты амерыканскі псіхолаг Эверэт Шострам супрацьпастаўляе няшчырай ветлівасці і паказной добразычлівасці зусім іншую пазіцыю — калі чалавек застаецца ў любых сітуацыях самім сабою, калі ён праяўляе натуральныя пачуцці: гнеў, крыўду, любоў... «Мы баімся спазнаць жыццё і чэсна глядзець на саміх сябе», — сцвярджае аўтар. У кожным з нас жыве маніпулятар, і гэты бясконца выназходлівы «ігрок» сто раз на дзень мяняе маскі, каб дабіцца жаданага. Ён імкнецца ўразіць, спадабацца, быць «душкай» /пасіўны тып паводзін/ або наадварот — «цісне» аўтарытэтам, перабольшвае сваю ўладнасць /актыўны тып/. І адны, і другія ператтвараюць сваё існаванне ў рэжым тое, узбройваюцца тактыкай і стратэгіяй, разлічваюць і манеўруюць, тым самым абясцэньваючы сябе, ператтвараючы жыццё ў нейкі натужны спектакль.

«Маніпуляцыя — гэта псеўдафіласофія жыцця, накіраваная на тое, каб эксплуатаваць і кантраляваць і сябе, і іншых». Э. Шострам паказвае асаблівасці такога роду паводзін на прыкладах адносін паміж настаўнікам і вучнем, мужам і жонкай, бацькамі і дзецьмі.

Каго ж са славутасцей слухаць? — спытаецеся вы. Нам было каму ўнушаць і без Карнегі, што сварыцца і крыўдзіць — блага, а суіснаваць мірна, ладзіць — добра. «А чаму б і не пакрыўдзіць чалавека, калі ён таго заслужыў?» — лічыць Э. Шострам. Тым больш, што, як правіла, мы не столькі баімся пакрыўдзіць іншых, колькі асцерагаемся, што яны ўзаемна пакрыўдзяць нас. Калі хочаце «зарабіць» неўроз ці горшую нават хваробу — працягвайце прытварацца, затойваць негатыўныя эмоцыі, капіраваць чужыя мадэлі паводзін, разрываца на часткі свядомасці.

Не ўсе, аднак, згаджаюцца на ролю благога акцёра. Тага, хто пераадолеў комплексы, усвядоміў самабытнасць сваёй асобы, псіхолагі называюць **актуалізатарамі** /антыподы маніпулятараў/. Для апошніх характэрнымі рысамі з'яўляюцца гранічная шчырасць, аўтэнтычнасць, давер да людзей, здольнасць пра ўсё мець уласную думку.

Вучыцеся выяўляць сябе, будзьце гаспадарамі свайго жыцця! — заклікае апанент Карнегі і прапаноўвае пры гэтым аптымальныя мадэлі паводзін, вучыць, як правільна канфліктаваць і г. д. Нямала ўвагі надаецца выхаванню дзяцей і тыповым памылкам у гэтай справе, а таксама ўзроставым асаблівасцям падлеткаў.

Абапіраючыся на працы Э. Фрома, якога надзвычай высока цэніць, Э. Шострам першы з вучоных даследаваў праблему уніфікацыі, «механізацыі» сучаснага чалавека. Для народаў былой савецкай імперыі гэта зусім не абстрактная, а жывая і актуальная дасюль тэма. Для беларускага некаторыя моманты з'яўляюцца асабліва павучальнымі. Вось, напрыклад, такі: «... здаровыя адносіны не заўсёды, далёка не заўсёды павінны быць згоднiцкімі». Ну, ці ж не карысная кніга?

**Г. К.**

ЛіМ
ЧАСАПІС

## «ВЯСЁЛКА» НАЗВАЛА ЛАЎРЭАТАЎ

Рэдакцыя часопіса «Вясёлка» адзначыла лепшыя творы, змешчаныя на старонках часопіса ў 1993 годзе. Прэміі атрымалі: Эдзі Агняцвет /вершы «Ляшчына», «Яліна», «Ясень і Ясь», «Пралеска»/, Даір Слаўковіч /апавяданне «Як абед гатавалі»/, Мікола Чарняўскі /казка «Лясное дзіва», вершы «Каравай», «Змайстравалі сані», «Пыласос-фокуснік», «Насупа»/.

## ПАЭЗІЯ КАМЕРЦЫІ НЕ ЧУЖАЯ

Да такой думкі ўсё часцей прыходзіш, калі знаёмішся з кнігамі, выпушчанымі недзяржаўнымі выдавецтвамі. Пацвярджэнне таму і зборнік Міхася Башлыкова «Дні мае залатыя», што выйшаў у Гомелі. Прэм'ера кнігі адбылася ў Доме літаратара. Ухвальные слова пра творчасць аўтара сказалі намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь І. Карэнда, намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі А. Пісьмянкоў, А. Петрашкевіч, М. Мятліцкі, Ю. Свірка, К. Цвірка, дачка А. Куляшова Валянціна Аркадзьеўна і іншыя. І, вядома ж, у час вечарыны прысутныя з цікавасцю паслухалі самога вінаўніка ўрачыстасці, а таксама яго творы.

## КНІГА НА ДАЛОНІ

Не так даўно аматары паэзіі пазнаёміліся з цудоўна афармленым двухтомнікам выбраных твораў Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна ў перакладзе на беларускую мову. Цяпер жа — чарговая навінка. Выйшаў не менш цудоўны томік /памер такі, што зборнік лёгка пакласці на далонь/ «Нет, весь я не умру...». Праілюстраваў яго Арлен Кашкурэвіч. А творы паралельна пададзены на рускай мове і ў перакладах Максіма Багдановіча, Рыгора Барадуліна, Петруся Броўкі, Аркадзя Куляшова, Янкі Сіпакова, Максіма Танка...

## КАБ НЕ БЫЦЬ ПАСЫНКАМ...

Бадай, так у некалькіх словах можна вызначыць сэнс рамана Івана Капыловіча «Пасынак», нядаўна выпушчанага выдавецтвам «Мастацкая літаратура». І справа не толькі ў тым, што галоўны герой твора Андрэй Цяжкі выхоўваўся без бацькі, хоць гэта, безумоўна, на ўсё жыццё наклала адбітак на яго паводзіны. Пасынак — успрымаецца і шырэй. Пасынак, як чалавек, які не па сваёй волі аказаўся непрыкаянцам. Не зразумелы іншымі і часам адрынуты імі. Пасынак, нарэшце, ахвяра абставін. Але ці толькі абставін? Абставіны ж ствараюць і самі людзі. І часцей зусім не лепшыя з іх, а горшыя.

Прэм'ера кнігі адбылася ў Доме літаратара. Вядучы вечарыны Г. Пашкоў, Ал. Марціновіч, А. Савіцкі давалі ацэнку не толькі гэтаму твору, а і ўсёй творчасці пісьменніка — як-ніяк, а І. Капыловіч нядаўна адзначыў сваё пяцідзесяцігоддзе. Намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі А. Пісьмянкоў уручыў яму ганаровую грамату.

Цікавымі былі развагі самога І. Капыловіча аб уласным жыцці-быцці, творчым шляху. Падзяліўся аўтар і мастакоўскімі задумамі. Артысты прачыталі ўрыўкі з рамана «Пасынак».

## ВЕРШЫ, МАНАЛОГІ, ПЕРАКЛАДЫ

Усё гэта сабрана ў кнізе Міколы Трафімчука «Фэст, альбо Трыяда». Калі папярэднія зборнікі паэта «Траекторыя» і «Трыванне» выйшлі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», дык гэты выпушчаны рэкламна-выдавецкім агенцтвам «Азбука». Фінансавую падтрымку аказалі фірмы «Філантрапіст» і «Красіко». А што да саміх твораў, дык яны пра наш хуткаплынны час, любоў да ўсяго зямнога, каханне.

Паэзія

Раман ТАРМОЛА-МІРСКІ



# ЛЁСАМ, ДОЛЯЮ РАСПЯТЫ

## У ТРЫЦЦАЦЬ ТРЫ...

Ах, Таўлай, сын Паўла — Валянцін,
Барацьбіт,
бясрэбранік,
таварыш,
Сёння мала з кім ты кашу зварыш:
Час наживай розум затаварыў
Ці па свеце голымі пусціў...
Сёння нанаў спечаны спадар
Застаецца, як і быў, галотай,
Хоць і з дэмакратыяй палётаў,
Пакрычаў,
як сотні тысяч глотак,
Атрымаў жа — нуль ад новых скнар.
Не Ісус Хрыстос,
а ў трыццаць тры
Быў ты лёсам, доляю распяты,
Пілаваў дарэмна вершам краты,
Бо філосаф,
як вяпрук іклаты,
Сёння знізу скажа: «Вінаваты!»
Прамаўчыць адно суддзя ўгары...
Колькі ні жыві — не пражывеш
Вечнасць... Супакоішся ў знямозе...
Добра, што народжаны ў астрозе
На крывёй запэцканай падлозе,
Не памёр пакутніцкі твой верш.
За цябе Айчына паўстае
І упэўненасць ёсць немалая:
Несмяротная душа Таўлая
Побач з намі свечкаю палае,
Чуе нас яна... А мы — яе...

## ВЕЧАР З РЫГОРАМ БАРАДУЛІНЫМ І ПОЎНЯЙ

1

Ні томіка ў цябе без маці,
Ні слова
без яе слаўца.
У кожнай кнізе,
як у хаце,
Ты з ёй да самага канца...
За тое, што матулі ўрокі
Не сплавіў моўчкі за лясы,
Я зычу лёс табе высокі,
Кулінін і Айчынін сын!
У небе сэрцаў пераклікі
Не чужака й не сваяка.
Гукнеш унучку Дамініку —
Навострыць слых мая дачка.
Як на адным на агародзе
Іваны з Грышамі раслі
У нашым чалавечым родзе...
Не цесна — родна на зямлі.
Рыгор Іванавіч,
ты ўспомніш
Не раз пра гэтых з'яў выток.
Я ж закругляю роздум Поўняй,
Што праз акно ўвайшла ў радок,
Каб стаць загадкавай падсветкай
Вачэй матуль
і бліскавіц
Па праву зорнае суседкі
У часе здымак таямніц.
І мы пад купалам царкоўным
Яшчэ ў сумоце пастаім,
Яшчэ з развагай рызыкоўнай
З чарцей змяцём уяўны грым.

2

А, можа, усё гэта прыдумкі
Пайшоўшага ў загул радка?
Паэты любяць без прытулку
Хадзіць часамі на руках.
Калі нас сёння ногі кормяць,
Ёсць права ў ног быць угары...
Глядзіш — і крытыкі запомняць
З рэалістычнасцю разрыў.
А хто не рве цяпер — сам рвецца
Альбо яго па-воўчы рвуць,
Са здзекам тыцкаюць у сэрца:
«Пачом жывая ў клетцы ртуць?»
Даруй, Рыгор, мне адступленне
У філасофскі рэпартаж.
Я адкрываю са здзіўленнем:
З падстрэленага пакалення
Выносяць хлопцаў не на пляж...
Кладуць часцей не на пагорку
У белы беларускі жвір,
А на закінутым падворку
Да чорта у балотны вір.
Хаця каму,
як не паэту
З чарцямі разам піраваць.
Быў зжыты з гэтага ён свету.
З таго — загадка,
як зжываць.
Сапхнуць уніз, замчаць у высі
Як блазена за творчы ўздым? —
Не ўведаеш,
хоць раздзярыся
Між гэтым светам і між тым.
Стральцоў каменьчыка не скоціць
Адтуль, каб знак падаць чарзе,
Хаця сягала пазногці
І там, напэўна, ён грызе.

3

Гэй, што за прывіды на конях
Кіруюць без дазволу ў кадр?!
Наш фільм зусім не пра пагоню...
Няўжо няма на свеце кар,
Якіх бы нехта забаяўся
Ці паважаў бы хоць закон.
Як мухі звон,
цяпер «пакайся!»
Калі маўчыць дзяржаўны звон.
Ды я рашаюся і сёння
Маўчання мех зваліць з плячэй:
Званам паэт адно і роўня,
А, можа, і яшчэ званчэй.
І тут няма чаму дзівіцца —
Не прадаецца з малатка,
Яго не скінеш са званіцы
Сумленнага,
як Бог,
радка.
І на вяроўку не навяжаш,
Каб тузаць у патрэбны час,
Бо ён вяроўчыную ляжа
На шыі злыдняў... Вось адказ.
...Дык што за прывіды на конях,
Урэшце, хто адкажа мне?
— Рэкламы здымкі тут сягоння...
Не паспявалі мы раней.
— Ды ў нас жа фільм «Паэт і маці»,
Святое кожнаму з людзей!
Рэкламам вашым шлюць праклці
За кадрам зараз з дня у дзень.
— Даруйце, але гэта рынак...
Пляцоўка ваша проста фук...
Мы можам і праспект Скарыны
Купіць... Паэта не пусціць у друк...

Стоп. Досыць. Хопіць на сягоння.
На здымкі не прыйшоў паэт.
Захмарылася нешта Поўня,
А без яе наш свет — не свет.
. . . . . . . . . . . . .
Ах, конік мой незацугляны,
Якой збуяле травы
Наскубся на якой паляне,
Што не ўздымаеш галавы.

Я думаў, нашы запытанні,
Прагорклыя штодня цяпер,
Хоць ты затопчаш капытамі,
А затапталі, бач, цябе...

Ды не палягуць песні ўпокат.
Засведчы, дарагі паэт!
А коніка чароўны цокат
Тысячагоддзі будзіць свет.

Адно бяссонная матуля
Напоіць коніка з рання,
За шыю да сябе прытуліць,
Падкоўкі скажа памяняць.

## ЛІСТ ВАСІЛЮ ЗУЁНКУ

Бог не адзін мяне бараніў,
Цяжка расплюшчваў мне вочы:
Не з кабінета — з сэрца званіў,
Думаю, ты неаднойчы...
Можа, таму і сэрца маё
Слухала болей, чым вуха,
І, як салдату, гукнула: «Пад'ём!
Скруха, збярыся з духам!»
І менавіта у тыя дні
Крэсіва біла аб крэмень.
Я апынуўся зноў пры агні,
Выдраны ледзь не з карэннем
Раптам з жыцця... Пазіраю ў касцёр,
Што каля рэчкі агораў.
Як ён да неба рукі прасцёр!
З вечнасцю, пэўна, гаворыць!
Помню, было так ля мора...
Дзіўная з'ява, братка Васіль:
Смерці адной намаганні...
Болей няма ўжо ні волі, ні сіл —
Толькі крыжоў скрыжаванні,
Ды заступіцца ўстаў не адзін
За аднаго
ў свеце цэлым;
Быццам у сне: «Па-жывому глядзіць...
Белым вярнуўся ў свет белы...»
Будзь блаславёны, клопат людскі,
Не задзяржаўлены голас,
Мройны ўспамін пра касцёр ля ракі,
Лёсам падрэзаны колас...

## З КРУГЛАЮ ДАТАЙ НА КРУГЛАЙ ЗЯМЛІ...

З днём нараджэння, Міхась Клебановіч,
З круглаю датай на круглай зямлі,
Дзе новаспечаныя панове
Нас падразаюць якраз у камлі...
Шчодра нам шчасце адшкадавалі —
Не паміраеш з ім і не жывеш,
Хоць пачапі ім за гэта медалі
Ці паднясі найпаклоніцы верш.
Хай раскашуюць ахоўнікі рынка.
Боязна горшае ўсё ж злыбяды:
Не задубела б душа, як скарынка,
Не абарваліся б раптам сляды.
Без ананасаў заморскіх і ківі
Не захістаецца, можа, наш крок.
Цвіў бы лянок яснавокі на ніве
Ды з часнаком не сварыўся гурок.
Толькі б у час і сабраць і пасеяць
Ды памаўчаць пры ляску, пры агні,
Слухаць як голаў і сэрца заселяць
Добрыя думкі ў нядобрыя дні.
Нам бы ідыліі покуль не рэдкай:
Хата, як маці... І плот, як хвартух...
Маміны рукі пад ім... і кветкі.
І не салдацкі — пчаліны рух.
Будуць з мядком землякі твае ў Грэску.
Можа, пад'едзем хаця б на пах?...
Успомнім, як зорна свіцяцца трэскі
Цёмнаю ноччу ў ціхіх дварах.

## ЗАМЕСТ ПРАДМОВЫ ДА ЗБОРНІКА «ЗЯРНЯТЫ З КАЛАСОЎ»

Хто ведае мяне
лепш за мяне?
Чужой душы маю не растлумачыць...
У небе мой двайнік,
а не ў акне
Са мной схіліўся над жыцця задачай.

Я сам пытальнік болей,
чым адказ,
Як па начах да бледнай зоркі горне,
Калі звычайны пра сіроцтва сказ
Закліньвае жальбой у горле.

На сэрца скруха падае слязой
У час развагі аб жыцці і смерці.
Айчыны мова робіцца лязом,
Калі не падвастрыць імкнуцца —
сцерці...

Усё ідзе сягоння з малатка.
І гэты факт аднойчы стане ўрокам...
Дай бог, быць адкрывальнікам радка
Сярод паўсюль
расхрыстаных прарокаў.

Ім зразумела неба і зямля,
І сплаў дзівосны думак і пачуццяў,
А я ўсё пакідаю на пасля
Разгадку слоў і абразоў у куце...

# ПОШУКІ І СУСТРЭЧЫ

Язэп ЯНУШКЕВІЧ

ВЯСНОЮ 1988 ГОДА МНЕ ПАШЧАСЦІЛА ЎПЕРШЫНЮ НАВЕДАЦЬ АРХІЎНЫЯ СХОВІШЧЫ ВАРШАВЫ, ВРОЦЛАВА І КРАКАВА. ТАДЫ Ж НАПІСАЛАСЯ АРХІЎНАЕ ЭСЭ, ЯКОЕ ХУТКА ПАБАЧЫЦЬ СВЕТ У «БІБЛІЯТЭЦЫ ЧАСОПІСА «МАЛАДОСЦЬ». ПРАПАНУЮ ЧЫТАЧАМ «ЛіМа» НЕКАЛЬКІ АПОШНІХ СТАРОНАК КНІГІ.




## 23 красавіка ПРЫГОДЫ СУЛІМЫ-САВІЧ-ЗАБЛОЦКАГА

У багатай на прыгоды жыццёвай адысеі Вайніслава Сулімы-Савіч-Заблоцкага даўняя сталіца Пястаў, дзе я цяпер гартаю ягоны эпісталярый, згадвалася паэтам без вялікага захаплення. На тое існавалі важкія падставы.

Перанясёмся ў думках на стагоддзе назад і зазірнём у вокны кракаўскіх салонаў. Суботнім вечарам 16 /28/ чэрвеня 1879 года «Kurjer codzienny» у адным з раздзелаў свецкай хронікі /як цяпер, гэтак і тады ахвочай на скандалы/ паведаміў сваім чытачам: «Ужо колькі гадоў вядомы сярод варшаўскага кола маладых літаратараў сп. Заблоцкі, аўтар шэрагу эксцэнтрычных паэм і шматлікіх часопісных артыкулаў, які называе сябе «Вайніславам-Казімірам-Цэзарам Савічам-Сулімам-Заблоцкім», апошнімі часамі бавіўся ў Аўстрыі, дзе, паводле паведамленняў венскай прэсы, карыстаўся прозвішчамі «барона Rozena» і «гр/афа/ Сабалеўскага-Знайдоўскага». У мінулым месяцы дырэкцыя Кракаўскай паліцыі выдаліла яго за межы аўстрыйскай дзяржавы. Следства выкрыла, што сп. Заблоцкі паходзіў з Віленскай губ., нарадзіўся ў Панічанах у 1846 г. і выконваў абавязкі прыватнага пісара».

Акрамя адкрыцця новага імя паэта Цэзары /ці сапраўднага?/ і фіктыўных прозвішчаў «барона Роззна», «графа Сабалеўскага-Знайдоўскага», у нататцы прыведзена і новая дата нараджэння нястомнага шукальніка прыгодаў /на падставе аўтабіяграфічнага запісу паэта ў альбоме М. Сямеўскага, пададзенага Генадзем Кісялёвым у «Пачынальніках», днём нараджэння Вайніслава лічыцца 3 сакавіка 1850 года/. Ці адпавядае яна нейкім дакументальным звесткам /скажам, запісу ў замежным пашпарце/, на гэта пакуль адказу няма. Адно, што дазваляе ўдакладніць адшуканая нататка, — час высылкі Сулімы-Савіч-Заблоцкага з Кракава: 1879 год, а не 1876-ы, як памылкова прывёў Адам Мальдзіс у сваім архіўным дзённіку «Тры месяцы пошукаў і сустрэч».

Акалічнасці незайздроснага жыцця Вайніслава пасля скандальнага выдалення паўстаюць у ягоных лістах да Агатона Гілера. «З Кракаўскай турмы я пісаў Вам два лісты алоўкам, — паведамляў паэт ноччу 26 красавіка 1879 г. з Мыславіц, — ці дайшлі да Вас — не ведаю. Толькі сёння магу коратка распавесці Вам, што /.../ мяне і багата каго з эмігрантаў спаткала вялікая ласка: хворага, у лахманах, без аніякіх дакументаў, што сведчылі б пра маю асобу, даставілі мяне, з асаблівай увагі на маю персону не царызму /расейскаму/, а на прускую мяжу; у Мыславіцах кінулі мяне літаральна без цэнта ў кішэні, бо паліцыя дала на дарогу ўсяго 10 рэйнскіх залатых, на якія 23, 24-га і 25-га загадала яшчэ жыць пад час паліцэйскага арышту. У Кракаве не дазволілі нават забраць у Скрыньскага рэчы з гатэля, ні пабачыцца з кім, ні ад нікога ўзяць грошы не дазволілі...

Я гэткі хворы, што ледзьве трымаюся на нагах, абселы вошамі ад колькітыднёвага /з 16 лютага/ зняволення, ад бяссонных начэй. Я можа і ўпаў бы ў роспач, але і на гэта сіл не стае /.../»

У роспач глыбокую «Сабалеўскі-Знайдоўскі» не кінуўся і гэтым разам; знайшоў нейкае выйсце з жыццёвай пасткі, у якую ўваліўся. Бо хоць паходзіў Вайніслаў, несумненна, з графскага кораня /маці ягоная з роду Святаполк-Мірскіх/, але ўрадзіўся панічанскі дзедзіч трывушчым, бы вербалозы на цяністых беларускіх гасцінцах, загартаваныя маразамі і летнім скварам. Наперадзе яго чакалі адысеі ў краіну вікінгаў — Скандынавію, у слынны пірамідамі фараонаў Егіпет, дзе перажыў, напэўна, не адну прыгоду. Прыгоды тыя нам, на жаль, невядомыя.

А вядомае — таксама выклікае жаль і шкадобу. На Беларусь Суліма-Савіч-Заблоцкі вернецца ў 1888 годзе, усяляк запэўніваючы царызм у вернападданстве. Тым самым Вайніслаў нібы адмежаваўся, выракся ідэалаў, апетых ім у прысвечаным Юзафу Багдану Залескаму юбілейным панегірыку.

## 24 красавіка МАГІЛЫ Ў КРАКАВЕ

Раніцою, спаткаўшыся ля Кракаўскай ратушы, Алег Латышонак павёў нас, трох беларусаў /у Ягелонскім універсітэце ўжо другі месяц адбываюць стажыроўку аспіранты Сяргей Кавалёў і Віктар Таранеўскі з Віцебска/, на Ракавіцкі цвінтар. Зусім нядаўна Алег адшукаў там магілу Алеся Гаруна. Пра стамляльныя і напачатку амаль безнадзейныя да роспачы пошукі, ён цяпер згадвае ўсмешліва, пацвельваючы ці то з нашых роспытаў, ці то з сябе, шукальніка «клада на кладах».

— Хаджу сабе дзень-другі, потым і тыдзень-другі мінае. І месяц. Прыкмецілі мяне грабары-трунары тутэйшыя, пытаюцца:

— Чаго шукаеш? Ці сваякоў, ці мо які скарб прыхаваны?

— Не, кажу, аднаго беларускага паэта пахавалі тут улетку 1920 года.

— Братка, — ледзь не ў адзін голас загукалі, — наша табе парада: знойдзеш — не прызнавайся, што проста паэт беларускі. Кажы: «сваяк мой». Тады і сам мецьмеш права пахавацца побач.

Зразумець меркантыльныя парады вясёлых наймітаў журботнай прафесіі лёгка: старадаўні Ракавіцкі цвінтар для кракавян куды ганаровей, чым Маскоўскія могілкі для менскіх чыноў.

Урэшце спыняемся ля акуратна падраўнянага жоўтага ўзгорка, абкладзенага па ўскрайку зялёным дзёрнам... Самаробны з бярозавых чурак-круглякоў крыж, дачасна пакладзены на голай мураванай пляцоўцы, зацярушанай ігліцаю суседніх соснаў... Цішыня і запусценне... І толькі прычэпленая /таксама самаробная/ невялікая шыльдачка на крыжы падказвае, хто тут пахаваны...

Алег разбівае маўчанне сентэнцыяй.

— Мінуў бы яшчэ нейкі год-другі, і я магілы не адшукаў бы... Сваякі «суседзяў» разгрэблі б неўпрыкмет безыменны курганок. І так ледзь давёў ім на падставе даўняй пахавальнай схемы, што паміж Баляславам Словікам /хіба таксама беларус; Slowik — салавей/ і палкоўнікам Станіславам Сакалоўскім ляжыць прах Алеся Прушынскага...

Сапраўды, нехта 76-гадовая Станіслава Свіроўская /сваячка Сакалоўскага?/ пахавана тут 14 жніўня 1984 года — упрытык ля Гаруновай магілы. На памяць усплываюць строфы з верша-прысвячэння Міхася Чарота, перапісанага і падараванага мне Сакратам Яновічам, і я з палёгкаю думаю: «Хоць аднойчы, дзякуючы земляку, якога лёс у канцы XX стагоддзя часова прывёў у Кракаў, беларусы не спазніліся «на цягнік»...

Пра помнік Адаму Кіркору патурбаваліся сваякі і сябры. З грамадскіх складак зрабілі надмагілле, што пратрывала да сёння. На Ракавіцкім цвінтары яго лёгка адшукаць паводле могільнікавых шляхаводнікаў. На шэрай пліце з тоўстага каменю-пясчаніку расчытваем, апроч прозвішча і датаў, тры словы на польскай мове: «Даследчыку мінулага Літвы».

Нават мужчынскае сэрца закіпіць слязою ад усведамлення высакароднасці, шляхецтва, якім вылучаўся рэдактар «Віленскага кур'ера» і ягоным незаслужана бядачым лёсам. Ахвяраваўшы ўсё навуцы і Бацькаўшчыне, не маючы ўласных дзяцей /хоць быў жанаты двойчы/, Кіркор да самай смерці апекаваўся над іншым, сам моцна занядужаны і схварэлы. Прыгадваю адзін з аўтографаў, сустрэты мною літаральна ўчора. «Мой каханы, здароўе маё вельмі кепскае, таму гэтак замарудзіў з адказам. З Львовам у мяне сувязі чыста літаратурныя і навуковыя. Нікога не ведаю, хто мог бы табе быць карысным. Аднак зайдзі да Улад. Бэлзы /Крашэўскага, 15/, калі ён вярнуўся /.../ і папрасі яго ад майго імя, паказаўшы гэты ліст, каб табе штось параіў, зрабіў пратэкцыю. Ён вельмі прыязны, а сэрца залатое. Цалую цябе сардэчна. . Кіркор. 18 жніўня 1886 г.».

Сэрца ў Кіркора было знясілена: штомесяц Адам-ганоры пераносіў сардэчныя прыступы. Неўзабаве, у снежні 1886 года, невядомы для мяне адрасат назаўсёды згубіць свайго сардэчнага дарадцу, а Беларусь-Літва аддананга ёй да апошніх хвілін патрыёта-грамадзяніна.

Па абедзе на тым самым Ракавіцкім цвінтары Барбара Чарнавеская пакажа мне магілу свайго таты, прафесара матэматыкі Ягелонскага універсітэта Міраслава Крыжаньскага, праўнука Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. На Беларусі постаць прафесара абсалютна невядомая; таму колькі слоў на знаёмства.

Нарадзіўся Гадзімір-Міраслаў 31 кастрычніка 1907 года на Тульшчыне ў сям'і Язэпа Крыжаньскага, жанатага на Вандзе Асіповіч. Ванда — адна з дачок Камілы Марцінкевіч-Асіповіч. Пасля рэвалюцыі ягоныя бацькі вяртаюцца на радзіму, у Вільню. Міраслаў скончыў тамтэйшую гімназію імя Лелявеля /1927 г./ і матэматычны факультэт Віленскага універсітэта са званнем магістра. Да вайны працаваў выкладчыкам фізікі і матэматыкі Драгічынскай мужчынскай гімназіі, потым у Семятычах і ў Вільні, дзе абараніў кандыдацкую дысертацыю па матэматыцы /1934 г./. Ваеннае ліхалецце перачакаў у жончыных сваякоў у слыннай Люцінцы, адкуль дабіраўся на працу ў Валожынскую гандлёвую школу /1943 г./, а пазней у Івянецкую сярэднюю школу /1944 г./. Пасля вайны выехаў у Кракаў, стаў прафесарам матэматыкі. Памёр 1 снежня 1965 года, пакінуўшы ў шлюбе з Ганнай Іжыцкай двух сыноў /Андрэя і Тадэвуша/, дзвюх дачок /Ядвігу і Барбару/ і шмат вучняў — слынных у сённяшняй Польшчы дацэнтаў і прафесароў матэматыкі /Пётр Рэсаль, Андрэй Шыбяк/. Адну з вуліц у новым мікрараёне Кракава назвалі ў гонар праўнука В. Дуніна-Марцінкевіча.

Малодшая дачка Барбара нарадзілася 15 красавіка 1954 года, вучылася ў Ягелонскім універсітэце на аддзяленні расейскай філалогіі; магістарскую працу бараніла па творчасці В. Жукоўскага. Потым адбыла паслядыпломную стажыроўку ў педінстытуце імя Горкага ў Маскве, дзе напісала даследаванне зусім іншае тэматыкі і эпохі: «Нравственно-философский смысл повести Виктора Астафьева «Последний поклон». Сама ж Барбара піша вершы. Вось неўзабаве павінен адбыцца яе аўтарскі вечар.

— Як, ты ўжо выпусціла паэтычны зборнік? — пытаю.

— Чаму ты гэтак мяркуеш? — здзівілася Барбара.

— Ну, у нас аўтарская вечарына бывае з нагоды юбілею літаратара або пасля выхаду ягонай кнігі.

— Не, у Польшчы літаратурная практыка іншая: усё пачынаецца ад публічнага знаёмства з рукапісам, з аўтарскай вечарыны, куды запрашаюцца крытыкі, калегі. Абавязкова паўстануць пытанні, крытычныя заўвагі. З улікам іх /прыняць усе ці частку — твая воля/, выдаеш потым кнігу, якая, як правіла, ніколі горш ад такога абмеркавання не рабілася.

Барбара ніколі не была на Беларусі. Цяпер, пагартаўшы падараваны мною аднатомнік твораў свайго слыннага прашчура, марыць убачыць Люцінку.

## 25 красавіка АЛЬБОМ АДАМА КІРКОРА

Панядзелкавы дзень распачаўся тужлівай шкадобаю: прыезд мой у Кракаў усяго на 10 дзён — стратэгічная памылка. Варта было менш часу адводзіць на Вроцлаў, а больш пакінуць на Ягелонку. У ёй аднаго аддзела беларускай бібліяграфіі, куды завёў мяне ранкам Віктар Таранеўскі, хопіць на паўмесяца прагляду. Не кажучы пра асэнсаванне аўтографаў, знойдзеных «тэарэтычна», шляхам завочнага знаёмства па размаітых інвентарах-каталогах /накшталт вершаў Сулімы-Савіч-Заблоцкага, спісаў «Тараса»/. А яшчэ ж хочацца правесці пошукі «на мясцовасці» — у слыннай Ягелонцы.

Стаіўшы дых, патрымаў у руках дакументы XV—XVI стагоддзяў — старадаўнія каралеўскія дыпломы-прывілеі. Трымаў з трапяткою пашанаю: стагоддзі прашумелі над зямлёю, але хтосьці захаваў гэтыя памерам у 2-3 сучасныя машынапісныя аркушы шурпатыя пергаменты з прычэпленымі пукатымі васковымі пячаткамі з выявай багровага конніка.

Калі ранкам два дакументы на пергаменце прывялі маю душу ў трапяткі стан, дык пад вечар я быў проста падкошаны шчодрым россыпам аўтографаў славутых дзеячаў мінулага, сабраных пад агромністай, ледзь не паўметровай /32х47 см/ вокладкай. На вока манускрыпт таўсцей за даланю, а вагою — як падняць. На вокладцы, адмыслова ўпрыгожанай залацістымі карункамі, паўмесяцам выціснуты залатыя літары A U T O G R A F Y A. K. 1855.

Перада мною — адзін, трэба думаць, з сотні фаліянтаў, сабраных у свой час Адамам Кіркорам. На адвароце вокладкі буйнымі рымскімі лічбамі наклеены, нібы экслібрыс, рымская лічба XXI /парадкавы нумар у бібліятэцы А. Кіркора?/. Потым зноўку паўтараюцца карункі. Тытульны ліст пісаны ад рукі:

«А ў т о г р а ф ы. З б о р
Адама Ганорага К і р к о р а.
Прывілеі, патэнты, лісты: пануючых, вучоных, артыстаў, ваяроў, духоўнага і размаітага стану людзей, Літвінаў і Палякаў, а таксама розныя дакументы з гербамі старажытных местаў, гродскіх замкаў, цэхаў. 1855. Вільня».

Перагарнуўшы тытульны ліст, знаёмлюся са спісам асобаў, чые аўтографы тут прадстаўлены: Жыгімонт Стары /1535 г./, каралева Бона, Жыгімонт Аўгуст, Генрых Валуа, Стафан Баторы, Жыгімонт Ваза, Уладзіслаў IV, Ян Сабескі, Станіслаў Ляшчынскі... Пералік каралёў польскіх ды вялікіх князёў літоўскіх доўжыць спіс «драбнейшых» знакамітасцяў: Мікалая Радзівіла Чорнага /1530 г./, Льва Сапегі, Яўстафа Валовіча, Мікалая Кішкі, гетмана Міхала Паца, полацкага ваяводы Служкі, менскага ваяводы Яна Жабы, астранома Марціна Пачобут-Адляніцкага, Антона Тызенгаўза, Андрэя Снядэцкага, піянера славяншчыны Адама Чарноцкага /Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага/, мітрапаліта ўсіх рыма-каталіцкіх касцёлаў Расійскай імперыі Станіслава Богуш-Сестранцэвіча, князя Адама Чартарыйскага, менскага біскупа Мацея Ліпскага /апекуна маладога Вінцука Дуніна-Марцінкевіча/...

Усяго сабрана 203 аўтографы. Прадстаўнічы спіс дае права назваць volum А. Г. Кіркора унікальнай з'явай беларускай культуры, годным заняць месца побач з іншым славутым альбомам, заведзеным таксама ў сярэдзіне XIX стагоддзя Кіркоравым знаёмцам Арцёмам Вярыгам-Дарэўскім.

Куды больш старадаўніх прозвішчаў напаткаў я ў адшуканай гутарцы «Паны Ліцвіны». Цэлае суквецце, праўдзівы скарб! Не верыце?

**З'ехаліся неяк спадары ліцвіне:**
**Сапега з Радзівілам, Служка і Крышпіне.**
**Пацей, Казёл, Заранак, Война, Рудаміна,**
**Пац, Гедройць, Шэмет, Гелгуд — іншая дружына.**
**Рахавалі імёны рознага ды звону**
**Сакавітыя прозвішчы з кожнага дому.**
**Першым крыкнуў Сапега, аж ляціць Закліка.**
**Служка потым кажа: «Паклічце Драньчыка».**
**Пасыпаліся за ім, бы з казачнага рогу**
**Розныя імёны — агідныя на'т Богу.**
**Сляпец, Келпш, Гэць, Пакаш,**
**Кіркуць, Бідзік, Шарапата,**
**Барэйка, Дарагініч, Ладзята, Пуцята,**
**Лойка, Дырда, Кілбаса, Кішка, Верашчака,**
**За імі Шпырка, Дзядэрка, узяўшы з сабой Рака...**

Нават мой шурпаты пераклад з польскай мовы захаваў, спадзяюся, каларыт даўніх прозвішчаў-найменняў. Ну, а за Ракам чарадою замільгалі не менш каларытныя: Зарэмба, Нарвіла, Карп, Дулеба, Шышка, Небарачак, Турлай, Пачабут, Кучук, Лапата, Чаропка, Талочка, Чобат, Смятана, Забела, Кушаль, Сумарока, Пішчала, Пятух, Бурка, Хоцька, Блус, Корбут, Жур, Кісель, Слізень, Кіркор, Шорка, Орда, Рымша, Карась, Струп, Баболя, Воўк, Камар, Гласка, Сялява, Бацян, Костка, Плятар, Пінчук... — і не ведаеш, на якім запыніцца, скончыць пералік.

Разабрала цікаўнасць: а колькі ўсяго згадана іх на 6 аркушыках гутаркі? Пачаў лічыць... 685! Амаль сем соцень! Праўдзівая энцыклапедыя для тых празаікаў, хто задумае пісаць творы пра мінулае Беларусі. І выдумляць — галаву ламаць — не варта.

У канцы рыфмаванага «анамастычнага слоўніка XIX стагоддзя» празаічная заўвага-прыпіска: «Копія гэтых безыменных рыфмаў ва ўласнасці гр/афа/ Зыгмунта Пуслоўскага ў Кракаве, арыгінал на руках у вяльможнага Язэпа Орды ў Дзеравянчыцах Слонімскага павета».

Арыгінал, трэба думаць, на маёй радзіме не захаваўся. Як не захавалася і пэўная частка «пялёсткаў» — пералічаных, тыпова беларускіх прозвішчаў. Паўстанні, войны, ліхалецці, рэвалюцыі, рэжымы, рэпатрыяцыі абтрасалі родавыя дрэвы, дабіраліся да каранёў, сцiралі — да папялішчаў — на крывіцкай зямлі старажытныя вёскі, фальваркі, хутары, аселіцы, засценкі, мызы, калоніі, лесніčоўкі, не пакідаючы на месцы котлішчаў ці ў пошуме абгарэлых прысадаў найменняў колішніх руплівых гаспадароў...

## КАХАННЕ ДЛЯ НЯВІННАСЦІ



**Яно, каханне на ўсе часы, заспявае герояў п'ес Юджна О'Ніла ўладарна ды беспаваротна; пад «Поўняю для пасынкаў лёсу» яно перастрэла і Джозі Хогэн, лэдзі Нявіннасць, паменаваўшы цэлы спектакль гэтаю мянушкаю. «Лэдзі Нявіннасць» — новы спектакль Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы, задуманы і ажыццёўлены на малой сцэне рэжысёрамі-пачаткоўцамі Дзмітрыем Марыніным і Дзмітрыем Саладухам пад кіраўніцтвам Валерыя Раеўскага, вылучыў перадусім выканаўцу ролі гэтай знанай лэдзі — маладую /ці не самую маладую?/ актрысу тэатра Вольгу Няфёдаву. Пэўна, няшмат хто ўгледзіць цяпер у эфектнай кабеце, яе сцэнічнай гераіні, колішнія вобразы-«прыступкі» да такой магутнай ролі: напрыклад, безыменную жыхарку інтэрната, дзе арэндуюць пакойчык для тэатральных артыстаў /спектакль «Курыца» М. Каляды/, — расхрыстанаю, раскудлачанаю, у расшпіленых ботах ды адмыслова накручанай на галаву хустцы совалася гэтая дзіўная сонная істота па падмостках, выклікаючы самую смяшліва-шчырую рэакцыю гледачоў. Другая бясслоўная гераіня В. Няфёдавай – служанка са спектакля «Нежанаты мнагажэнец, альбо Залёты пана дэ Пурсаньяка» Ж.-Б. Мальера: праз міміку ды пластыку мусіла актрыса выяўляць дачыненні са сваімі партнёрамі, - добрая падрыхтоўка да будучых роляў са словамі, ці не так?.. У спектаклі «Саўдзельнікі» паводле Гётэ гераіня В. Няфёдавай – Сафі загаварыла з ласкі рэжысёра Н. Піскаровай /мастацкі кіраўнік — В. Тарасаў/ і... звярнула на сябе ўвагу рэжысуры — пільную...**

**«Лэдзі Нявіннасць» выйдзе на малую сцэну Купалаўскага тэатра 19 і 20 сакавіка ў прэм'ерных паказах. Яе партнёрамі выступяць Расціслаў Шмыроў, Фама Варанецкі, Ігар Сідарэнка ды Аляксандр Астроўскі, — два апошнія выканаўцы, дарэчы, студэнты Акадэміі мастацтваў Беларусі. Сцэнаграфія — Ірыны Лапо, музычная тэма ўзята стваральнікамі спектакля з оперы Д. Гершвіна «Поргі і Бэс», якая нечакана вызначыла жанр спектакля як «трагікамедыю ў стылі блюз».**

*На здымку: Вольга НЯФЁДАВА /Джозі Хогэн/.*

*Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ*

## АВАНТУРАЎ ХАПІЛА НА ЎСІХ

**«Дзівосныя авантуры паноў Кубліцкага ды Заблоцкага» П. Васючэнкі і С. Кавалёва далі нагоду для самай дзівоснай тэатральнай авантуры /у лепшым сэнсе гэтага слова!/: спектакль з процьмаю дзейных асобаў разыграў... адзін-адзіны акцёр Леанід Сідарэвіч у, дадамо, дзівосна-авантурным вырашэнні рэжысёра Галіны Карбаўнічай і мастака Веніяміна Маршака /майстры-выканаўцы Алена Іваніцкая і Таццяна Лісавенка/.**

**Спектакль лялечны, — лялек у ім больш за дваццаць. Ажыццёўлены ён сродкамі ды спрыяннем Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра «Зніч» і асабіста мастацкага кіраўніка тэатра Галіны Дзягілевай. Прэм'ера адбылася 14 сакавіка на вялікай сцэне Тэатра юнага гледача — дзякуючы зацікаўленаму і спагадліваму стаўленню кіраўніцтва тэатра і асабіста дырэктара тэатра Ігара Андрэева. 26 сакавіка можна будзе ўпэўніцца ў дыхтоўнасці авантурнага працягу, — прэм'ерныя паказы працягнуцца да канца красавіка.**

# БЛАСЛАВЕННЕ

## ВАСІЛЬ БЫКАЎ І ДЖУЗЭПЕ ДЭ САНЦІС

Калі гэтыя імёны ў 1966 годзе звязала гісторыя нашага кіно, Быкаў лічыўся маладым пісьменнікам, — быў аўтарам трох аповесцяў /»Жураўліны крык», «Трэцяя ракета», «Альпійская балада»/, а дэ Санціс ужо ў пачатку 50-х гадоў быў прызнаны ва ўсім свеце адным з заснавальнікаў і класікаў італьянскага неарэалізму — вяршыні сусветнага кіно. На яго творчым рахунку былі «Трагічнае паляванне» /1947/, «Горкі рыс» /1949/ і сапраўдны шэдэўр «Рым у 11 гадзін» /1952/.

Выпадковым можа лічыцца водгук дэ Санціса на сцэнарый «Альпійская балада» Васіля Быкава, але ўважлівае вока ўбачыць тут праяву пэўнай заканамернасці. Неарэалізм гранічна наблізіўся да спасціжэння чалавека ў драматычнай і трагічнай сітуацыі. Тым самым шляхам ішоў і Васіль Быкаў. Менавіта ён быў адным з тых, хто паварочваў тагачасную савецкую літаратуру ад гераічнага рамантызму да непрыхаванай праўды ў творах пра Вялікую Айчынную вайну. Ва ўмовах таталітарнай ідэалогіі пад ерэтыкоў ад літаратуры не слалі саломкі, і не дзіва, што гэты свой цывільны подзвіг ажыццявілі былыя франтавікі, якім прыйшлося вытрымаць няроўны бой са сваімі генераламі, — як армейскімі, так і літаратурнымі. Аказалася, што свая вайна была ў салдат, свая ў генералаў.

У выступленні ўсесаюзнай канферэнцыі па літаратуры, прысвечанай падзеям Другой сусветнай вайны, В. Быкаў выказаўся пра тое, чаму розныя людзі ў адных і тых жа падзеях бачылі розную вайну. Адны пісьменнікі бачылі вайну з тылу і перажылі яе ў сваім уяўленні. Другі атрад складалі ваенныя карэспандэнты. Яны бачылі вайну ў час камандзіровак. Няшмат хто быў жыхаром вайны і ацалеў, бачыў вайну з акопаў, як яе бачыла пяхота — пралетарыі вайны, паводле Быкава. Першым сярод акопнікаў ад літаратуры Быкаў назваў Віктара Някрасава, аўтара аповесці «У акопах Сталінграда».

На той час В. Някрасаў жыў у Парыжы, яго імя, выкрасленае са старонак друку, афіцыяльная ідэалогія імкнулася вытруціць з людской памяці. І раптам табу было парушана і слова сказана. Я бачыў, як нервова зварухнуўся ў прэзідыуме П. Машэраў, як перасмыкнуўся яго твар. Я чуў ноткі крыўды у голасе К. Сіманава падчас ягонага выступлення, нібы ён быў паніжаны ў чыне, таму што ў яго памяці была камандзіровачная вайна. А голас Быкава гучаў падкрэслена спакойна, ніякай трывожнай усхваляванасці зала не чула...

Ён вылучаўся яшчэ да свайго выступлення, седзячы ў прэзідыуме. У акулярах з зацемненымі шкельцамі... Яго нерухомая постаць, здавалася, прамяніла спружыністую, рашучую энергію. І калі ён гаварыў аб тылавых баталістах і камандзіровачных на вайну, ставячы супраць іх В. Някрасава, я зразумеў, што ён у сваім дакладзе падрыхтаваўся даць бой няпраўдзе аб вайне. Ён не мог і не хацеў адступіць, як яго героі; ён, напэўна, не вельмі спадзяваўся на перамогу... Наспеў час, і Быкаў, як гэта не раз даводзілася яму ад 41-га да 45-га, зрабіў свой крок. Можа быць, крок насустрач лёсу. І гэта не гучныя словы. Ніна Гілевіч, з якой я знаёмы яшчэ па вучобе ў Шумілінскай школе, гаварыла, што прафесійныя «патрыёты» ў Гародні білі вокны ў кватэры Быкава, у школе крыўдзілі дзяцей, і да яго, як пазней да Сахарава, быў прыстаўлены спецыяльны наглядчык з КДБ. І як Нілу Гілевічу, сакратару Саюза пісьменнікаў, доўга даводзілася абіваць парогі высокіх кабінетаў, пакуль удалося дамагчыся двухпакаёўкі для чалавека, які болей зрабіў для славы сваёй старонкі над блакітнымі азёрамі, як усе савеліі паўлавы на чале сваіх ідэалагічных рацей.

Чытаючы сцэнарый В. Быкава, «Альпійская балада», славуты дэ Санціс напэўна адчуў, што мае справу з чалавекам адной мастацкай веры, хоць і не зусім яшчэ вольнага ад ідэалагічнага прыгнёту. У мінулым рыцары ўдарам мяча па плячы давалі знак: рыцарскі стан узяты новы вой, дэ Санціс, вобразна мовячы, гэтаксама блаславіў Васіля Быкава.

Ніжэй змешчана выступленне дэ Санціса на пасяджэнні рэдкалегіі кінастудыі «Беларусьфільм» 26 ліпеня 1966 г.

**Генадзь РАТНІКАЎ**

## СТЭНАГРАМА ВЫСТУПЛЕННЯ ДЭ САНЦІСА

Усё, што я скажу, гэта мая асабістая думка. Не думаю, што трэба ў мастацтве даваць парады, бо мастацтва — гэта нешта асабістае, індывідуальнае. Выкажу свае ўражанні.

Трэба разумець, што гэта меркаванні італьянскага рэжысёра, творчасць якога фарміравалася ў мастацтве італьянскага неарэалізму. Я чалавек, народжаны італьянскім неарэалізмам. І тое, што я скажу, мае выключна асабістае бачанне. Ва ўсіх рэжысёраў свае недахопы. Яны разумеюць свае фільмы і не разумеюць іншых.

Я прачытаў сцэнарый 4—5 разоў. І вось мае ўражанні.

Тэма вельмі цікавая, сюжэтная лінія прывабная. Асноўная думка, — што савецкі салдат і італьянка знаходзяцца ў нямецкім канцлагеры, потым уцякаюць і знаходзяцца ў складанай сітуацыі. Як думка гэта вельмі добра. Ёсць агульнае з фільмам «Скутыя адным ланцугом». Пазней я скажу, чаму я гэта прыгадаў.

Сцэнарый прафесійны, добра пабудаваны, чытаецца на адным подыху, нарастае драматургія.

Што ж не падабаецца?

Магчыма, адчынім дзверы для дыскусіі.

Ідэя добрая, пабудова добрая. Аднак маецца нешта традыцыйнае. Пабудова нагадвае пабудову многіх другіх савецкіх фільмаў. Я лічу, што гэта недахоп. У вас вельмі многа гавораць аб рэалізме, але калі справа даводзіцца да канца, выходзіць рамантызм. Бачанне свету і дачыненні людзей развіваюцца не па лініі рэалістычнай, а па лініі рамантычнай.

Мяне не цікавяць ніякія «ізмы». Мастацтва мае адно імя — мастацтва. «Ізмаў» жа столькі, колькі на свеце мастакоў.

Тут не так сацыялістычны рэалізм, як рамантызм. Гэты сцэнарый пабудаваны традыцыйна. Дэфект паглыбляецца тым, што сцэнарыст малады. Уся задумка давала магчымасць для ломкі традыцыі.

Асноўны недахоп — адсутнасць канфлікту.

Двое бягуць разам. Адна мэта. Абодва камуністы. Любяць адзін адно. І няма ні ценю сумненняў паміж імі.

Канфлікт з вонкавымі з'явамі. Канфлікт вонкавы, а не ўнутраны. Нават немцы, ворагі, разглядаюцца як элемент вонкавы. Гэта — асноўны недахоп.

Можа быць, фільм і бесканфліктны, лірычны. Гэта і ёсць традыцыйнасць. Калі б традыцыйнасць была зламана, сюжэт даваў бы шмат магчымасцей у сэнсе дыялектыкі: мы — камуністы і імкнёмся да саюза з іншымі сіламі.

Адносіны паміж двума людзьмі можна будаваць на канфлікце поглядаў. Жанчына магла быць не камуністкай, а проста антыфашысткай. Калі б яна стаяла на іншых пазіцыях, узнік бы канфлікт чалавечы, ідэалагічны, было б цікава. Яна магла быць каталічкай.

Цяпер у Італіі ідзе цікавы дыялог з каталікамі, гэта вялікая сіла. Герой мог бы ёй многае растлумачыць.

Палітычна яны маглі б жорстка спрачацца. Але ў адносінах асноўнай праблемы — ратаваць жыццё, любіць, яны былі б згодны. Калі ў людзей розных напрамкаў адна мэта, яны могуць дамовіцца. Не ведаю, лічылі б вы магчымым зараз змяніць гэта. Для перапрацоўкі патрэбна было б нямнога. Але хаця б адна рэч павінна быць улічана. Трэба пазбавіцца цэлай часткі, калі жанчына многа і хораша гаворыць аб СССР. Тут фільм становіцца нацыяналістычным. Калі яна цалуе раны — непрыемна. І атрымліваецца занадта па-прапагандысцку. Трэба было б развіваць дзею ў асабістым, лірычным напрамку. Нямнога падрэзаць, і фільм будзе праўдзівым. І італьянская жанчына не змагла б гэта зрабіць — цалаваць раны. Гэта немагчыма псіхалагічна.

Я люблю парадоксы і гіпербалы, але тады трэба было б ствараць агульную структуру, дзе б яны былі ў цэнтры. А тут яны ўзнікаюць нечакана.

Гэта агульнае ўражанне.

Падабаецца пачатак. Выбух бомбы.

Не падабаецца:

Немец, якому чысцяць боты. Шмат падобнага мы бачылі. Трэба пашукаць нешта больш арыгінальнае.

Сцэна з сабакам. Таксама прымільгалася. Я падумаў пра варыянты. Замест двух сабак — адзін. Яго ён /Іван. — **Г. Р.**/ можа параніць. У сабакі і ў яго адна сітуацыя, адно становішча. Калі б ён аддаў увагу сабаку, гэта ўнесла б навізну і надала б яму /Івану. — **Г. Р.**/ гуманныя рысы. Не падабаецца яшчэ, калі ён душыць сабаку. Сцэна набывае рэальную сілу. Болей да месца, калі ён праяўляе сілу ў болей значных момантах, а тут гэта залішне.

Хораша — сустрэча з дзяўчынай. Добрая сцэна, калі ён дае ёй поўху. Добра б, каб пасля паўзы яна вярнула б яму поўху. Ад гэтага яму стала смешна, ён смяецца.

Ёсць сітуацыя недастаткова распрацаваная. Калі яна /Джулія. — **Г. Р.**/ выцягвае застрамку /у Івана. — **Г. Р.**/. Сцэна напісана вельмі павярхоўна. Аголеная нага мужчыны ў руках ў жанчыны заўсёды стварае ўражанне. Гэта выклікала б у яго /Івана. — **Г. Р.**/ праяву пяшчотны. Ногі інтэлігента, рабочага і селяніна — розныя. Гераіня па назе можа зразумець, хто герой. Аб гэтай назе на першым плане можна многа гаварыць. Гэтую сцэну трэба было б развіць. І пра тое, што ён калгаснік, ён можа сказаць тут. Гэтая сцэна вельмі важная.

Наплывы і зацямненні сёння не да месца. Гэта не сучасна.

Ёсць яшчэ цікавая тэма, недастаткова развітая. Калі ў дождж ён кажа ёй схавацца пад скалой. Тут пачынаецца непаразуменне. Гэтая сцэна недастаткова паглыблена. Яна /Джулія. — **Г. Р.**/ магла б сказаць адпаведныя словы, выращыўшы, што ён хоча заняцца каханнем. А яму смешна — каханне ў такім становішчы! /Іх шукаюць ахоўнікі канцлагера. — **Г. Р.**/. Яны могуць пасварыцца. І гэта будзе праўдзіва.

У фільме ёсць сны. Я не супраць усякіх сноў. Фінал даволі добры. Другія неапраўданы. Першы сон — /Іван. — **Г. Р.**/ бачыць у трызненні ўцёкі. Гэта нічога новага не ўносіць. Гэта ўсё мы ўжо ведаем. Калі першыя сцэны можна пакінуць дзеля фінала, каб кампазіцыйна мець магчымасць даць апошні сон, лепей нам даведацца з іх новае пра героя. Я нічога новага з гэтых сноў не даведваюся.

Не падабаецца размова пра калгас. Саладкавата. Калі ўжо гаварыць аб гэтым, то мацней.

Дыялог — «Ты фашыстка». — «Не, камуністка». Гэта дрэнна. Гэта не тэма фільма. Калі б гэта была тэма, тады з ёй тварам у твар трэба было б стаць з самага пачатку і распрацоўваць яе мацней.

Падае снег. «Я пайшоў» /кажа Іван. — **Г. Р.**/. Ён ідзе, яна застаецца. І ідзе паўтарэнне першай сцэны, калі Джулія ўжо сказала «Бывай». Тут ірвецца стыль.

Сцэна, калі ён нясе яе. Гэта самая лепшая сцэна. Рэжысёру тут трэба параіць. Трэба даваць буйнымі планамі адны галовы і — ручной камерай. Ні фон, ні месца тут — не галоўнае. Гэта першая любоўная сцэна, трэба дайсці да душы. Вялікае намаганне мужчыны і бездапаможная жанчына. Няхай будуць тэхнічныя недахопы. Як быццам /здымка. — **Г. Р.**/ схаванай камерай. Няхай нават камера дрыжыць. Сцэна вельмі добрая, але для рэжысёра шмат небяспечнага. Трэба, каб не было сіропу.

Трызненні, дзе ён, дзяўчынка і маці; а ён потым прачынаецца сярод цудоўнага краявіду з макамі. Атрымліваецца сон у сне. Сіла макаў — само па сабе чарадзейства. Наступная сцэна з макамі забіваецца. Трэба або зняць летуценні, або сцэну з макамі зрабіць болей рэальнай і сумнай. Неабходны кантраст.

У сцэне з макамі ўсё добра да купання /герояў. — **Г. Р.**/. Затым фільм спыняецца, запавольваецца і асядае. Асабліва /недарэчы. — **Г. Р.**/ сцэна з песнямі. Трэба яе або пераглядзець, або зняць.

Пасля суніц /яны частуюцца. — **Г. Р.**/ ужо трэба заняцца каханнем. Гэтага ўжо чакае публіка.

Усе астатняе вельмі падабаецца. І фінал добры. Зроблены з добрай рамантыкай.

Хачу, каб малады рэжысёр унікнуў недахопаў «Іванава дзяцінства». Адзін малады рэжысёр не павінен быць падобным да другога рэжысёра. Ён можа быць падобным да настаўніка.

**А. Куляшоў** /супрацоўнік кінастудыі. — **Г. Р.**/.

— Калі Джулія даведваецца ад Івана, што не ўсё добра ў СССР, як гэта ўспрымаецца?

**дэ Санціс.**

— Не падабаецца. Яе амаль фанатычнае бачанне СССР не адпавядае фільму і персанажу. Гэта /бачанне. — **Г. Р.**/ павінна прайсці праз прызму канфліктнай размовы. А так, як зроблена, не падабаецца.

Я не супраць гэтай лініі. Але тады гэтая лінія павінна быць цэнтральнай. А гэты фільм — любоўная гісторыя. Гэта і ёсць гуманізм у мастацтве: два чалавекі могуць зразумець адзін другога.

Калі б палітычная лінія прасочвалася ад пачатку да канца, было б добра. Але калі яна ўзнікае нечакана, гэта прапаганда.

Трэба даручыць рэжысёру здымаць ігравыя сцэны па ходзе сцэнарыя. Тут можна было б знайсці канфлікты ў нюансах. Розныя погляды на жыццё, але перад тварам небяспекі яны сціраюцца. Тут трэба шукаць канфлікт. Гэта праблематыка вельмі сучасная.

Заўвага пра лаянку Джуліі. «Порка мадонна» — жанчына сказаць не можа. Трэба «порка мізэрыя».

Музыка

# НУ ВЕ-Е-ЕЛЬМІ СМЕШНЫЯ КАШМАРЫ!

## «VIVA LA MAMMA!» Г. ДАНІЦЭЦІ Ў ДЗЯРЖАЎНЫМ ТЭАТРЫ МУЗЫЧНАЙ КАМЕДЫІ

Самы сапраўдны кашмар — тое, што зараз пачне вылузвацца з-пад пяра. Бо, як вядома, і экспромт вымагае сур'ёзнай падрыхтоўкі. А неабмазгаваная імправізацыя на далікатна-белым аркушы скончваецца не чым іншым, як вульгарным чарнавіком. Што ёсць чарнавік для староннягa вока? Суцэльны кашмар! /Г. зн., паводле тлумачальных слоўнікаў, нешта гнятлівае, жахлівае, накшталт жудаснага сну/.

Зрэшты, пардон, пардон: зашмат гонару гэтаму чарнавіку... Але ўсё ж такі чаму творцы спектакля «Viva la Mamma!» далі яму, пасля коскі, такое крутое тлумачэнне: «...ці Пікантныя кашмары тэатральнага жыцця»? Нішто сабе кашмары, калі ўвесь вечар зала дрыжыць ад рогату! Вось кажуць, напачатку сам твор Г. Даніцэці называўся «Тэатральныя прыемнасці». Дык жа слушна! Так яно і ёсць, і сустрэчу гледачоў з гэтым творам у пастаноўцы нашага тэатра музкамедыі суправаджае букет прыемнасцей. Пікантных.

Праграмка інтрыгуе: і двайною назвай спектакля, і нязвыклым папярэджаннем: «Толькі для дарослых!» І — не сваім жанравым вызначэннем: «камічная опера». Ой, яшчэ раз пардон і пардон: хіба камічная опера знакамітага італьянца не ёсць музычная камедыя? А наш тэатр як называецца? Ну, дык значыць, «Viva la Mamma!» — цалкам сваё.

Ох, гэтая праграмка-інтрыганка: глядзіце, колькі тут «пікантных прыемнасцей»!

Рэжысёр-пастаноўшчык Ю. Аляксандраў, пецярбуржац, які ў свой час падарыў беларускай опернай сцэне два выбітныя спектаклі: «Дон Паскуале» /зноў жа, камічная опера Г. Даніцэці/ і афенбахаўскія «Казкі Гофмана». А цяпер вось адкрыў мінчанам партытуру XIX ст., першую пастаноўку якой ажыццявіў у сваім камерным музычным тэатры. /Першую — і для Расіі/.

Побач з маэстра А. Сасноўскім, музычным кіраўніком пастаноўкі, — імя маладога перспектыўнага дырыжора В. Чарнухі. Новы галоўны хормайстар /дарэчы, воляю рэжысёра — актыўны чыннік дзеяння/ — Т. Гуліна.

Адзіная /без дублёраў!/ й непаўторная выканаўца галоўнай ролі, ролі мамы Агаты... Пардон, аўтарам роля прызначана для выканаўцы-мужчыны. Так што нашай увазе — адзіны й непаўторны саліст А. Ранцанц.

Можна і далей глядзець-вывучаць праграмку, да ўсяго /і гэта важна/ забяспечаную кароткім асветніцкім каментарыем. А можна зрабіць гэта пасля спектакля, бо падчас відовішча зазіраць яшчэ куды-небудзь, дайце веры, прosта не будзе ахвоты. Таму што артысты, музыкі /уяўляеце — увесь аркестр на чале з дырыжорам/, якія атабарацца на сцэне, быццам у сваім закулісным свеце, — укрукаць і вас у свой свет, ахінуўшы «прыемнасцямі» тэатральнага жыцця. І вас мо ўжо менш за ўсё будзе цікавіць фабула. Бо вы з асалодай і захапленнем будзеце сачыць за тым, з якім захапленнем і з якой асалодаю пражываюць на сцэне артысты кавалак тэатральнай будзённасці, што за паўтара стагоддзя не змянілася, засталася і такой банальнай, і такой загадкавай, і такой урачыстай.

Шэраг ну зусім банальных падзей разгортваецца на сцэне. «Тэатр у разрэзе»: рыхтуюцца да прэм'еры, рэпеціруюць оперу. Тут вам і прымадонна бальзакаўскага ўзросту са сваімі выбрыкамі, і маладзейшы за яе муж, нягеглы акцёрык, але адважны каханак, здатны пайсці нават у партэр, каб сам-насам з публікай апець талент і харастэо сваёй бязмежна любімай жонкі. Тут вам і дыпламатыя імпрэсарыо, аздобленая ціхім творчым вар'яценнем аўтара прэм'ернага шэдэўра, — на выйгрышным фоне закулісных плётак ды боек за ролю. Тут вам чаго толькі не давядзецца пачуць ды ўбачыць!

Сказаць? Скажу. Вы пабачыце расфарбаваную пад зебру таўстабокую свінню, на якой, вершкі, упершыню паўстане перад публікай галоўная гераіня падзей — матухна Агата. І гэта не будзе мужчынская пародыя на кабету, а ля славутая донна Роза. Вы пабачыце элегантную меднавалосую даму з мілавідным тварам, усмешкай, паставай ды голасам яшчэ не старой актрысы, якая хоць і трымае за далікатнай панчохай пляшку «Smirnoff», але кеміць і дзейнічае больш цвяроза за ўсіх іншых. Гэта дазваляе ёй не толькі наладзіць тэатральны лёс уласнай дачкі, але й прымірыць між сабою ўсіх гэтых капрызлівых «дзяцей сцэны» — чыннікаў прэм'еры.

Яшчэ пабачыце вы крыўдлівага зуха-тэнара з Сібіры, чый суровы мужчынскі стрыптыз не надта шакіруе публіку, бо «касцюм Адама» ў гэтым варыянце больш выдае на «касцюм рускага мядзведзя» /дакладней, проста... чорціка/. А потым увогуле з'явяцца родныя валёнкі, аблавушка, ватоўка, і загучыць гэтак настальгічна, узмоцненая «кантрапунктам» сібірскага краявіду, знакамітая тэнаровая арыя з іншай, ну вельмі вядомай оперы Г. Даніцэці «Любоўны напітак» /прыдумка Ю. Аляксандрава/.

Вы абавязкова звернеце ўвагу і на дакучлівую прыгажуню ў цеснай міні-сукенцы і... у пікантным стане. Вы будзеце сведкам таго, як ператворыцца яна ў парадзіху і, палюляўшы немаўлятка, неўзабаве зноў паўстане ў тым самым «цікавым» абліччы...

Ах, тэатр, тэатр! Ну які толк — пра яго чытаць? Яго глядзець трэба. «Viva la Mamma!» — гэта сцэна, афармленая У. Ждановым, і касцюмы, прыдуманыя В. Жалонкінай. Гэта вельмі артыстычныя дырыжоры А. Сасноўскі ды В. Чарнуха і музыканты аркестра, якія ў II дзеі спектакля ўсё ж такі пакідаюць сцэну і дабіраюцца да свайго законнага месца — да, перапрашаю, ямы. Акцёры: А. Ранцанц, Н. Гайда, З. Вяржбіцкая, Л. Лют, А. Ісаеў, У. Пятроў, І. Лінкевіч, А. Тузлукоў, В. Мінгалёў... Можна пералічыць усіх, і не памыліцца.

Праўда, гэта, на маю думку, не той спектакль, у якім трэба параўноўваць выканаўчыя склады. Ці можна тое рабіць, калі «матэрыял» не толькі падабаецца ўсім акцёрам, але і захапляе кожнага, а гэта значыць, што кожны выканаўца пачуваецца ў новай рабоце творцам — сваёй канкрэтнай ролі, сцэнічнага вобраза, тэатральнай атмасферы. І — стварае ў меру свайго разумення рэжысёрскай задачы і, вядома, уласнага таленту. Даруйце, але тут я адмаўляюся параўноўваць таленты артыстаў, якія раскрыліся так шчыра ў стасунках з партнёрамі, з гледачамі і, канечне, з музыкай. Яны заспявалі прыгожую італьянскую оперную музыку!

За ўсе гэтыя «тэатральныя прыемнасці» — пардон, кашмар-ры! — дзякуй Ю. Аляксандраву. Наўрад ці давядзецца пабачыць «Viva la Mamma!» ў інтэрпрэтацыі германскіх артыстаў, якая так уразіла рэжысёра і натхніла яго на ўласную пастаноўку. Але не трэба нешта з нечым параўноўваць або зазіраць у першакрыніцу, каб здагадацца, што россыпы дасціпных прыдумак на сцэне, вастраслоўе ў рэпліках — гэта сваё, тое, што магло нарадзіцца з фантазіі гэтага рэжысёра, і толькі сёння, і толькі ў працы з гэтай трупай.

Што: няўжо захваліла? Не тое і няўцямна распявала? Ой, даруйце. Усё ж такі — экспромт... Дык няхай жыве Мама Агата!

**С. БЕРАСЦЕНЬ**



*Гераіня Н. ГАЙДЫ — у цэнтры ўвагі /справа арт. А. ІСАЕЎ/.*



*На сцэне — «прыемнасці» закулісага жыцця...*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

Юбілей

# «ЖУРАВІНЦЫ» — 20 ГОД

Быццам спеўныя ручаінкі зліваліся на парозе Вялікай залы філармоніі — уваходзілі з беларускай карагоднай песняй удзельнікі ўзорнага хору «Журавінка». Гэта быў заключны канцэрт пераможцаў агляду-конкурсу дзіцячых харавых калектываў «Спадчына». Беларускія і руская народныя песні, праваслаўная музыка, творы класікаў, песні беларускіх кампазітараў гучалі ў прыўзнятай, святочнай атмасферы.

Хор «Журавінка» мінскай СШ N 130 стаў пераможцам гэтага агляду, дадаўшы да сваіх шматлікіх узнагарод ці не адну з самых важных, бо ёю адзначыў свой 20-гадовы творчы шлях. Школа, а з ёю і адзін з лепшых на Беларусі дзіцячых хароў будзе святкаваць сёлета гэтую дату. За два дзесяткі гадоў змяніліся навучэнцы, настаўнікі, дырэктары, але ўвесь гэты час нязменным кіраўніком «Журавінкі» застаецца Аляксандр Еўсюкоў, педагог, улюбёны ў сваю прафесію і ў сваіх выхаванцаў, цалкам адданы харавой творчасці.

Выпускнікі 130-й знайшлі сябе ў розных сферах: ёсць інжынеры і настаўнікі, выхавацелі ў дзіцячых садах і вайскоўцы, нават бізнесмены. Але сярод іх значнае месца займаюць людзі творчых прафесій: журналіст, музычны педагог, дызайнер, вядучы папулярнай музычнай праграмы, дырэктар рок-групы, — далёка не поўны іх пералік.

А «Журавінка» — гэта толькі вяршыня айсберга, бо музычна-харавы ўхіл школы, якая да таго ж адной з першых у Мінску стала беларускай, паспрыяў стварэнню шэрагу самых розных класных хароў і харавых ансамбляў, аркестра народных інструментаў і разнастайных інструментальных ансамбляў. Шматлікі школьны педагагічны калектыў, якім кіруе дырэктар В. Клачкова, працуе дружна і зладжана, і гэтаму спрыяе творчая атмасфера ў школе.

Аднак вернемся ў залу філармоніі, дзе наш «галоўны хормайстар рэспублікі» В. Роўда, уручаючы ўзнагароду «Журавінцы» і яе кіраўніку, казаў пра шырокую вядомасць калектыву. Пералік краін, дзе пабывалі юныя харысты, уражвае: Польшча, Чэха-Славакія, Германія, Італія, Іспанія, Францыя, Англія... У складаным рэпертуары хору — самыя розныя па стылях і жанрах творы, і ён абавязкова папаўняецца музыкай кампазітараў тых краін, дзе пабывала «Журавінка». Вядома, у яе творчай біяграфіі — шматлікія выступленні ў школах і дзіцячых дамах, у вайсковых падраздзяленнях і бальніцах па ўсёй Беларусі, па рэспубліках былога СССР. А ў госці да хору неаднаразова прыязджалі сябры з тых краін, дзе выступалі мінскія школьнікі.

20 год — гэта сталасць школы і хору. Хай заўжды на тварах нашых дзяцей будуць усмешкі, а ў іхніх душах — дабрыня і чуласць да цудоўнага. Тады і свет вакол нас будзе больш чысты і радасны.

**Н. К.**

## ХОЦЬ НАКЛАД І НЕВЯЛІКІ...

**Усяго 700 асобнікаў накладу, але карысць ад «Генеалагічных табліц старадаўніх княжацкіх і магнацкіх беларускіх родаў XII—XVIII стагоддзяў», складзеных В. Насовічам, відавочная. Асабліва для тых, хто хоча ведаць мінуўшчыну роднага краю праз лёс канкрэтных гістарычных асоб, бо за ім, несумненна, паўстае і лёс самога народа. Так што выдавецтву «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, якое дало «зялёнае святло» «Табліцам...», застаецца толькі сказаць дзякуй!**

## ХОЧАЦЕ СТАЦЬ УРАЧОМ?

**Дзеля гэтага зусім неабавязкова паступаць у медыцынскі інстытут. Патрэбныя веды можна атрымаць куды больш лёгкім шляхам. Для гэтага проста неабходна завітаць у адну з кнігарань і пацікавіцца сямейнай энцыклапедыяй «Сам сабе доктар» /рэдактар-складальнік, аўтар прадмовы і прадметнага паказальніка Генадзь Шэршань/.**

**Генадзь Аляксандравіч — вядомы папулярызатар навук, прыцягнуў для напісання сямейнай энцыклапедыі знакамітых дактароў і кандыдатаў медыцынскіх навук. Сам жа пастараўся, каб тэкст быў даходлівым, не перагрувашчаным складанымі медыцынскімі тэрмінамі.**

**Энцыклапедыя і карысная тым, што яна дапамагае кожнаму, пры жаданні, стаць урачом. Безумоўна, не замяняючы яго. Асноўныя парады ў ёй — як аказаць першую медыцынскую дапамогу ў розных умовах да прыбыцця спецыялістаў. А гэта немалаважна. Бо — у гэтым перакананa пераважная большасць траўматолагаў — 70 працэнтаў з тых, хто загінуў у аўтамабільных катастрофах, маглі б жыць, калі б ім адразу ж дапамаглі блізкія, знаёмыя ці выпадковыя людзі.**

## НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ЦЯЖКАСЦІ

**Выдавецтва «Навука і тэхніка» працягвае выпуск «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы». Першы том гэтага унікальнага выдання з'явіўся яшчэ ў 1978 годзе, а толькі што выйшаў з друку чарговы, восьмы. Укладальнікі Г. Цыхун, В. Мартынаў, Р. Малько, І. Лучыц-Федарэц уключылі ў яго беларускую літаратурную і дыялектную лексіку на літары Н—П у межах слоў «немарач», што азначае слабасць /а чаму б гэтым словам не карыстацца шырэй?/ і «паяць».**

**Здавалася б, лінгвісты, літаратуразнаўцы, гісторыкі, этнографы /а на іх у першую чаргу разлічаны слоўнік/ павінны радавацца, што карыснае выданне працягвае выходзіць. Так, але... Справа ў тым, што «ЭСБМ» — выданне не падпісное, чарговы том яго выходзіць па меры падрыхтоўкі і выдавецкіх магчымасцяў. Таму і ўзнікае ў чытачоў праблема, як не прапусціць ніводнай кнігі.**

## «ПЕРШАЦВЕТ», N 2

**У раздзеле паэзіі прадстаўлены В. Пятроўскі, Т. Лапцёнак, К. Пазняк, Н. Берастава, М. Кананові, В. Угрыновіч, Г. Плаўская, Н. Кучмель, М. Лукша. З апавяданнямі выступаюць І. Цвіркоўская, Л. Шчэрба, І. Шаўлякова, Т. Пяшко, П. Качаткова, з эсэ «Эліза» — В. Мартыненка.**

**У раздзеле «Гасцёўня» — вершы В. Супруна і ўрывак з аповесці І. Навуменкі «Юнацтва» — «Прарыў ва Усходнюю Прусію». А. Века /«Памяць адраджае...» / дзеліцца ўражаннямі ад паэзіі У. Караткевіча. Г. Раманавец /«Дакрануцца сэрцам»/ рэцэнзуе кнігу А. Крыгі «Выбух над Прыпяццю». П. Прўднікаў /«Пралеска»/ успамінае пра Лукаша Калюгу.**

**У «Жароўні» — гумарэска М. Слівы «Камерцыя» і пародыі Э. Акуліна.**

## «РОДНАЕ СЛОВА», N 2

**У лютаўскай кніжцы — фоталетапіс з жыцця А. Куляшова «Паслаў мне лёс блакітную раку...» прапаноўвае В. Куляшова. Змешчаны артыкулы Т. Грамадчанкі «Шляхамі Валянціна Таўлая», К. Цвіркі «Вечны выгнаннік і пілігрым» /жыццё і творчасць Т. Зана/, М. Тычыны «Курапаты — Хатынь — Чарнобыль» /гісторыя ў люстэрку літаратуры/, Р. Гарэцкага «Радавод Максіма Гарэцкага», Н. Мазоўкі «Возьмем косы ды янчаркі...» /паплечнікі Т. Касцюшкі — Ю. Нямцэвіч, Я. Ясінскі, М. Агінскі/, А. Ліса «Мастак родам з Вётхава» /творчы лёс П. Южыка/, І. Чарота «Балота — архетып беларускі?».**

**Працягваецца публікацыя Т. Шамякінай «Знакі вечнасці» /»Мадэль свету ў міфалагічных сістэмах»/, друкуецца заканчэнне артыкула А. Хатэнкі «Па прыступах лесвіцы вечнай» /з радаводу багоў паганскіх/.**

Віншуем!

# СЯБРОЎСКАЕ ПРЫЗНАННЕ

## ДА 60-ГОДДЗЯ КАСТУСЯ ЦВІРКІ

Пра сябра пісаць цяжка. Не ведаеш, з чаго пачаць: ці то з разгляду ягоных творчых набыткаў, ці то з біяграфічных звестак пра яго, ці, можа, з таго, што дае нам падставы лічыць адзін аднаго сябрамі, ці...

Пачну з таго, што трошкі нават здзівіўся, калі мяне папрасілі сказаць колькі слоў з нагоды чарговай круглай даты, якая падпільноўвае Кастуся Цвірку на ягонай дарозе жыцця. Падумалася: як жа хутка ляціць час! Зусім нядаўна, здавалася б, з даволі вялікім ды шумным гуртом сяброў — пісьменнікаў, спевакоў, артыстаў-дэкламатараў — ездзілі ў Старыя Дарогі, каб там разам з землякамі паэта адзначыць яго першы юбілей. Вечар удаўся на славу. У поўнай зале пераважалі людзі не ў святочных уборах, а ў звычайным рабочым адзенні — вясковыя руплівцы. А ў першых радах і проста на падлозе — школьнікі. І колькі добрых слоў было сказана! Не гучных, не напышлівых, а шчырых, сардэчных. А як прымаліся вершы самога юбіляра! Дзіва што. Гэта былі вершы пра іх, пра гэты палявы ды лясісты куток беларускай зямлі.

Успаміны, успаміны!.. Дзесяць гадочкаў прамінула, праляцела, адшумела. А колькі падзей, колькі змен у жыцці, у грамадстве, у светапоглядах і ва ўсветаўспрыманні... Ды ёсць нешта такое ў кожнага з нас, што не залежыць ні ад якіх віхураў, ні ад якіх «патрабаванняў часу». Для Кастуся Цвіркі гэта — шчырая і шчодрая любоў да свайго роднага краю, да ягоных людзей. Шчырая — бо не прыдуманая, а ўзгадаваная ў сэрцы з першых дзён жыцця, успрынятая праз матчыну калыханку, праз пошум даспелага жыта, праз шэпты вясновага гаю, праз жаўрукову песню ў блакіце над полем. Шчодрая — бо аддае людзям, Бацькаўшчыне ўсё, што можа даць душа і розум чалавека-творцы.

Калі сабраць у адно тое, што зроблена Кастусём Цвіркам у паэзіі, прозе, літаратуразнаўстве, фалькларыстыцы, дзіцячай літаратуры, атрымалася б даволі ладная бібліятэчка. Тут і дастаткова тоўстыя кнігі ў цвёрдых вокладках, і зусім тоненькія зборнічкі. Але якую ні вазьмі — хоць гэта томік паэзіі, хоць важкае даследаванне фальклору, хоць падарожныя ўражанні ад наведання мясцін, звязаных з жыццём слаўных сыноў і дачок Беларусі, хоць кніжка для дзетак — у кожнай адчуеш тую самую любоў, тую самую замілаванасць да роднага краю, да людзей, да мінулага і будучага іхняга, без якіх не можа існаваць сапраўдны творца. Інакш ён не творца, а ў лепшым выпадку — проста штукар.

Бяру з палічкі сваёй хатняй бібліятэкі томік паэзіі з парай буслоў у гняздзе на шэрай, як зрэбнае палатно, цвёрдай вокладцы...

Прабач, Кастусь, ніколі не казаў табе, а зараз прызнаюся: гэта адна з маіх любімых кніг. Нанова гартаю старонкі. Перачытваю яшчэ і яшчэ раз даўно знаёмыя радкі. І радасна на душы: не, не звядзецца, як дасюль не звялася, наша беларуская паэзія, калі мае такіх не празмерна гучных, не празмерна шумлівых, а ціха ўдумлівых, пранікнёных паэтаў.

А назва ў кнігі — «Зялёная Дуброва». Гэтую назву аўтар даў ёй у гонар той вёскі, дзе нарадзіўся, як сам ён піша ў аўтабіяграфічным нарысе, «удалечыні ад вялікіх дарог». З першых жа старонак паўстаюць перад вачыма, як жывыя, паэтавы землякі. Дзядзька Белы з тварам, скрэмзаным маршчынамі. Сыны ягоныя Алёша і Юзік, «якія ўсё яшчэ не прыйшлі з 41 года». Стары Галляш — «самы першы ў вёсцы грыбнік, казачнік і сейбіт». Антон Цвірка — вялікі пчаляр. Бэрнусь Паўловіч — скрыпач-чараўнік. Цётка Хрыстына, найлепшая з лекарак...

Многіх з гэтых людзей няма ўжо, відаць, на свеце. Але яны засталіся жыць. Засталіся жыць, дзякуючы вершам, дзякуючы таленту іхняга аднавяскоўца.

Вясковец па нараджэнні Кастусь Цвірка не здрадзіў свайму паходжанню, сваім продкам-гарапашнікам, хоць і стаў гараджанінам, інтэлігентам. І пра гэта таксама сведчаць ягоныя вершы.

**Я абганяю бульбу —**
**яна пабялела на сонцы.**
**Плуг, быццам човен у хвалю,**
**у глебу міжраддзя нырае...**

Альбо:

**Тут усё душу маю гоіць.**

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**Поле маё — гоіць,**
**Дарога — гоіць,**
**Неба — гоіць.**

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**Сёння ўсё, нават паветра**
**маёй Зялёнай Дубровы,**
**душу маю**
**гоіць.**

І вось што цікава: «Зялёная Дуброва» выдадзена даволі даўно, а вершы /у кожным разе — большасць з іх/ не старэюць. Чаму? Бо паэт не падладжваўся пад так званыя патрабаванні часу, не імкнуўся дагадзіць некаму насуперак сабе самому. А гэта, на жаль, здаралася не з адным з нас. У тым ліку, каюся, і са мной.

Не так даўно, паддаўшыся новым павевам, мы з Кастусём паспрабавалі заснаваць малое прадпрыемства, якое выпускала б кніжкі для дзетак-беларусаў. Аказалася, што дзеля гэтага спатрэбілася б напачатку выдаць некалькі, умоўна кажучы, сексуальна-парнаграфічных томікаў. На расейскай мове. А ці ўдалося б і пасля гэтага дасягнуць сваёй мэты — невядома. Гарантый — аніякіх. І мы адмовіліся ад напалову зробленай справы. Бо душа не ляжала. Ну, зарабілі б колькі там. А далей што?.. Я вельмі быў усцешаны тым, што думкі нашы і настроі супалі... Даруй, Кастусь, што без твайго дазволу сказаў пра гэта ўголас.

Ёсць у Кастуся Цвіркі верш, пазначаны трыма зорачкамі, без назвы. У ім гаворка ідзе пра тры краіны. Адна — Учора... Другая — Сёння... Трэцяя — Заўтра...

Учора — мы прамінулі ўжо ў сваім зямным падарожжы. І Сёння вось-вось застанецца за спіной. Дай жа, Божухна, каб трэцяя краіна — Заўтра — была для Кастуся Аляксеевіча багатай на творчы плён, на радасныя здзяйсненні, на ўсё тое, чаго ён сам чакае ў гэтым нявечным жыцці.

**Артур ВОЛЬСКІ**



# ДОБРЫЯ ТРАДЫЦЫІ

Узнавіць свае даўнія літаратурныя традыцыі вырашыла газета «Звязда». Летась рэдакцыя разам з Саюзам пісьменнікаў абвясціла штогадовы конкурс на кароткае апавяданне. І конкурс меў актыўны водгук — не толькі сярод пісьменнікаў, але і сярод чытачоў.

Разгледзеўшы надрукаваныя ў газеце творы, журы аддало перавагу наступным аўтарам:

**Юрый Станкевіч /апавяданне «Пах мухалоўкі»/ — І прэмія;**

**Уладзіслаў Рубанаў /апавяданне «Вася»/ — II прэмія;**

**Алесь Каско /апавяданне «Ид...цем»/ — III прэмія.**

«Звязда» і Саюз пісьменнікаў прынялі рашэнне працягнуць гэты цікавы конкурс і чакаюць новых твораў ад аўтараў на адрас рэдакцыі. /Аб'ём — да 6 друкаваных старонак/.

*На здымку: у час уручэння прэмій у рэдакцыі газеты «Звязда» /рэдактар газеты У. Наркевіч, лаўрэат першай прэміі Ю. Станкевіч, члены журы А. Ціхановіч, Я. Каршукоў, лаўрэат ІІ-й прэміі У. Рубанаў, член журы Я. Пархута/.*

**А. ЦІХАНОВІЧ**

# Ганне НОВІК—80



Біяграфія Ганны Новік падобная на жыццяпіс тых, хто заўсёды імкнуўся да лепшай долі, дбаў пра будучыню роднага краю. Нарадзілася ў горадзе Аўгустове былой Сувальскай губерні 25 сакавіка 1914 года, цяпер на тэрыторыі Польшчы. Дзяцінства прайшло ў вёсцы Варонічы, а гэта непадалёку ад Вілейкі. Давялося і наймічкай працаваць, і ў лагеры для беспрацоўнай моладзі знаходзіцца. Далучылася да нацыянальна-вызваленчага руху ў былой Заходняй Беларусі. Была арыштавана, два гады правяла ў Вілейскай турме.

Як і многія, Ганна Аляксееўна вітала прыход Чырвонай Арміі ў 1939 годзе. Выбіралася дэпутатам Народнага Сходу Заходняй Беларусі, працавала інспектарам Куранецкага раёна. У час барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі з'яўлялася партызанскай сувязной. Пасля вызвалення давялося і старшынёй калгаса працаваць, і сельсавет узначальваць. Была памочнікам начальніка палітаддзела МТС.

А да ўсяго жыла ў сэрцы любоў да літаратуры. Першыя вершы апублікавала яшчэ ў 1936 годзе. Друкавалася ў заходнебеларускіх часопісах «Калосьсе», «Беларускі летапіс». У пасляваенны час, з 1955 года пачала выступаць з апавяданнямі і нарысамі. У 1961 годзе ў Г. Новік выйшла кніжка вершаў «Мае вёсны», у характары лірычнай гераіні шмат узята з біяграфіі самой аўтаркі. Напісала Г. Новік і аповесць «Другая сустрэча», фрагменты з якой друкаваліся ў часопісе «Полымя».

Віншуем Ганну Аляксееўну з днём нараджэння, зычым ёй яшчэ доўгіх год жыцця!

# Леаніду НАВІЧЭНКУ—80

31 сакавіка сустракае сваё 80-годдзе знакаміты ўкраінскі літаратуразнавец, крытык, член-карэспандэнт Акадэміі навук Украіны Леанід Навічэнка. Яго ўклад у літаратуразнаўства, даследаванне сучаснай літаратуры відавочны, пра што сведчаць шматлікія кнігі вучонага, якія выходзілі не толькі ў Кіеве, а і ў Маскве. Ёсць у творчасці Л. Навічэнкі і старонка, што тычыцца яго сувязяў з нашай рэспублікай. Падтрымліваючы даўнія кантакты з беларусамі, ён цікавіцца і беларускай літаратурай. У перыёдыцы рэгулярна выступае з артыкуламі, прысвечанымі як творчасці асобных пісьменнікаў, так і ўвогуле мастацкаму працэсу на Беларусі.

У прыватнасці, Л. Навічэнка расказваў пра сувязь Я. Купалы з М. Рыльскім, падрабязна прааналізаваў трылогію Я. Коласа «На ростанях», з прыязнасцю пісаў пра Я. Брыля. Артыкул «Апошні раман Івана Мележа» сведчыць аб глыбіні аналізу, шырыні абагульненняў аўтара.

З днём нараджэння, наш украінскі сябра! Няхай і далей знаходзіцца ў вас жаданне і магчымасць пісаць пра блізкую вам беларускую літаратуру, якую вы цудоўна ведаеце і глыбока аналізуеце!

***Нашаму чытачу гэты аўтар практычна невядомы. Тут яго не друкавалі ўвогуле, у Варшаве — толькі пасля 1988 года. А між тым тэматыка яго кніг і артыкулаў непасрэдна звязана з Беларуссю: вайна 1920 года, Віленшчына часоў «другей Жэчы Посполітэй», акупацыя, Армія Краёва, міжнацыянальныя адносіны.***

Алесь ЧОБАТ

# «ТОЛЬКІ НЕ ТРЭБА ГАВАРЫЦЬ...»

## ПРА ЮЗЭФА МАЦКЕВІЧА

**I.**

Юзэф Мацкевіч нарадзіўся ў 1902 годзе ў С.-Пецярбурзе. Бацька меў уласную фірму, гандляваў віном і квітнеў. У 1907 годзе Мацкевічы пераехалі ў Вільню. Тут Юзэф і на шэсць гадоў за яго старэйшы брат Станіслаў вучыліся ў прыватнай расійскай гімназіі Вінаградава, а пасля нямецкай акупацыі ў 1915 годзе працягвалі вучобу ў польскай гімназіі прафесара Касцялкоўскага.

У канцы 1918 года паўстала «самаоброна» віленскіх палякаў, абодва Мацкевічы добраахвотна пайшлі да кавалерыі Дамброўскага. Зімой 1919 года «домбровяцы» партызанілі па тылах Чырвонай Арміі, ажно да пачатку польскага наступлення. На фронце Юзэф быў да вясны 1921 года. Потым скончыў школу падхарунжых і паступіў на біяфак Варшаўскага універсітэта, але вярнуўся ў Вільню і стаў працаваць у рэдагаванай старэйшым братам ліберальнай віленскай газеце «Слово». Апошні нумар выйшаў 15 верасня 1939 года...

Калі Чырвоная Армія перайшла ўсходнюю мяжу Рэчы Паспалітай, Станіслаў праз Коўна эміграваў у Лондан. Юзэф застаўся, але адмовіўся супрацоўнічаць у савецкім друку. Калі ж Вільня і Віленшчына былі перададзены Летуве ў тую ж восень, Юзэф Мацкевіч прыняў рэдактарства ў афіцыйным выданні. Летам 1940 года Вільню зноў заняла Чырвоная Армія. Пасля двух «размоў» у НКУС, дзе Мацкевіча прасілі «подумать» пра супрацоўніцтва з новай уладай, Юзэф пакінуў Вільню і да лета 1941 года хаваўся на хутарах паміж Трокамі і Беняконямі, зарабляючы на жыццё лесасекам і фурманам. Адмовіўся ён і рэдагаваць выдаваны пры немцах «Гонец Цодзенны» /рэдактарам стаў Анцуровіч, забіты пазней АК/, але ўжо на пачатку жніўня 1942 года ў той жа газеце з'явілася першая з чатырох частак вялікага артыкула «Мае размовы з НКВД» за подпісам... Юзэф Мацкевіч! Супрацоўніцтва Мацкевіча з летувісамі ды немцамі, а таксама рэзка адмоўныя адносіны да «саветаў», — нагадаем: ужо дзейнічаў антынямецкі пакт Сікорскага-Сталіна, — выклікалі такую ж рэзка адмоўную рэакцыю польскага падполля: віленская АК выдала на Мацкевіча нават смяротны прысуд, які па дагэтуль невядомых прычынах быў адкладзены. Не пацверджаны таксама звесткі пра супрацоўніцтва Міцкевіча з Арміяй Краёвай, але калі ў 1943 годзе немцы натыкнуліся ў Катыні пад Смаленскам на магілы расстраляных у 1940-41 гадах НКУС польскіх афіцэраў і прапанавалі вядомаму і папулярнаму публіцысту выехаць у Катынь, то Мацкевіч... патаемна ўзгадніў гэты выезд з мясцовай камендатурай АК. Але калі пасля Катыні ён не толькі перадаў АК падрабязную справаздачу, а яшчэ і напісаў тое ж на старонках пранямецкага «Гоньцу Цодзеннэго», то АК выдала... другі смяротны прысуд. Маўляў, не трэба друкаваць праўду ў «калабаранцкіх» газетах — як быццам ад таго, у якіх газетах надрукавана праўда, нешта мяняецца...

У 1944 годзе Ю. Мацкевіч з фальшывымі дакументамі /як «супрацоўнік «Расейска-Туркестанскага батальёна»! — **А. Ч.**/ праз Варшаву і Вену здолеў дабрацца да Італіі, дзе перайшоў фронт і да канца вайны быў у польскім корпусе генерала У. Андэрса.

Пасля вайны жыў у Лондане, працаваў у выдаваных братам польскіх газетах і часопісах, з пачатку 50-х і да канца жыцця займаўся літаратурнай працай. Памёр у студзені 1985 года ў Мюнхене.

Кожная аповесць Ю. Мацкевіча выклікала шквал крытыкі, дыскусіі ў эміграцкіх колах і нават заходніх парламентах; даставалася яму ад даваенных дзеячаў і калег, ад ветэранаў АК, ад камуністаў у Маскве і Варшаве, а пад канец жыцця нават ад каталіцкага кліру і друку. І тым не менш рэдка хто з сучасных пішучых папольску літаратараў здабыў такую ж папулярнасць, як Юзэф Мацкевіч, а цвёрдасць і нязменнасць яго поглядаў паважалі нават самыя зацятыя крытыкі.

**II.**

На Захадзе Мацкевіч пачаў, і гэта зразумела, са здабывання заходняга чытача. У 1957 годзе выйшла яго аповесць **«Контра»** — пра Германію ў канцы вайны, пра лёс мільёнаў людзей, якія апынуліся ў Германіі па сваёй і чужой волі. Скандал выклікаў аповяд Мацкевіча пра тое, як у 1945-46 гадах англійскія акупацыйныя войскі разам з савецкім МГБ дэпартавалі тысячы «казакаў» з іх дзецьмі і жонкамі на верную смерць. Дэпартацыя адбывалася выключна жорстка: адны самі канчалі самагубствам, іншых збівалі да смерці, іншых вешалі на фартэпіянных струнах і г. д.

Польская эміграцыя чарговы раз абвінаваціла Мацкевіча ў «здрадзе»: маўляў, гэта ж «казакі», «уласаўцы», якія душылі Варшаўскае паўстанне — але ж Мацкевіч падкрэсліваў іншае: *змову «заходніх дэмакратый» са Сталіным, абыякавасць да людскога лёсу дзеля «вялікай палітыкі».*

У заходніх сталіцах таксама зрабіўся гвалт. Брытанскі парламент нават правёў адпаведныя слуханні, маўляў, такога не магло быць, бо такога быць не магло, у нас дэмакратыя і г. д. Але прадстаўленыя архіўныя дакументы пацвердзілі поўную рацыю аўтара.

Здаецца, кніга невыпадкова з'явілася толькі ў 1957 годзе — пасля смерці Сталіна і прамовы Хрушчова на XX з'ездзе КПСС. *Не адным сталіністам праўда пра сталінізм была невыгоднай — «моцныя нашага свету» заўжды пакрывалі і пакрываюць сябе ўзаемна.*

Праз два гады выйшла **«Справа палкоўніка Мясаедава»** пра вайну 1914 года, наступленне расійскай арміі на Усходнюю Прусію і яе разгром немцамі. Сюжэт можна не пераказваць — пра тое ж пазней пісалі Пікуль і Салжаніцын: «справа нямецкага шпіёна Мясаедава», палкоўніка Генеральнага штаба, была высмактаная з пальца. На палкоўніка звалілі правал аперацыі як на ахвярнага казла — нічога ён немцам не перадаваў. Пра планы ж расійскага камандавання вораг даведаўся вельмі проста: немцы ўжо тады ў эфіры карысталіся шыфрам, а рускія па сваёй традыцыйнай расхлябанасці валілі адкрытым тэкстам... За што людзі расплачваліся крывёй.

Пікуль і Салжаніцын слова ў слова паўтарылі тое, што задоўга да іх высветліў «какой-то поляк». Але чаму гэты паляк раптам палез у «чужую» вайну? А таму, што ніякая яна не чужая: армія генерала Самсонава стаяла на поўнач ад Варшавы, армія генерала Рэнненкампфа на захад ад Вільні; шэраговымі былі амаль выключна тутэйшыя палякі, беларусы, яўрэі. І палеглі яны на Мазурах тысячамі... Гэтая аповесць вельмі характэрная для Мацкевіча. *Па-першае, ён заўжды пісаў пра гэты Край, па-другое, яго кнігі толькі выглядалі дэтэктывамі — на самай справе палітыка, рацыя дзяржавы былі на другім месцы, а на першым заўсёды стаяў слабы маленькі чалавек.*

**III.**

У 1965 годзе выйшла аповесць **«Лева вольна!»** пра вайну 1920 года. «Лева вольна» — гэта ці то каманда, ці то кліч польскіх уланаў, якія ў адступленні стрымгалоў ляцелі на захад па разбітых беларускіх дарогах, спіхваючы набок фурманкі ўцекачоў.

На гэты раз патрыятычная крытыка абуралася аўтарам за яго ацэнку дзеяў тагачаснай палітычнай эліты Польшчы і самога Юзэфа Пулсудскага.

Мацкевіч вельмі рэзка выказваўся пра «маршалка» і яго міністраў з генераламі, якія не толькі «пакінулі бальшавікам» палякаў-хутаранаў з-над Дзвіны і Бярэзіны, але аддалі нават абшары, ужо занятыя польскай арміяй, ды пакінулі на волю лёсу армію Пятлюры на Украіне і корпус Булак-Балаховіча на Палессі.

Летам 1919 года польская армія стаяла на Бярэзіне, а пад Арлом узаемна вынішчаліся Дзянікін і Троцкі. Быў спрыяльны момант наступаць далей, але ажно да вясны 1920 года палякі марудзілі — у выніку ледзь утрымалі і ўласную незалежнасць. Трэба прызнаць, што з палітычнага пункту гледжання пазіцыя Мацкевіча даволі спрэчная: Дзянікін быў нічым не лепшы за Троцкага. У 1919-м абодва высланцы Пілсудскага да «белай арміі», — спачатку генерал Карніцкі, а потым міністр Ежы Іваноўскі, дарэчы, старэйшы брат вядомага беларускага дзеяча Вацлава Іваноўскага, — атрымалі ад Дзянікіна той самы адказ: Польшча можа быць толькі аўтаноміяй у складзе Расіі ды ў межах 1815 года, вызначаных яшчэ Венскім Кангрэсам... Аднак і Мацкевіч мае рацыю ў тым, што *не гэта* вызначала «ўсходнюю польскую палітыку». На «крэсы» рухаліся не вызваліцелі з-пад царскага ці бальшавіцкага ярма, але новыя заваёўнікі. *Польская палітыка была ад самага пачатку скіравана на пабудову не федэральнай і дэмакратычнай, але нацыяналістычна-клерыкальнай дзяржавы — лідэры «народовцув» сфармулявалі гэты прынцып так: «на ўсходзе трэба праглынуць роўна столькі, колькі можна асіміляваць за адно пакаленне»!* Ніякія беларусы з украінцамі панам «дэмакратам» былі непатрэбныя, а што да лёсу сваіх «надбэрэзыньцув», якія альбо гінулі, альбо ўцякалі ў Польшчу, губляючы здабытак цэлага жыцця, дык што ж — гэта ўсяго толькі «непазбежная плата» дзеля ажыццяўлення «вялікай палітыкі»...

Таксама цікава, што злавалі на Мацкевіча нават за тое, што ён называе 19-ю і 22-ю дывізіі, якія пад началам генерала Жэлігоўскага восенню 1920 года занялі Вільню і Віленшчыну, *беларускімі!* Гэтыя дывізіі былі набраныя па мястэчках і вёсках паміж Віліяй і Нёманам, гэта яны сваёй крывёй заплацілі за «цуд над Віслом», стрымаўшы кубанцаў і чачэнцаў з «дзікіх дывізій» 3-га корпуса Г. Гая — і таму ў разуменні «праўдзівэго поляка» быць *беларускімі* яны ну аніяк не маглі!

**IV.**

Найбольшую славу і такія ж непрыемнасці прынеслі Мацкевічу кнігі **«Дарога нікуды»** і **«Не трэба гаварыць уголас».** Гэта кнігі пра апошнюю вайну, падзеі 1939-44 гадоў — немцы, палякі, АК, летувісы, беларусы, партызаны...

Як вядома са шматлікіх дакументаў, мемуараў, дзейнасць АК на Беларусі мела вельмі супярэчлівы характар. З аднаго боку, былі шматлікія, хоць і непараўнальныя з савецкай партызанкай, акцыі АК супраць немцаў, з другога ж, бясспрэчна, і адкрытае супрацоўніцтва АК з гітлераўцамі: дастаткова прыгадаць такіх камандзіраў, як «Рагнэр», «Лупашка», «Пільх», якія атрымлівалі зброю ад СС і Абвера, «пацыфікацыйныя акцыі» на партызанскія зоны, масавы тэрор супраць беларусаў, незалежна ад таго, ці то былі яны настаўнікамі ці чыноўнікамі ў немцаў, ці то дапамагалі «саветам» і г. д. Дарэчы, антыбеларускі тэрор АК працягвала і пасля вайны.

Пік супрацоўніцтва АК з немцамі прыходзіцца на вясну 1944 года: калі немцы абвясцілі мабілізацыю ў Беларускую Краёвую Абарону, то з мабілізацыйнага плана была выключаная ўся Лідская акруга — каб там «сваю» мабілізацыю праводзіла польская АК! Але адно сухія радкі з архіваў, а другое — замалёўка з натуры Юзэфа Мацкевіча. Вось што ён піша.

*«...Яшчэ спакой. Немцы паціху даюць нам зброю, гэта называецца, што мы яе «здабываем», і нас не чапаюць. За гэта хочуць, каб мы задушылі савецкую партызанку. Калі наш атрад сустракае на дарозе жандармаў, то адны глядзяць у адзін бок, другія ў другі — і гэтак міла разыходзяцца, як лялі. Але вось на днях лідскі «гэбітскамісар» «здаў» нам увесь свой «гэбітс», каб мы ачысцілі акругу ад бальшавікоў — і мы ачышчаем, як можам! Ужо дайшло да таго, што наш камендант, — у поўным мундуры, тры зорачкі на «рогатывцэ», «маузэр» на пасе, жаўнер у палявой форме правіць вазком, — у белы дзень заязджае да месца пад камендатуру, выходзіць нямецкі камендант, прыкладае руку да фуражкі, наш бярэ «пуд рогатывкэ», ідуць на нараду; потым выходзяць, адсалютоўваюць адзін другому, наш сядае ў вазок і едзе ў лес... Вось так гэта робіцца!».*

Натуральна, Мацкевіч, у чарговы раз атрымаў тытул «здрадніка». Але абураліся і пагражалі не толькі адны палякі! Вось што Юзэф Мацкевіч пісаў варшаўскаму публіцысту З. Сямашку:

«Я не прысвяціў гэтую кнігу аднаму толькі польскаму падполлю. Але і яго абмінуць не мог. Калі гаварыць пра падполле на Віленшчыне, то я гляджу на гэта іначай, чым казённыя прапагандысты і кананізатары. *Пра тое, што мясцовыя атрады АК узброілі самі немцы, ведалі нават дзеці; ведаў кожны паляк — «тылько не тшэба мувіць глосьне!» — ведаў кожны летувіс, кожны беларус, і гэтыя гаварылі, гавораць і будуць гаварыць!.. Гэта такая ж абсалютная праўда, як і тое, што цяпер гэта абсалютна замоўчваецца!*

Сягоння ўвогуле цяжка гаварыць пра нейкую праўду: калі тая праўда нікому не даспадобы. Але праўдзівых гісторыкаў усё менш, а хто яшчэ ёсць, дык паміраюць усе часцей — а пасля іх праўдай палічаць тое, што захочуць...

Ці не яшчэ горш выглядаюць летувіскія ці беларускія справы — ведаеце, штука тут вот у чым: каб пра нешта «сведчыць», трэба выразна акрэсліць, а дзе ж ты быў тады сам, «сведка»?! Альбо — прызнаць сваю адкрытую ці патаемную, але супольную работу з нямецкім акупантам. *А паколькі цяпер* /ліст напісаны ў 1970 годзе. — **А. Ч.**/ *супрацоўніцтва з немцамі лічыцца Абсалютным Злом, то ўсе погляды з таго часу перакручваюцца на супрацьлеглыя.* Ужо даходзіць да таго, што газета беларускіх эмігрантаў, якія ў свой час скалачвалі пранямецкую Краёвую Абарону ды паліцыю для барацьбы з партызанамі, цяпер выхваляецца тым, што іх Беларусь была... самай партызанскай рэспублікай!

Тое ж датычыцца і маіх *асабістых* знаёмых, летувісаў і беларусаў, якія баяцца мяне бачыць, бо не смеюць ілгаць мне проста ў вочы. Цяпер зноў пачынаюць пісаць, што «шавулісы» /летувіская дапаможная паліцыя, дакладна: «стралкі». — **А. Ч.**/ не забілі ў Вільні аніводнага яўрэя, а толькі змагаліся з немцамі за сваю Летуву! А лідэр расійскага НТС Казанцаў абсалютна «паважна» піша, што іх РОА генерала Уласава не білася на баку немцаў пад Кіевам і на Одэры, не душыла паўстанне ў Варшаве, не паліла вёсак, не рабіла аблаў на савецкую партызанку — а толькі і выключна вызваляла ад немцаў Прагу і білася з вермахтам за незалежную Расію!

Вось і злуюць на мяне — і палякі, і беларусы, і летувісы, і расійцы, і ўсе астатнія...».

Забойчы ліст!

Лепш за Мацкевіча не скажаш. Хіба толькі можна дадаць яго ж словамі, што *цяпер, калі мінула яшчэ дваццаць пяць гадоў, а погляды ізноў перакручваюцца на супрацьлеглыя, дык ужо «супрацоўніцтва з саветамі» лічыцца Абсалютным Злом — чорнае ізноў выходзіць белым, а белае чорным!* І як пры жыцці Мацкевіча, гэтаксама паводзяць сябе і палякі, і рускія, і беларусы, і летувісы...

Хіба што палякі зноў «впереди планеты всей»: «крэсовыя» нават не заўважаюць, што калі ў Рэчы Паспалітай прэтэнзіі на «граніцэ двудзестэго першэго року, свентом для каждэго поляка» выглядаюць хоць і дзіўна ды пастарэчаму, але ж, як кажуць, «за свае грошы», дык тут, на Беларусі, яе грамадзянам польскай нацыянальнасці за падобныя прэтэнзіі можна было б і пад пракурора загрымець...

**V.**

Але час пагаварыць пра самога Юзэфа Мацкевіча. Яго погляды і шчырасць выказвання так нетыповыя для «праўдзівэго поляка», што даследчыкі яго творчасці часам нават падважваюць яго польскія карані — а то чаго ж ён называў сябе нейкім «краёўцам», «грамадзянінам Вялікага княства Літоўскага»?!

Нават знайшлі, што хоць маці, пані Мацкевічава, выхоўвала Юзэфа і Станіслава ў традыцыйным польскім духу, але ж бацькавы сёстры, Вільгельміна ды Стэфанія, пайшлі замуж за летувісаў Матулайцісаў — пры гэтым адзін з тых Матулайцісаў быў камуністам, а другі нацыяналістам! І вот, так бы мовячы, гэты халерны дух і задурыў у галаве што Юзэфу, што Станіславу...

А Юзэф дайшоў нават да таго, што лічыў сябе «краёўцам», які не паляк, а толькі гаворыць і піша па-польску!

«Краёўцамі нас /нас, а не мяне! — **А. Ч.**/ клічуць не ад учора. Так, мы палякі, але палітычных сяброў маем сярод беларусаў і летувісаў, а некалі мелі сярод украінцаў. Край наш неабсяжны — як некалі Вялікае княства Літоўскае...».

«У верасні 1939 года «Кур'ер Віленьскі» саманадзейна пісаў, што вайна ёсць «трыумфам польскай зброі над прускай тупасцю» — а наступны нумар ужо не выйшаў, таму што Польшча страціла палітычную самастойнасць! Здавалася б, крывавы ад верасеньскай вайны месяц павінен хоць на імгненне высвеціць зробленыя памылкі, нацягнуць нервы, абудзіць ад ружовага сну, паказаць нашу сутнасць... Ды дзе там! Сядзім сабе і слухаем, як на другім месяцы вайны 4-мільённая Фінляндыя перайшла ў наступленне і гоніць Чырвоную Армію! А самі так і цягаемся — па стаптаных сцежках, ад аднаго табу да другога. Але нават гэтыя мае словы палічаць блюзнерствам, і палічаць пурытане фікцыйнага «патрыётызму»...».

«Пры летувісах» Мацкевіч пісаў, дарэчы, тое ж па змесце і тымі ж словамі, што і ў «польскім вольным Вільне»; тое ж, хоць гэта было куды цяжэй, стараўся пісаць пры немцах. Строга кажучы, яго погляды былі замацаваныя раз назаўжды. У наш жорсткі XX век Мацкевіч заставаўся віленчуком XIX стагоддзя, інтэлігентам узроўню Элізы Ажэшкі, Уладзіслава Сыракомлі ці Францішка Багушэвіча. *Інтэлігентнасць, чалавечнасць значылі для яго ўсё; польскасць ці якая-небудзь іншая*

*(Працяг на стар. 15)*

## ЛЯ ПЕРМСКАГА МОСТА

**Гастролі Альтэрнатыўнага тэатра ў Пермі спраўдзіліся адмыслова: спектаклі «Кароль памірае» Э. Іянескі і «Камедыя...» У. Рудава паводле К. Марашэўскага і Ф. Аляхновіча былі проста і надзейна ўштукаваны ў афішу пермскага тэатра-студыі «Ля моста» ды ішлі сабе напераменкі з тамтэйшымі спектаклямі з 1 па 9 сакавіка пры трывалых аншлагах. Дадамо, што беларускія спектаклі пермякі аціанілі яшчэ летась на тэатральным фэсце ў Сочы, потым самі наведалі Мінск /тэатр-студыя «Ля моста» гастраляваў увосень/, прыгледзеліся...**

**Дамова Вітаўтаса Грыгалюнаса, Леаніда Дзінерштэйна ды мастацкага кіраўніка і дырэктара тэатра-студыі «Ля моста» Сяргея Фядотава, відавочна, не абмяжуецца абменнымі гастролямі. Тэатральны горад Перм запомніў ды ацаніў майстэрства нашых «альтэрнатыўных зорак» Ігара Забары, Артура Шуляка, Яўгена Жураўкіна, Зоі Маладых, Ганны Лягчылавай... Тым больш што спектаклям дасціпна спадарожнічалі капуснікі, дзе прадстаўнікі акцёрскіх труп ды аматары тэатра разумеліся самым зайздросным чынам.**

## НА «БЕЛАЙ ДАЧЫ»



**Інстытут праблем культуры і Саюз майстроў народнай творчасці Беларусі працягваюць знаёміць мінчан з народным мастацтвам. Экспазіцыя, што адкрылася ў выставачнай зале цэнтра фальклору «Белая дача» ў Мінску, на гэты раз невялікая, але незвычайная. Гэта вырабы са скуры народнага майстра Аляксандры Ламанос. Іх цудоўна дапаўняюць вязанне з ільну Наталлі Багданавай і біжутэрыя Вольгі Ерафеевай.**

**Закончыўшы ў 1979 годзе Мінскае мастацкае вучылішча імя Глебава, Аляксандра Ламанос пачала працаваць мастаком-афарміцелем, але гэта не прыносіла творчага задавальнення. І Аляксандра вырашыла паспрабаваць сябе ў прыкладным мастацтве — вырабе са скуры. Пачынала з упрыгожанняў, паясоў. Чым далей, тым больш захапілі яе магчымасці матэрыялу: цеплыня, мяккасць, раскрываліся яго новыя магчымасці.**

**Уступленне ў Саюз майстроў, добрыя парады спецыялістаў памаглі Аляксандры накіраваць працу ў рэчышча народных традыцый. Так з'явіліся вырабы з яскрава выяўленым нацыянальным каларытам.**

**Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛІНФАРМ**

*На здымку: Аляксандра Ламанос /у цэнтры/ знаёміць наведвальнікаў выстаўкі са сваімі работамі.*

*Фота аўтара.*

## ПРА СКАРЫНУ

**Сымон Брага сёння вядомы яшчэ нямногім. Прынамсі, знаўцы беларускай эміграцыі ведаюць, што гэта псеўданім гісторыка Вітаўта Тумаша, на творчым рахунку якога нямала артыкулаў, даследаванняў. Менавіта С. Брага па-свойму ставіцца да паходжання назвы «Белая Русь», шмат увагі надае вывучэнню гісторыі кнігадрукавання на Беларусі ў XVI стагоддзі. Найперш яго цікавіць постаць Скарыны. Дарэчы, С. Брага адзін з тых, хто першым пачаў аргументавана даводзіць, што імя нашага першадрукара зусім не Георгій, як тое спрабуюць сцвярджаць некаторыя па-сённяшні дзень.**

**Увогуле, С. Брага прысвяціў Скарыну, пачынаючы з 50-х гадоў, больш за сорак публікацый, а ў 1989 годзе выпусціў у Злучаных Штатах Амерыкі, у беларускай друкарні М. Прускага даведнік «Пяць Стагоддзяў Скарыніяны». Сярод шматлікіх публікацый замежнага беларускага гісторыка адметнае месца займае артыкул «Доктар Скарына ў Маскве», упершыню апублікаваны ў другім нумары «Запісаў» Беларускага інстытута навукі і мастацтва.**

**Цяпер гэтая праца С. Брагі пабачыла свет у выдавецтве «Навука і тэхніка» ў серыі «Згукі мінуўшчыны». У прадмове «Асабліва цікавае даследаванне» /а менавіта так адазваўся аб публікацыі выдатны скарыназнаўца А. Флароўскі/ Генадзь Сагановіч падрабязна расказвае пра навуковую дзейнасць С. Брагі.**

***Паведамляючы пра восеньскую навуковую сесію Акадэміі навук /лістапад м. г./, мы абумовілі, што пэўныя матэрыялы з пасяджэнняў секцый неўзабаве з'явяцца на старонках «ЛіМа». Найперш, вядома, з абсягу мовы і літаратуры. Сёння прадстаўляем слова старшаму навуковаму супрацоўніку Інстытута літаратуры АН Беларусі Уладзіміру Мархелю, турбота чыя — польскамоўная беларуская літаратура XIX ст. Што ж, шмат з гісторыі літаратуры /па факталогіі/ вядома, але не шмат асэнсавана. Чым і турбуецца аўтар артыкула. Вядома, усё гэта толькі падступы да філасофіі літаратуры. Але спробы вартыя мэты.***

Уладзімір МАРХЕЛЬ

# ДА СВАІХ БЕРАГОЎ, ДА ВЫТОКАЎ

Нашае мінулае, багатае, шматзначнае і павучальнае, не мае вартай яго гісторыі. Яе замяніла ці, дакладней, падмяніла гістарыяграфія, выведзеная ў кантэксце чужой гісторыі і так пастаўленая ў залежнасць ад класавага бытаразумення, што заахвоціла замацаванне — нават у разумных галовах — вобраза беларускай нацыі як сялянскай. Аднабаковыя ўяўнасці лёгка траплялі ў спекулятыўную палітыку і ў рэшце рэшт «абгрунтоўвалі» не так класавае расслаенне беларускага грамадства ў мінулым, як яго нацыянальнае размежаванне. Таму сыны аднае айчыны — сяляне і шляхта — не лічыліся роднымі братамі. Адчужэнне прыкметнай часткі грамадства ад яго гісторыі стварыла парадаксальны прэцэдэнт нацыянальнай нязручнасці ў спасціжэнні беларускага мінулага...

Сацыяльна-грамадскія стасункі і стыль жыцця Беларусі ў першай палове XIX стагоддзя вызначаліся падзеламі Рэчы Паспалітай, у выніку якіх беларускія землі адышлі да Расійскай імперыі. Гістарычна несправядлівы і палітычна змоўніцкі акт быў здзейснены перад тварам усяе Еўропы, і ў цэлага пакалення, якое стала сведкам і ахвяраю гэтых падзелаў, ды і ў наступнікаў таксама, наўрад ці абуджаў пачуццё ўдзячнасці за ўчынены гвалт. Трагізм становішча беларусаў раскрыла вайна 1812 года, у якой ураджэнцы Беларусі прымалі ўдзел як састаўныя часткі супрацьдзеючых сіл. Зусім натуральным было тут усеагульнае імкненне да ўзнаўлення нядаўняй Рэчы Паспалітай, у склад якой уваходзіла Вялікае княства Літоўскае. Так ці інакш гэта спрыяла далейшай паланізацыі беларусаў, аднак не да такой ступені, каб яны канчаткова пазбавіліся гістарычных уяўленняў пра сваю першасную радзіму, пра сваю тутэйшасць. Таму ёсць падставы сцвярджаць, што ў беларускім асяроддзі польскасць грунтавалася на ідэі адраджэння Рэчы Паспалітай і на антыімперскіх, антыцарысцкіх настроях, г. зн. нацыянальна-вызваленчы рух, вяршынямі якога былі паўстанні 1830—1831 гг. і 1863—1864 гг., афармляўся на беларускай зямлі не так праз нацыянальныя ўяўленні, як праз рэтраспектыўны дзяржаўны патрыятызм. На тым этапе супраціўлення расійскай імперскасці ён, бадай, стымуляваў паглыбленне гістарычных уяўленняў пра Вялікае княства Літоўскае і цікавасць да малой радзімы, г. зн. лагічна фарміраваў лакальна-гістарычны і мясцовы патрыятызм, а разам з ім абумоўліваў адраджэнне беларускай літаратуры.

Першая гісторыя літаратуры Беларусі мелася быць напісана ў апошняй чвэрці мінулага стагоддзя. Прынамсі, Аляксандр Рыпінскі рабіў захады, каб напісаць яе: назапашваў звесткі, збіраў матэрыялы і нават распачаў працу над біяграфіямі пісьменнікаў, якія, паводле яго слоў, «або нарадзіліся на Белай Русі, або таксама пра яе пісалі на абедзвюх мовах нашай правінцыі, як польскай, так і русінскай». Але пачынанні Рыпінскага ў друкаваную кнігу не аформіліся, і іх занядбалі на цэлае стагоддзе.

За гэты час з'явілася і колькі разоў паўтарылася ў канкрэтна адрасаваных варыянтах гісторыя беларускай літаратуры, якая не тое каб зусім не згадвала пра мясцовых польскамоўных аўтараў, а была абыякавай да іншамоўнай спадчыны, да вызначэння яе параметраў і асобных здабыткаў, бо ўвогуле не мела іх на прыкмеце, калі разглядала ўласна беларускую творчасць. У выніку адбылася падмена лініі бесперапыннага літаратурнага руху пункцірам асобных з'яў, і ў полі зроку апынуўся не ўвесь шматмоўны масіў літаратуры Беларусі. Многія аўтары былі забыты, забыты не таму, што яны пакінулі малапрыкметны след у літаратуры, а таму, што след гэты працяглы час не заўважалі, бо, здавалася, ён вёў толькі ўбок польскай літаратуры і праз тое быў нязручны ў асвятленні штучна выпрамленага даследчыкамі шляху развіцця новай беларускай літаратуры. Творам, сарамяжліва замоўчаным ці свядома абмінутым, абдзеленым увагаю дзеля іх іншамоўнасці, а таму злачынна выкрасленым з чалавечай памяці на шмат гадоў, наканавана вярнуцца да жыцця і прыйсці ў сённяшнюю літаратурную сітуацыю праз беларускі пераклад. І гэта акт непазбежны: ён абумоўлены, нават стымуляваны неўтаймоўнай прагаю чалавечага самапазнання — ад індывідуумаў да цэлых пакаленняў — на ўзроўні памятлівага далучэння да культуры мінулага або адкрыцця мастацкай свядомасці продкаў праз сябе і на ўзроўні падключэння даўнейшых культурных здабыткаў да сучаснасці або спасціжэння сябе праз паглыбленне ў літаратурную спадчыну папярэднікаў.

Аднак гістарычна-аб'ектыўная памкнёнасць грамадства да самапазнання ў адноўленых з'явах, узорах і прыкладах літаратурнага мінулага суправаджаецца непазбытымі стэрэатыпамі ўяўленняў пра беларускую культуру ўвогуле. Уяўленні гэтыя складваліся не адно дзесяцігоддзе, прытым пад адчувальным уплывам пабочных, ускосных поглядаў на гістарычныя працэсы ў Беларусі, поглядаў, што ўзніклі без беларускай ініцыятывы, па-за беларускай воляю і ўжо дастаткова выразна характарызуюць іх пачатковых і сучасных носьбітаў.

Стэрэатыпныя ўяўленні пра беларускую літаратуру па інерцыі грунтуюцца на звужэнні сферы і формы яе бытавання ў мінулым, на гіпертрафіраваным прыстасаванні класава-замкнёнай схемы да неардынарных і неспасцігнутых з'яў. Спрошчаны падыход да літаратурнай мінуўшчыны трымае гісторыкаў літаратуры /а з імі і грамадства/ на такой адлегласці ад аб'екта іх увагі, якая дазваляе бачыць яго толькі ў чорна-белай выяве, г. зн. беларускасць абавязкова пазначана сялянска-мужыцкімі прыкметамі, калі ж іх няма, то гэта ўжо з'ява не беларуская, а таму не датычная да гісторыі Беларусі, гэтаксама як польскамоўныя творы ўраджэнцаў Беларусі. Між тым усё гэта было праяваю шматграннага і рознаўзроўневага, але аднаго літаратурнага працэсу, абумоўленага геаграфічна-жыццёвага-палітычным лёсам свайго краю і вызначанага асаблівасцямі беларуска-польскага супольства пад імперскай «апекаю» Расіі.

Нарастанне адраджэнскіх тэндэнцый беларускай літаратуры ішло ў XIX стагоддзі ў двух сустрэчных кірунках: з аднаго боку, у сялянскім асяроддзі, якое зберагала фальклор і мову продкаў, з'яўляліся паэты /Паўлюк Багрым/ і літаратурныя творы, найперш ананімныя /»Віншаванне бондара Савасцея», «Імяніннае віншаванне», «Вясна гола перапала» і інш./, а з другога — польскамоўныя аўтары, ураджэнцы Беларусі, прыпадаючы да фальклорных крыніц і ўздымаючы праблемы народнага жыцця, імкнуліся, каб іх творы траплялі пад саламяныя стрэхі, г. зн. распаўсюджваліся ў сялянскім асяроддзі. Менавіта ў гэтым руху да народных асноў таленавітыя, з абвостраным успрыманнем жыцця польскамоўныя паэты адчулі ўнутраную патрэбу тварыць і на беларускай мове.

Выданне «Сялянскіх песенек...» — зборнікаў беларускіх народных песень, перакладзеных на польскую мову, і стылізаваных пад фальклор уласных вершатвораў Ян Чачот арыентаваў спачатку /у 1837 годзе/ на абмежаванае кола адрасатаў — мясцовых чытачоў, выхаваных на кніжнай культуры і захопленых італьянскай ды французскай вакальнай музыкаю, бо спадзяваўся, што пераўтвораны па-польску беларускі мелас, цнатлівы і жыватворны, зможа ўплываць на маральнае ўдасканаленне «панічоў і панечак». З часам /у 1844 годзе/ паэт-фальклярыст схіліўся да ўключэння ў свае зборнікі і арыгінальных песенных тэкстаў, а таксама ўласных беларускамоўных «сялянскіх песень» з іх паралельным польскім перакладам, г. зн. Чачот свядома пашыраў кола адрасатаў за кошт беларускага слова, выходзіў за круг, акрэслены пачаткова польскай моваю. Логіка мастацтва і вымогі грамадска-культурнай сітуацыі ў Беларусі выводзілі за традыцыйны польскамоўны круг і чулліва-чуйную музу Уладзіслава Сыракомлі, які хацеў, каб яго вершы і гутаркі траплялі пад вясковую страху. Іх беларускамоўныя творы працягвалі іх мастацкія пошукі і здзяйсненні ў польскамоўнай творчасці і не адмаўлялі яе, не канфліктавалі, а суіснавалі з ёю, сцвярджаючы тым самым своеасаблівы аўтарскі білінгвізм — двухмоўнасць, двухбаковасць, двухкрайнасць, двухадзінства, а не раздвоенасць літаратурнага працэсу і творчасці асобных паэтаў. Ян Чачот, Уладзіслаў Сыракомля, Ян Баршчэўскі, Геранім Марцінкевіч, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Вінцэсь Каратынскі і іншыя, прыйшоўшы да ўключэння беларускай мовы ў сферу мастацкай творчасці, не пераставалі пісаць і па-польску...

Усталяваная раўнавага пераходнага часу, пры якой беларускае мастацкае слова, колькасна сціплае, не перашкаджала польскамоўнай творчасці займаць пануючае становішча, зрабіла натуральным беларуска-польскае моўна-літаратурнае сужыццё пад вокладкамі аднаго выдання — найперш у кнігах Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча /«Гапон», «Вечарніцы і Апантаны», «Цікава? — Прачытай!», «Дудар беларускі»/, а таксама ў межах аднаго твора — галоўным чынам у макаранічных вершах /«Скажы, вяльможны пане...» Ігната Легатовіча, «Плач пакінутага каханай» і «За пекнай паненкай аж душа сумуе...», напісаныя, магчыма, Францішкам Рысінскім/. Адкрываючы магчымасці разнамоўнага судакранання, білінгвістычныя творы ўводзілі беларускае гутарковае слова ў пісьмовую сферу, фіксавалі яго мастацкую жыццяздольнасць і перспектыўнасць.

Бадай усе мясцовыя вершатворы, незалежна ад іх мовы, зыходзілі з аднае рэчаіснасці, асвяжаліся ў адных фальклорных крыніцах і вельмі часта ўступалі ў свет з багаслаўлення адных і тых жа паэтаў. Пераходная літаратурная сітуацыі ў Беларусі, псіхалагічна ўраўнаважаная двухадзінствам ўзаемадзеючых моўна-мастацкіх асаблівасцей, захоўвала прыярытэтнасць польскамоўнай творчасці і адначасова, з кожным зваротам паэтаў да беларускага вершаскладання, выяўляла недастатковасць выказвання мясцовых аўтараў на адной толькі запазычанай у суседзяў мове.

Патрэбен быў час і пэўныя гістарычныя падзеі /паўстанне 1863 года ды ахвярны подзвіг Кастуся Каліноўскага/, каб адраджэнскія тэндэнцыі ператварыліся ў адраджэнскі патэнцыял беларускай літаратуры, каб творы на беларускай мове адрасаваліся ўжо не толькі мужыку, як у Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, а ўсяму народу /хоць і праз вобраз мужыка/, як у Францішка Багушэвіча. Выданне Багушэвічавай «Дудкі беларускай» /Кракаў, 1891/ засведчыла, што беларуская літаратура выйшла на самастойны шлях і што яна ўжо самаўсвядоміла сябе. Праўда, гэта яшчэ не азначала, што традыцыя білінгвізму ў беларускай літаратуры назаўсёды адышла ў нябыт. Па-польску працягвалі пісаць і Францішак Багушэвіч, і Янка Лучына, і Адам Гурыновіч, і Зоф'я Трашчкоўская /Адам М-скі/, — і іх творы на польскай мове — як блудныя сыны, яны таксама дарагія бацькаўшчыне.

Стэрэатып жа ўспрымання іншамоўнай спадчыны беларускай літаратуры да сённяшняга дня хавае ад нас беларускі архетып выяўленай па-польску мастацкай свядомасці найбольш таленавітых паэтаў. Усе яны непадобныя чалавечымі і літаратурнымі лёсамі, розныя паводле мастацкай манеры, але іх магутнае цяпло суперажывання — нібы адно на ўсіх. Асабліва гэта адчувальна ў баладзе, адным з самых асвоеных і распрацаваных жанраў у польскамоўнай творчасці беларускіх паэтаў-рамантыкаў.

У ліпені 1819 года Ян Чачот згадваў пра свае першыя балады ў лісце да Адама Міцкевіча, які пад той час таксама цікавіўся беларускімі казачнымі і паданневымі сюжэтамі як народнай матэрыялізацыяй маральна-этычных каштоўнасцей у людскіх стасунках і як зыходнай матэрыяй дзеля літаратурнай баладабудовы.

Ян Чачот з неахвотаю знаёміў Міцкевіча са сваімі баладамі і нідзе іх не публікаваў, бо, здаецца, сам бачыў іх недасканаласць. Яны

былі пазбаўлены драматычнага напружання, а фантастычна-дзівосныя з'явы ў іх узнаўляліся спрошчана і прыземлена-будзённа дзеля таго, каб не парушыць сапраўды народнае разуменне непазбежнасці кары за амаральныя ўчынкі. Адам Міцкевіч таксама шанавальна ставіўся да народных уяўленняў пра немінучасць адплаты за ўчыненае зло, але казачныя і легендарныя сюжэты, прымеркаваныя да возера Свіцязь, узнаўляў у сваіх баладах /«Свіцязянка», «Свіцязь», «Рыбка»/ на ўзроўні індывідуальнай інтэрпрэтацыі. Яго кніга «Балады і рамансы», выдадзеная ў Вільні ў 1822 годзе, літаральна ўскалыхнула мясцовае літаратурнае жыццё, раскрыла псіхалагічна-мастацкія магчымасці рамантычнага жанру, блізкага да народнай творчасці сваёй паэтыкаю. Менавіта з таго часу і найперш у коле студэнцкіх сяброў вялікага навагрудчаніна паглыбляецца цікавасць да тае таямнічасці свету, якую не заўсёды можна растлумачыць бытавою логікай. Адкрылася патрэба пранікнення ў свет неспазнаных паняццяў праз мастацкае асэнсаванне прымхаў і вераванняў продкаў — насельнікаў тутэйшай зямлі.

І калі фальклор адухаўляў прыроду, то паэтычныя творы, заснаваныя на беларускім фальклоры, служылі яе гуманізацыі ў свядомасці носьбітаў культуры, разамкнёнай у беларуска-польскае двухмоўе, у польскі тып пісьменства і ў беларускую ментальнасць. Яна паварочвалася і ззяла рознымі гранямі ў польскамоўных вершах беларускіх паэтаў XIX стагоддзя. У іх светаўспрыманні прастора амаль заўсёды падначалена часу, ахоплена ім і пазначана пэўнай сваёй і няяснай чужой мясцінаю, а час неадлучны ад прыроды, бо вымяраецца і канкрэтызуецца порамі года, хоць у дачыненні да чалавека часта характарызуецца імгненнасцю і хуткабежнасцю. Разам з тым уяўленне паэтаў, здаралася, сягала ў касмічную прастору і мела на ўвазе бяскрайнасць і вечнасць. Вінцэсь Каратынскі, напрыклад, здольны бачыць чалавека ў сусвеце і ў яго хрысціянскім руху да вышэйшых боскіх сфераў /«Да святла набліжае крок новы...», «Да Фелікса О***»/, а Юліян Корсак на падставе падання пра Лятаўца — злога духа ўзнаўляе пэўны кут светабачання беларусаў, іх хрысціянскую стрыманасць і пераборлівасць ва ўспрыманні космасу. Разам з тым яго балада «Лятавец» перасцерагае безадказнацікаўных дзяўчат ад легкадумных учынкаў і служыць не так сацыяльнай маральнасці, як духоўнаму пасталенню даверлівай маладосці. Народная дэманалогія, дзівосна паўстаўшы ў легендах, паданнях і вераваннях як праява вобразна-прымхлівага светабачання, трапляла ў балады і ў сюжэтныя вершаваныя аповяды не дзеля нагнятання змрочных жахаў, а дзеля раскрыцця цёмных сіл, спрацыраваных на людскія стасункі або паводзіны індывідуумаў і нейтралізаваных хрысціянскай мараллю. Менавіта гэтая нейтралізацыя ўтрымала беларускіх аўтараў польскамоўных твораў ад паэтызацыі прадоння зла і разбурэння асобы.

Язычніцкае адухаўленне з'яў прыроды, захаванае ў фальклоры, было перанесена ў вершы і пераўтворана ва ўзор, паводле якога множыліся вобразныя сродкі і прыёмы. Сама ж прырода ў паэзіі XIX стагоддзя падабрэла і паспраўядлівела, наблізілася да людскіх стасункаў. Таму і зварот да роднага ўлоння, да вялікіх і малых рэк набывае ў паэтаў тутэйшай зямлі асаблівы давер. Іх воды калышуць успаміны, іх хвалі панеслі ўдалячынь гады юнацтва і не вернуць ніколі, бо плыні зваротнай няма. Сплывае жыццё, як вада, рэкі цякуць у акіян, у чужыну, і туга па радзіме скіроўвае погляд закінутых лёсам у свет самотнікаў да сваіх берагоў, да чыстай вады, да вытокаў /да Нёмана Адама Міцкевіча і Юліяна Корсака, да Дзвіны Ануфрыя Каркарэвіча і Ігната Храпавіцкага, да Віліі Тадэвуша Лады-Заблоцкага, да Палоты Юзафа Маралёўскага/.

На хвалях успамінаў прыносяцца ў паэзію пачуццё брацтва і цяпло сяброўства. Згадка пра іх дае аўтарам сілу годна прыняць удар лёсу, выстаяць у нягодах. Мінулае, калі яно светлае і незабытае, таксама супрацьдзейнічае жорсткасці і няўмольнасці абставін /«Да сяброў» Станіслава Ляховіча, «Хоць пад небам халодным, пахмурным краіны...» Адама Плуга, «Развітвайцеся!» Габрыелі Пузыны/.

Калі ж ты дайшоў да апошняга прыпынку цярпення, то ўсё роўна не павінна цябе пакінуць надзея, што палёгку пашле неба /«Да Віліі» Тадэвуша Лады-Заблоцкага/, бо яго раса ападае на багаслаўлёную зямлю /«Да прыяцеляў» Гіпаліта Клімашэўскага, «Пастрыжыны» Вінцэся Каратынскага/.

Беларуская польскамоўная паэзія XIX стагоддзя — гэта паэзія надзвычайнай цеплыні і спагады, цнатлівасці і чысціні, паэзія самапазнання нашых продкаў, без якой нашае самапазнанне наўрад ці зможа адбыцца...

Нашае мінулае будзе станавіцца нашай гісторыяй па меры таго, як мы, вызваляючыся ад правінцыйных комплексаў, будзем набліжацца да спазнання таго феномену, які мог утварыцца на скрыжаванні шляхоў народаў, дзе палітыка ўжо даўно нясе з сабой асіміляцыю, а культура /у тым ліку беларуская польскамоўная літаратура/ выяўляла і сцвярджала сябе праз інтэграцыю.

Меркаванне

# ЯШЧЭ ПРА ТАЛЕРАНТНАСЦЬ

Апошнім часам стала модным разважаць аб так званай талерантнасці беларусаў. Гэтая славутая талерантнасць ці, інакш, проста цярпімасць стала паступова прадстаўляцца як нейкая адметная нацыянальная рыса беларусаў, як адна з шэрагу лепшых рысаў беларускага характару. Неаднаразова падкрэсліваў гэта ў сваіх артыкулах прафесар Юры Хадыка. А 25—26 чэрвеня 1993 года ў канферэнц-зале мінскага гатэля «Юбілейны» нават праходзіла міжнародная канферэнцыя «Талерантнасць і грамадскія адносіны». На канферэнцыі, якая сабрала навукоўцаў з Чэхіі, Польшчы, Украіны, Прыбалтыкі, Беларусі, Венгрыі і іншых краін, высвятляліся розныя аспекты талерантнасці.

Куды толькі ні чаплялі гэтую праславутую талерантнасць вучоныя мужы! Вось тэмы паведамленняў і дакладаў: «Талерантнасць у працэсе захавання стабільнасці ў дэмакратычных грамадствах», «Роля адукацыйных і культурных інстытутаў у забеспячэнні талерантнасці», «Параўнанне ўнутранага і міжнароднага заканадаўства ў сферы талерантнасці»... Былі адпаведныя даклады і вядомых беларускіх вучоных С. Падокшына, У. Конана, А. Мальдзіса і іншых: «Традыцыі беларускай талерантнасці», «Сіла ці слабасць? Талерантнасць і фармаванне беларускай нацыянальнай свядомасці» і г. д. Праслухаўшы гэтыя даклады, праанналізаваўшы іх змест, наогул усю гісторыю пытання, нечакана прыходзіш да высновы, што шэраг сцвярджэнняў аб нібыта спрадвечнай талерантнасці беларусаў не маюць пад сабой падстаў...

Галоўны аргумент тэорыі талерантнасці — што ў ВКЛ суіснавала мірна шмат нацый: гэта, маўляў, і ёсць прыклад талерантнасці. Але, прабачце, гісторыя мае шмат прыкладаў таго, калі аб'ядноўваліся розныя землі, розныя народы ў адну больш моцную дзяржаву з той ці іншай неабходнасці. У даным выпадку аб'ядноўваліся розныя народы, каб лепш бараніцца ад агульнага ворага — крыжакоў ды маскоўцаў. І талерантнасць тут ні пры чым. Такіх шматнацыянальных дзяржаў было нямала — і Рымская імперыя, і Візантыйская, і іншыя ўтварэнні ад старажытнасці да нашых часоў. Звернем таксама ўвагу і на тое, што ў часы сярэднявечча грамадства дзялілася не па нацыянальнай прыкмеце. Галоўнай лініяй падзелу было веравызнанне, якое і з'яўлялася галоўнай характарыстыкай як асобнага чалавека, так і ўсяго грамадства. Менавіта веравызнанне мела самы непасрэдны ўплыў на знешнюю і ўнутраную палітыку дзяржавы. У ВКЛ да XVI стагоддзя суіснавалі розныя хрысціянскія канфесіі — праваслаўная, каталіцкая, пратэстанцкая... Жылі ў нас мусульмане — татары, трывала аселі к таму часу яўрэі. Менавіта вось гэты факт суіснавання мноства рэлігійных канфесій у ВКЛ часцей за ўсё прыцягваецца для абгрунтавання міфа аб талерантнасці беларусаў. Але заўважце наступнае: XVI стагоддзе — гэта эпоха Рэнесансу ў Еўропе, гэта ўздым Рэфармацыі, перыяд ломкі старых стэрэатыпаў і стварэння новых ідэй і канцэпцый. І на Беларусі, і ў Францыі, і ў іншых еўрапейскіх дзяржавах тады суіснавалі розныя рэлігійныя плыні. Такое становішча шмат дзе захавалася да нашых дзён. Так, у Германіі зараз — 48% католікаў і 46% пратэстантаў. Прыблізна тое ж, прыкладам, у Швейцарыі, Аўстрыі... Але ніхто не называе немцаў ці швейцарцаў «талерантным» народам. Талерантныя людзі ёсць у кожнай з гэтых нацый. І гэта, хутчэй, рыса тэмпераменту. Шматканфесійнасць у ВКЛ сведчыць, хутчэй, не аб нейкай незвычайнай рысе тамтэйшых жыхароў, а аб тым, што ВКЛ было нармальна развітай еўрапейскай дзяржавай.

Аб якой талерантнасці ў рэлігійных адносінах у ВКЛ можна гаварыць, калі ўвядзенне уніі ў XVI стагоддзі ішло праз жорсткую гвалтоўную палітыку з боку католікаў і асабліва езуітаў? Існавала нават спецыяльная інструкцыя езуіта, па якой рабіўся зварот праваслаўных у уніі і каталіцызм. Як тут не нагадаць сумна вядомых з тых часоў езуіта Андрэя Баболю і арцыбіскупа Іасафата Кунцэвіча, якія гвалтам насаджалі унію праваслаўнаму беларускаму народу і за што абодва былі забіты простымі людзьмі. Кунцэвіча нават празвалі «душахватам»...

Але глянем больш пільна на нашу гістарычную эпоху, на канец XX стагоддзя. Можа, славутая талерантнасць стала рысай беларусаў зусім нядаўна? Сапраўды, сёння на нашай тэрыторыі знешне не відаць ніякіх нацыянальных канфліктаў, як, напрыклад, на Каўказе ці ў Сербіі. Усё ціха, усё «прыстойненька». Амаль усе гавораць па-расейску... Усе галасуюць — узгадаем рэферэндум 1990 года — за Саюз ССР, ці, як вынік палітыкі ўрада сп. Кебіча, — за СНД і ўваходжанне «в единую рублевую зону»; усё больш гучыць галасоў за яднанне з Расіяй, маўляў, «мы не проживем без России». А, між іншым, тая ж Расія з намі жыць сумесна не вельмі і імкнецца, пра што сведчаць бясконцыя непаразуменні пры аб'яднанні нашых грашовых сістэм, ці нахабныя паводзіны расійскага ўрада пры штучным утварэнні нафтавай праблемы, што адбывалася зусім надаўна. У той жа час амаль усе былыя рэспублікі СССР ідуць сваімі шляхамі і робяць сваю будучыню, не зважаючы на «старэйшага брата».

Дык што гэта за народ — беларусы? Чаму іх урад так імкнецца пазбавіцца дзяржаўнай незалежнасці? /Ды не толькі ўрад, прарасейскія настроі ёсць і ў нашых камуністаў, у адрозненне, скажам, ад грузінскіх, і нават у значнай часткі насельніцтва/. Можа, такое становішча і завецца беларускай талерантнасцю? Дык жа не! Ніякая гэта не цярпімасць беларускай нацыі да другіх нацый! Гэта завецца нацыянальным нігілізмам, пагардай да сваёй нацыі, мовы і гісторыі. Вось такія рысы сапраўды адлюстроўваюць сутнасць сучаснага беларускага грамадзяніна. Пад прыкрыццём выдуманай талерантнасці хаваецца нікчэмнасць і душэўная пустэча, жабрацкая псіхалогія і палітычны сервілізм. У рэшце рэшт, беларуская нацыя ў асобах большасці сваіх прадстаўнікоў стала, па сутнасці, непаўнавартаснай. Вядома, гэта вынік больш як 70-гадовага панавання камуністычнай ідэалогіі, у выніку чаго з беларусаў выхаваліся рабы, манкурты, і якім быццам у насмешку прывесілі ярлык «талерантнага народа».

Гаварыць жа аб талерантнасці выпадае, перш за ўсё, толькі з псіхалагічнага боку ці этычнага. Хутчэй за ўсё яна — характарыстыка пэўнага чалавека, а ў больш агульным сэнсе характарыстыка ступені развіцця грамадства. Чым больш высокі ўзровень цывілізаванасці грамадства — тым больш уласцівая яму цярпімасць да іншадумцаў, імкненне да еднасці і любові сярод людзей. А такія катэгорыі характарызуюць большасць развітых краін Еўропы і Амерыкі. Менш за ўсё традыцыі талерантнасці ўласцівыя посткамуністычным краінам, у тым ліку і Беларусі.

Закончу на больш аптымістычнай ноце. Калі мы ўсё ж гаворым аб традыцыях Вялікага княства Літоўскага як еўрапейскай дзяржавы, то нам застаецца, як гэта было ў мінулым, увайсці ў Еўропу. Яна нас прыме.

**Анатоль АСТАПЕНКА,**
**кандыдат фізіка-матэматычных навук.**

# «ТОЛЬКІ НЕ ТРЭБА ГАВАРЫЦЬ...»

*(Пачатак на стар. 13)*

*«-касць» — нічога! Псеўдашляхецкая пыха «паляк то пан, а не паляк то хам!», шчасліва дакульгаўшая на «крэсах» да нашых дзён, яму была непатрэбная — Мацкевіч ці Сыракомля і так мелі чым вызначыцца перад «мужыком» альбо «жыдам»; «я — паляк!» крычалі шэранькія чалавечкі, якія не мелі іншых адзнакаў.*

Міжваеннае віленскае «Слово» братоў Мацкевічаў ад першага да апошняга нумара крытыкавала «крэсовую» палітыку пані Варшавы, пісала пра яўрэяў-студэнтаў, якіх прымушалі слухаць лекцыі стоячы, бо «в обэцносці полякув», пісала пра спаленыя праваслаўныя цэркаўкі ды пра паліцыю, якая так і не знайшла аніводнага падпальшчыка... Дарэчы, за тыя цэркаўкі неяк заступіўся аж герой вайны 1920 года генерал Люцыян Жэлігоўскі — за што і выгналі яго з арміі.

А вось «іншыя» віленчукі пісалі іначай. Неяк сам трымаў у руках брашурку, скіраваную супраць беларускіх «гурткоў» і падпісаную псеўданімам, у якой аўтар сцвярджаў, што быццам бы сам Францішак Багушэвіч прызнаваўся яму, аўтару, што ён пісаў «па-мужыцку» толькі таму, што рускія страшна русіфіцыравалі «польскі люд», а той польскі люд — ах, якая бяда! — па-польску разумеў слаба, а ўсё больш па-просту, па-тутэйшаму...

Што дзіўнага, што сярод такіх галюцынацый ад патрыятызму браты Мацкевічы выглядалі ў той Вільні белымі варонамі!

Дарэчы, калі нават пагадзіцца, што тое «краёўства» Юзэфу Мацкевічу прышчапілі яго «літоўскія» цёткі, то як тады разумець, што *ў 1938 годзе, — пра гэта ў варшаўскай «Палітыцы» адносна нядаўна пісаў К. Казьнеўскі, — ён патаемна перахрысціўся... з каталіка на праваслаўнага!* Здаецца, сярод летувісаў праваслаўных яшчэ менш, чым сярод палякаў. А вось перад вайной «на крэсах» праваслаўе было ледзь не афіцыйнай верай «мнейшосьці народовых» — а на Віленшчыне такімі былі адны беларусы...

Толькі не трэба адразу ж пытаць «паляк ці беларус?» і цягнуць пана Юзэфа «пад сябе». Сам Мацкевіч не любіў, каб яго куды-кольвек цягалі. Гэта яму было не трэба.


**ЛіМ**

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

**Выходзіць з 1932 года**

**Газету рэдагавалі**
**Х.Дунец (1932-35)**
**І.Гурскі (1935-41)**
**А.Куляшоў (1945-46)**
**М.Горцаў (1947-49)**
**П.Кавалёў (1949-50)**
**В.Вітка (1951-57)**
**М.Ткачоў (1957-59)**
**Я.Шарахоўскі (1959-61)**
**Н.Пашкевіч (1961-69)**
**Л.Прокша (1969-72)**
**Х.Жычка (1972-76)**
**А.Асіпенка (1976-80)**
**А.Жук (1980-86)**
**А.Вярцінскі (1986-90)**

**Галоўны рэдактар**
**Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Андрэй ГАНЧАРОЎ**
**(першы намеснік галоўнага рэдактара),**
**Юрась ЗАЛОСКА,**
**Міхась ЗАМСКІ,**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ**
**(намеснік галоўнага рэдактара),**
**Юрась СВІРКА**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі 332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара 332-525, 331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі 332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі 331-985**
**літаратурнага жыцця 332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі 332-204**
**паэзіі і прозы 332-204**
**музыкі 332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання 332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў 332-462**
**навін 332-462**
**мастацкага афармлення 332-204**
**фотакарэспандэнт 332-462**
**бухгалтэрыя 268-640**

**Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".**

**Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.**

**Пазіцыя рэдыкцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.**

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**

**Друкарня "Беларускі Дом друку"**

**Індэкс 63856. Наклад 19.000.**
**Нумар падпісаны 24.03.1994 г.**

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

